— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

23 ЖНІЎНЯ 1996 г. № 34 (3858) Кошт 2 500 руб.





## ПРЭМ'ЕРА, ШТО ЗАКРЫЛА СЕЗОН...

*"Мастак не павінен тлумачыць свет, які стварыў". "Самае цяжкае — не апраўдвацца".*

*Што дадаць да гэтых высноў з жыцця й мастацтва? Належаць яны Фрыдрыху Дзюрэнмату. Прэм'ера паводле ягонае п'есы "Ромул Вялікі" закрыла сёлетні тэатральны сезон. Але рэжысёр Валерый Раеўскі не дужа схіляўся даваць інтэрв'ю. Хіба распавёў пра ідэю спектакля, якая змясціла ў сабе, да ўсяго, і праграмнае мастакоўскае супрацьстаянне любой уладзе, любым уладатрымцам (зрэшты, не першы раз). Свой сцэнічны свет не тлумачыў. Не апраўдваўся. Усміхаўся шырока. Відаць, маючы на ўвазе запаветы Дзюрэнмата.*

*Між тым "Ромул Вялікі", гістарычна недакладная камедыя, як падае сам драматург, напэўна прымусіць сяго-таго вярнуцца ў тэатральную залу. Работы купалаўскіх акцёраў А. Мілаванава, В. Манаева, Т. Пузіноўскай, Г. Давыдзькі, М. Кірычэнкі, а таксама партнёраў, старэйшых і маладзейшых, вартыя таго. Як і сцэнаграфія Барыса Герлавана. Праўда, папярэджваем. Паколькі антаганіст ды пратаганіст спектакля — заўзятыя кураводы, над усім першым шэрагам партэра вісіць пагроза выкачацца ў пер'е. Але паводле асноўнае спецыялізацыі яны — імператары ды валадары... Сцэны, перш-наперш. З чым мы і пакідаем іх да рэцэнзій наступнага сезона. Толькі й зычым, што поспеху — і ў велічы, і ў гістарычных недакладнасцях.*

**Ж. Л.**

*Фота Віт. АМІНАВА*









# КОЛА ДЗЁН

***Складваецца ўражанне, што прэзідэнт і ягоная каманда намнога пераацэньваюць, завышаюць ролю прэсы ды і сродкаў масавай інфармацыі наогул у нашым сённяшнім жыцці. І тут, пэўна, "жывуць" яны меркамі савецкіх часоў, калі газета "Правда" і праграма "Время" мелі аўтарытэт і сілу ледзь не закона і права "ісціны ў апошняй інстанцыі". А дарэмна. Цяпер сітуацыя моцна змянілася. Наклады газет упалі, аўдыторыя БТ значна зменшылася. Вяскоўцы ды пенсіянеры, альбо тыя, каго і называюць словам "электарат", сёння — асноўныя гледачы БТ і падпісчыкі афіцыйных газет. А іх якраз пераконваць у правільнасці курсу і своечасовасці ініцыятыў прэзідэнта не трэба. Наадварот, навязлівая, напорыстая "рэклама" таго ж рэферэндуму можа надакучыць ім, апастылець, і тады ўступіць у сілу "феномен Кебіча": чым болей заклікаў, тым меней галасоў... Моладзь жа і гараджане афіцыйныя газеты амаль не чытаюць, БТ не глядзяць. Па-першае, ёсць сякі-такі выбар, па-другое, няма ахвоты дарэмна час губляць, гледзячы чарговую "нараду". Думкі і меркаванні складваюцца тут зусім не паводле афіцыйнага друку, тут свае крытэрыі і свае аўтарытэты. І зноў падмануць гэтых людзей, прымусіць "паверыць" у каторы раз — не ўдасца. Сцяну непаразумення, а то і непрыняцця, пагарды, што ўзнікла сёння паміж, скажам, моладдзю і прэзідэнтам, думаецца, не змогуць зруйнаваць ні Замяталін, ні Посахаў, ні, тым больш — Якубовіч з Гукоўскім ды Зімоўскім...***

## НЕСПАКОЙ ТЫДНЯ

Мінулы рабочы тыдзень прэзідэнта прайшоў у паездках па краіне. Ён паспеў пабываць на Гарадзеншчыне, Навагрудчыне, Шклоўшчыне, Аршаншчыне, Талачыншчыне... Паўсюль былі сустрэчы з насельніцтвам і "вертыкальшчыкамі". Прэзідэнт тлумачыў сваю "палітыку", апошнія прапановы, а таксама хацеў упэўніцца ў падтрымцы народа і адданасці "вертыкалі". Не дзіва, што гэта яму ўдалося. Актыўнасць А. Лукашэнкі ўражвае. І, з аднаго боку, абвяргае ісціннасць прымаўкі, што "адзін у полі не воін", а з другога боку пацвярджае той факт, што каманды, як такой, у яго няма, ён быў і застаецца адзін...

## ЦЭНЗУРА ТЫДНЯ

На сустрэчы з гарадзенцамі прэзідэнт некалькі разоў паўтараў, што ў рэферэндум ён уключыць і "пытанне пра давер прэзідэнту". Пачуць словы А. Лукашэнкі маглі ўсе, хто глядзеў у той вечар БТ. Прагучала гэта па меншай меры сенсацыйна. Аднак ні назаўтра, ні пазней афіцыйныя газеты, паведамляючы пра выступленне і шырока цытуючы яго, не паведамілі пра рашэнне прэзідэнта ўнесці ў рэферэндумны спіс пятае пытанне. "Замаўчаць" яго наўрад ці ўдасца, бо ў дэпутатаў Вярхоўнага Савета таксама ёсць вушы. А значыць, памочнікі прэзідэнта цяпер працуюць над такой фармулёўкай, каб нават жадаючы адказаць "не", народ сказаў "так".

## ЦЫТАТКІ ТЫДНЯ

"Калі ўжо і трэба праводзіць рэферэндум — то без мітусні, і толькі строга па закону, і толькі з захаваннем усіх абавязковых працэдур. Нельга такую святую справу як плебісцыт ператвараць у штогадовае шоу тыпу "Славянскага базара" ў Віцебску. Нельга прыніжаць народ рэспублікі ўсім гэтым пошлым штукарствам".

*(З артыкула першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, першага сакратара ПКБ Васіля НОВІКАВА, "Свабода", 20 жніўня г. г.)*

"На мой погляд, прэзідэнт Лукашэнка абразіў Вярхоўны Савет і ўвесь беларускі народ сваімі прапановамі па рэферэндуму. Ён, скажам так, паклаў на стол Старшыні Вярхоўнага Савета "ката ў мяшку". Тут яўны разлік на тое, што, даруйце, акалпачаны народ нічога не зразумее, а парламентарыі збаяцца. А таксама надзея на тое, што спрацуе магічны давер да "ўсенароднаабранага". Але пры гэтых "пражэктах" трэба ўсім іх аўтарам памятаць беларускую мудрасць: "Калі раз зманіў, другі раз не павераць".

*(З артыкула былога Старшыні ВС Беларусі Георгія ТАРАЗЕВІЧА, "Народная воля", N 47).*

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Беларусь з трохдзённым візітам па блаславенні Папы Рымскага наведаў ватыканскі кардынал Акіле Сільвестрыні. Ён меў сустрэчы з мітрапалітам Філарэтам і кардыналам Казімірам Свёнткам, аднак асноўнай ягонай мэтай былі сустрэчы з беларускімі уніятамі. Падчас візіту кардынала ў Магілёве была асвечана першая ў Беларусі грэка-каталіцкая капліца. Некалі магутная, Беларуская грэка-каталіцкая царква сёння робіць шмат дзеля свайго адраджэння. Ужо зарэгістравана ІІ парафій, працуе пяць святароў. Візіт кардынала ёсць першае афіцыйнае прызнанне яе, а значыць, з'явілася і надзея, што ў недалёкай будучыні будзе створана іерархія БГКЦ і яна стане першай сапраўды беларускай, незалежнай Царквой у нашай краіне.

## АДЗІНСТВА ТЫДНЯ

"Круглы стол" прадстаўнікоў самых розных партый, рухаў і грамадскіх арганізацый Беларусі, які прапанавала правесці гэта званая "сямёрка" самых уплывовых партый, усё ж адбыўся. Праўда, без удзелу прэзідэнта ды (у самы апошні момант адмовіліся) "афіцыйных прафсаюзаў". Відома, ніхто не чакаў, што з першай жа спробы "лебедзь, рак і шчупак" змогуць прыняць рашэнне, якое б задаволіла ўсіх. Аднак першае знаёмства "апазіцыянераў" хоць і было сумбурным, ды не было пустым. Самае галоўнае, што "круглы стол" не ператвbooрыўся ў "квадратны", а значыць яднае прадстаўнікоў розных партый і сапраўды адзіны боль, адзіная турбота.

## "ТАЯМНІЦА" ТЫДНЯ

Быў альбо не быў выдзелены прэзідэнтам "мільён на подкуп журналістаў"? ("Известия", 15 жніўня). Пра тое, што гэтулькі грошай выдзелена на "праграму знешнепалітычнага забеспячэння рэферэндуму", паведамілі і многія беларускія выданні. Не дужа аператыўна, аднак прэс-служба прэзідэнта аспрэчыла гэтыя паведамленні, абвінаваціўшы ва ўсім "нячэсных" журналістаў. Было заяўлена, што такога дакумента няма, бо ніводная газета не надрукавала яго копію. І тут жа, пэўна, на выпадак публікацыі дакумента, заяўшчыкі перастрахаваліся: маўляў, падрабіць такі дакумент пры сённяшнім узроўні тэхнікі, зусім няцяжка...

## "РАДАСЦЬ" ТЫДНЯ

Выступаючы перад працаўнікамі гарадзенскага ВА "Азот", прэзідэнт Беларусі абрадаваў усіх бяспашпартных грамадзян краіны, што ўжо на гэтым тыдні пачнецца выпуск новых пашпартоў. Памятаецца, тое, якім быць новаму пашпарту незалежнай Беларусі (часоў Шушкевіча), якія дадзеныя і на якіх мовах у яго ўносіць, некалі доўга абмяркоўвалася. Новы ж, "лукашэнкаўскі" пашпарт, як некалі сцяг і герб (а цяпер яшчэ і Канстытуцыю), мы ўбачым толькі як "гатовы прадукт"...



З нагоды

# ЦЯГНІК, ЯКІ ПАЙШОЎ

"Савецкая карта" будзе разыгрывацца палітыканамі на постсавецкай прасторы яшчэ не адзін год. Бадай толькі ў краінах Балтыі гэта карта бітая канчаткова. Балтыя рашуча парвала з "савецкім перыядам" сваёй гісторыі, пазначыўшы яго жорсткім словам "акупацыя". Адпаведнае і стаўленне да ўсяго, што ўвасабляла акупацыйны рэжым: камуністычнай ідэалогіі, сацыялістычнай эканомікі, "дружбы народаў" на глебе любові да "старэйшага брата".... Магчыма, ёсць у справе балтыйскага адраджэння пэўныя перахлёсты (міжнародныя арганізацыі звярталі, прынамсі, увагу на элементы дыскрымінацыі ў адносінах да некарэннага насельніцтва гэтых краін), але Балтыя прымусіла Маскву паважаць сябе. У Расіі з Балтыяй больш цывілізаваныя стасункі, чым з краінамі СНД і, у прыватнасці, з Беларуссю. Каб цябе паважалі іншыя, трэба мець найперш самапавагу. Савецкая рэдакцыя беларускай гісторыі не пакідала беларусам ніякіх шанцаў "людзьмі звацца". Як адзначаў у гэтым сэнсе аўтар вядомай паэмы: "Нас без Расіі проста нет". Выхаваныя такой "гісторыяй", людзі спакойна ўспрымаюць здачу на карысць Расіі беларускага суверэнітэту. Гэта ў асноўным пенсіянеры, ветэраны. Іншая справа — моладзь. Старыя трымаюцца за ўспаміны — моладзі патрэбна перспектыва. Старым шкада вялікай краіны ад Таліна да Уладзівастока — маладыя беларусы ўсведамляюць, што, дзякуючы дэмантажу СССР, ім не давядзецца бяссэнсава гінуць дзе-небудзь у Чачні, Асеціі, альбо ў іншым "афгане" на тэрыторыі РФ. Моладзь на ўласным эканамічным досведзе адчувае нестыкоўкі эканамічных інтарэсаў Беларусі і Расіі, між тым, як старыя разважаюць пра нейкае там "славянскае адзінства".

Зрэшты, так званы канфлікт пакаленняў — з'ява нармальная, дыялектычна абумоўленая. Мудрыя людзі ставяцца да гэтага спакойна. "И наши внуки в добрый час из жизни вытеснят и нас" — канстатаваў без усялякай крыўды Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Аднак канфлікту пакаленняў у Беларусі жорсткасць надае тое, што ён правакуецца, штучна абвастраецца ўладай. На выбарах, на "рэферэндуме" сп. Лукашэнка паставіў на ветэранаў — і выйграў. Аднак жыць — маладым, а іх якраз сп. прэзідэнт пазбаўляе жыццёвай перспектывы. Якая ж можа быць перспектыва пры адсутнасці дэмакратыі, цывілізаванага рынку і павагі да нацыянальных каштоўнасцяў?

Вось і глеба для канфлікту пакаленняў. Настальгія старых па савецкім часе абарочваецца праблемамі для моладзі. Цяпер слова "ветэраны" толькі ў вуснах абслугоўваючых рэжым журналістаў гучыць з заміланнем і падкрэсленай павагай, у пабытавай гаворцы звычайных людзей "ветэран" — гэта тое ж самае, што "выкапень", "рэтраград", каб не сказаць горш... Дзякуй за гэта спадару Лукашэнку?

Для сённяшняй моладзі вайна, якую называюць Вялікай Айчыннай, значыць ужо меней, чым для людзей старэйшага і сярэдняга ўзросту, якія сутыкнуліся з той бядой непасрэдна, альбо праз лёс сваіх бацькоў. І усё ж, Вялікая Перамога — гэта, можа, адзінае святое, што засталося ў свядомасці ад Савецкага Саюза. А зараз уявіце, што будзе, калі 3 ліпеня — Дзень Вызвалення — будзе супрацьпастаўлены другому ліпеньскаму святу — Дню Незалежнасці? Прыклад маем: здаецца, не трэба ўдакладняць, як ставіцца моладзь да "новаБССРаўскага" сцяга і герба, якія сп. Лукашэнка супрацьпаставіў нацыянальным сімвалам.... Тое ж будзе і са святам 3 ліпеня. А шкада, бо гэта было прыстойнае свята.

Беларускі адпаведнік расійскага "насильно мил не будешь" — "даганяючы, не пацалуешся". А. Лукашэнка, сам чалавек адносна малады для палітычнага дзеяча, мог стаць лідэрам моладзі, але цягнік любові пайшоў, і прэзідэнт цяпер можа "пацалаваць" толькі рэйкі...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Адгалоскі

# ЛОГІКІ НЕ БАЧУ

Нехта сцвярджаў, што той чалавек, які не мяняе сваіх поглядаў — або дурань, або ўжо памёр. Але адна рэч — мяняць погляды дзякуючы сапраўднаму пераасэнсаванню нечага, а іншая — дзеля ўласнай выгады, дзеля дасягнення пэўных мэт.

Палітыка — не тая вобласць чалавечага жыцця, дзе трэба як мага лепей хлусіць. Сапраўдны палітык павінен быць хітрым, ведаць, калі, што і каму гаварыць, а пра што змаўчаць. Ён можа ісці на кампрамісы, можа нават часткова паступіцца прынцыпамі ды перакананнямі, але павінен рабіць гэта незаўважна. Так — прынята. (На жаль, дасягнуць чагосьці ў вялікай палітыцы па-іншаму часцей за ўсё не атрымліваецца). Урэшце, усё гэта ўспрымаецца нармальна, і такі чалавек карыстаецца даверам народа. Адно толькі, бывае прыкра, калі, прыйшоўшы да ўлады, ён пачынае рабіць штосьці зусім адрознае ад таго, пра што гаварыў раней...

Газета "Свабода" за 13 жніўня перадрукавала частку рэзалюцыі мітынгу-сустрэчы з дэпутатамі СССР і БССР, які адбыўся 1 чэрвеня 1991 г. у Магілёве. У 7 пункце гэтай рэзалюцыі прапанавалася "падтрымаць патрабаванні народнага дэпутата А. Лукашэнкі аб тэрміновай прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, у тым ліку зямлі..." Адразу згадаўся адзін цікавы (асабліва зараз) артыкул, змешчаны ў часопісе "Беларусь" (N 3, 1991 г.). Называецца ён "Вялікі перадзел?"; прысвечаны праблеме прыватнай уласнасці на зямлю. Аўтар — народны дэпутат БССР, дырэктар саўгаса "Гарадзец" Шклоўскага раёна А. Лукашэнка. Цяперашні прэзідэнт.

Чытаеш і — не пазнаеш у аўтары сённяшняга Аляксандра Рыгоравіча. Параўнаць, да прыкладу, нядаўнюю селектарную нараду і тое, што пісаў пра такія метады кіравання сельскай гаспадаркай тады яшчэ проста дэпутат: "Забыліся, што зямля — жывая, што дырэктывамі і нават самымі правільнымі лозунгамі ёй не дапаможаш...", "Камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання сельскай гаспадаркай прымушае яго (селяніна. — **А. Ш.**) нават думаць так, як хоча кіраўнік", "Я разумею, што накамандаваць народ можна, толькі адрадзіўшы селяніна — працаўніка. Ён павінен адчуць сябе гаспадаром, творцам. А ён стане такім тады, калі яму волю, свабоду дзеяння дадуць. Калі не панукаць, не павучаць, як араць, што сеяць, і не стаяць над душой з чарговым указаннем". (Даруйце за шырокае цытаванне, але надта ўжо яно паказальнае. Дарэчы, цытаты і тут і далей ні адкуль не выхапленыя й цалкам адпавядаюць кантэксту усяго артыкула сп. Лукашэнкі).

Яшчэ прыклад. Прэзідэнт стаіць на абароне калгасна-саўгаснай сістэмы. Гэта — зараз. А калі быў дырэктарам саўгаса, то гаварыў, што "прыярытэт калгаснай догмы стаў афіцыйнай догмай", і нават прызнаваўся: "Справа ў тым, што я саўгас развалій. Так-так, саўгаса як такога ўжо тры гады як не існуе, а ёсць аб'яднанне арэндных кааператываў "Гарадзец".

І, нарэшце, самае цікавае — пра прыватную ўласнасць на зямлю. Як вядома, гэта адно з пытанняў, якія прэзідэнт прапануе вынесці на рэферэндум. І хаця яно не галоўнае, не тое, дзеля чаго і збіраюцца праводзіць плебісцыт, але, як і пытанні пра перанос Дня незалежнасці й адмену смяротнага пакарання, патрэбна сп. Лукашэнку для захавання папулярнасці. У 1996 г. Аляксандру Рыгоравічу не спадабалася, што Вярхоўны Савет ухваліў прыватызацыю зямлі, хоць яшчэ пяць гадоў таму ягоная пазіцыя была абсалютна супрацьлеглай: "Што ж, шкада, канечне, што беларускі парламент адхіліў прыватызацыю, у тым ліку і на зямлю.... Але я не трачу надзеі: праз два-тры гады нам прыйдзецца вярнуцца да гэтага пытання. Жыццё прымусіць!" Прымусіла й вярнуліся. Але ВС зноў аказаўся вінаваты, што зрабіў "не так".

Рэферэндумнае "Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю альбо продаж зямлі?" — даволі цікавае паводле сваёй фармулёўкі. Адказ вынікае сам, дзякуючы ўсяго двум словам — "без абмежаванняў". На гэтае застрашальнае словазлучэнне й павінны зрэагаваць народ. Прэзідэнт пужае: "Скупяць, адбяруць!", выдатна разумеючы, што ўсё гэта — папулізм. Бо зусім слушна пісаў раней: "... Мне было смешна (а найбольш усё ж — горка) слухаць, як сур'ёзныя быццам бы людзі страшылі — варта, маўляў, дазволіць куплю-продаж... А хто нам перашкаджае стварыць такі механізм, які зямлю абароніць ад нячысціх рук?".

А вось яшчэ адна добрая думка з артыкула сп. Лукашэнкі ў "Беларусі": "... цывілізаваны рынак побач з канкурэнцыяй, падпрымальніцтвам прымае і прыватную ўласнасць. У такім разе, як можа галасаваць за адно, адмятаючы другое? Логікі не бачу". Сапраўды, патлумачыць цяжка. Хіба толькі тым, што, як пісаў сам Аляксандр Рыгоравіч: "Аддаць зямлю сапраўдным гаспадарам яе — значыць прыблізіць свой палітычны крах".

**Аляксей ШЭІН**

Рэпліка

# ДАНОС

Учарашняя "Знамя юности" надрукавала гнюсны данос не проста на выданні, якія асмельваюцца сёння пісаць праўду пра палітычнае і эканамічнае становішча ў Беларусі, але і на ўсю інтэлігенцыю, незалежна ад палітычных, моўных і іншых арыентацый. "Погромы начинают "интеллектуальные" подстрекатели. Их надо вовремя остановить", — піша нехта Кім Ягораў. Сярод газет і часопісаў, якія абвінавачваюцца ў антыдзяржаўнай палітыцы (трэба разумець — антыпрэзідэнцкай, бо тую ж "Знамя юности" сёння можна назваць "сабораўскім", "прапрэзідэнцкім" выданнем, толькі не выданнем Дзяржавы Беларусь) — практычна ўся беларускамоўная прэса, ад "Звязды" да, зразумела, "ЛіМа". Што тычыцца непасрэдна нашага выдання, то ў гэтай публікацыі ўсё няпраўда. Калі б такую "сытую" кармёжку, якой нас папракаюць, атрымлівалі журналісты "ЗЮ", то яны даўно перайшлі б працаваць на радыё "Бі-бі-сі" альбо ў які-небудзь "СПИД-инфо"... Але галоўнае не гэта, галоўнае тое, што аўтар артыкула "Подстрекатели" свядома ці несвядома якраз і стаў падбухторшчыкам, цкавальнікам улад на расправу з беларускім дэмакратычным друкам.

**ЛІМАВЕЦ**

**ДА ЎВАГІ АЎТАРАЎ, СЯБРОЎ ЧАСОПІСА „МАЛАДОСЦЬ"!**

Рэдакцыя часопіса "МАЛАДОСЦЬ" цяпер мае новы адрас: 220600, Мінск, пр. Машэрава, 11, пакоі 904, 914, 917—919.

Рабочыя тэлефоны: аддзелаў паэзіі, прозы і публіцыстыкі — 226-93-40; крытыкі і тэхнічных супрацоўнікаў — 223-26-00; адказнага сакратара і мастацкага рэдактара — 226-63-72.

# ІРКУЦКАЕ КУПАЛЛЕ

***"Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць..." Міжволі ўспамінаеш гэтыя словы паэта, калі даведваешся пра існаванне свядомых асяродкаў беларушчыны далёка за межамі Беларусі. Асабліва калі ўзнікаюць і актывізуюцца тыя асяродкі сёння, у час, калі на самой Бацькаўшчыне нацыянальная культура адсоўваецца на другі план.***

***У далёкай Іркуцкай вобласці, дзе, дарэчы, жыве 25 тысяч беларусаў, у Іркуцку стварылася таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага. Рэдакцыю наведаў старшыня таварыства Алег Рудакоў, гутарку з якім і прапануем чытачам.***

**— Спадар Алег, як вы апынуліся ў Іркуцку?**

— Я жыву там ужо сем гадоў, а сам родам з-пад Полацка, дзе й цяпер жывуць мае бацькі. У Сібір прывяла служба ў арміі — я скончыў Цюменскую вышэйшую камандную вучэльню. Цяпер, дарэчы, службу пакінуў і вучуся ў Іркуцкім дзяржаўным універсітэце на гістфаку.

**— Як узнікла ваша таварыства?**

— У мінулым годзе я ўдзельнічаў у IV з'ездзе ТБМ. Там, у гутарках, выспела думка — паспрабаваць зрабіць таварыства беларускай мовы ў Іркуцку. Беларусы жывуць у нас паасобку, не гуртуюцца, не кажучы пра тое, каб размаўляць на роднай мове. Надрукаваў у мясцовай рэгіянальнай газеце "Советская молодежь" аб'яву, што маю матэрыялы са з'езда ТБМ, беларускія газеты і прапанаваў усім, хто жадае з імі пазнаёміцца, патэлефанаваць мне. Адгукнулася артыстка музычнага тэатра Людміла Чаканнікава, начальнік цэха аднаго з заводаў Васіль Кісялёў, прафесар медінстытута Анатоль Рэут, добрая знаёмая, з якой разам служылі ў арміі, Надзея Бальчук. 23 лютага сабраліся на першае пасяджэнне. Урэшце вырашылі ствараць не таварыства беларускай мовы, а суполку з больш шырокай праграмай — захаванне беларускай культуры, традыцый. 31 траўня правялі першы з'езд беларусаў Іркуцкай вобласці. Для афармлення запрашальных білетаў выкарысталі адбітак шаўрона з "Пагоняй" які яшчэ нядаўна насіла беларуская міліцыя. Сабралася 40 чалавек, прысутнічаў начальнік аддзела нацыянальных адносін Іркуцкай адміністрацыі, прадстаўнікі краязнаўчага музея, карэспандэнты. Так што ў хуткім часе мы змаглі прыняць удзел у "круглым стале" прадстаўнікоў славянскіх культурных цэнтраў.

**— Здаецца, на ваш покліч адгукнуліся ў асноўным беларусы — прадстаўнікі інтэлігенцыі?**

— Так, але не зусім — ёсць і вайскоўцы, можа быць, таму, што я сам — вайсковец.

**— Іркуцкае таварыства беларускай культуры мае памяшканне?**

— Афіцыйны адрас нам далі — былы музей, так званы "Дом месціча". Але гэта толькі адрас. Памяшкання мы не маем. Увогуле ў нас нічога няма. Усё раблю за ўласныя грошы. І юрыдычна мы пакуль не зарэгістраваны — узніклі праблемы з імем Я. Чэрскага. Ад нас патрабуюць, калі хочам назваць таварыства яго імем, ягонай уласнай згоды або згоды яго нашчадкаў. А што паробіш, калі сам Я. Чэрскі даўно нябожчык, сын яго загінуў у грамадзянскую вайну і род перарваўся?

**— Якія яшчэ справы на рахунку таварыства, акрамя з'езда ды пасяджэнняў?**

— Зладзілі цудоўнае святкаванне Купалля — яно мела розгалас у прэсе і дадало нам шматлікіх прыхільнікаў. Свята адбывалася на беразе ракі Олхі. Пачалося яно з майго даклада пра гісторыю Купалля, пра Янку Купалу, чый дзень нараджэння вырашылі адзначыць разам з Купаллем. Чыталі вершы паэта, паставілі сцэнку з "Паўлінкі". Дзеці разыгралі п'есу-казку "Муха-пяюха". Брала ўдзел у свяце заслужаная артыстка Расіі, таксама беларускага паходжання, Людміла Любіменка. Вадзілі карагоды, спявалі "Купалінку", скакалі цераз вогнішча... Была і свая Купалінка... І папараць-кветка была. Дакладна апоўначы ўсе ўдзельнікі свята пайшлі яе шукаць. Кветку — праўда, бутафорскую — знайшоў адзін хлопчык, за што і атрымаў прыз. Пяцьдзесят чалавек прыйшло на наша Купалле, не лічачы дзяцей, — больш, чым на з'езд.

**— Асоба Чэрскага, напэўна, славутая ў Іркуцку. Як паставіліся прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў да выяўлення яго беларусам?**

— Ёсць праблемы... Дагэтуль Чэрскага лічылі ў Іркуцку палякам. Давялося выступаць у друку з артыкуламі і тлумачэннямі яго паходжання.

**—Адкуль узнікла ў вас асабіста цікавасць да беларушчыны?**

—Я вучыўся ў беларускамоўнай вясковай школе, заўсёды падабалася чытаць па-беларуску. Падчас вучобы ў вайсковай вучэльні было так: прывязеш з сабой кнігу — сцягнуць, нічога не паробіш — казарма. А калі кніжка беларускамоўная, пакладзеш на тумбачку — ніхто не чапае, нават беларусы... Ну, гэта жартам, а сур'ёзна — заўсёды цікавіўся гісторыяй і культурай свайго народа.

**— Хто-небудзь з Беларусі дапамагае вашай дзейнасці?**

— Таварыства беларускай мовы два разы высылала нам газеты — "ЛіМ", "Наша слова". І ўсё, бадай. Цяпер наша мара — выпісваць беларускія газеты. Бо не маем ніякай інфармацыі з Бацькаўшчыны, толькі праз расійскую прэсу.

**— Ці размаўляе яшчэ нехта ў Іркуцкай вобласці на беларускай мове?**

— За 420 кіламетраў ад Іркуцка ёсць вёска Тарнопаль, у складзе якой тры паселішчы — Гомельск, Якаўльск, Тульск. Там жывуць у асноўным беларусы, якія размаўляюць на беларускай мове. Маладзейшае пакаленне — на нашай трасянцы, а старэйшыя — чыста, як і на Беларусі не пачуеш. Ёсць яшчэ вёска — Анучынск, дзе шмат беларусаў. Далей на поўнач — Боханскі раён, дзе таксама нас шмат. Пераязджалі туды ў трыццатых гадах, па вярбоўцы. На Беларусі былі калгасы, а ў Сібіры дазвалялі быць аднасобнікамі. Дасюль бульбу ў гэтых паселішчах саджаюць барознамі, канём. Гэта характэрна толькі для Беларусі. Яшчэ адна адмеціна беларускасці — да 50-х гадоў сеялі каноплі, лён, жыта. Перасяленцы былі ў асноўным з вёскі Калядзічы Гомельскага павета і Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Дзяцей іх, народжаных у Сібіры, запісвалі як рускіх, хаця іх родныя браты і сёстры значыліся беларусамі. І цяпер заходзіш у хату да такой цётачкі, што руская па пашпарце, а вітае цябе чысцюткай беларускай мовай.

**— Якія планы ў таварыства?**

— Ёсць ідэя — стварыць у Іркуцку беларускую нядзельную школу. Мясцовыя ўлады абяцалі дапамагчы. Хочам склікаць Усесібірскі з'езд беларусаў. Наладзім сувязі з аналагічнымі суполкамі ў Новасібірску, Кемераве, Якуцку.

**— Якія адносіны да таварыства з боку мясцовага насельніцтва?**

— Іркуцкая інтэлігенцыя толькі ўзрадавалася, што ўзнік яшчэ адзін культурны цэнтр. Аднак сярод "простага" люду ёсць і такія, што бачаць у нас нацыяналістаў. Вось сярод саміх беларусаў хапае тых, якім ніякая беларушчына не патрэбная. Ці як адна цётачка, што цікавілася, якія льготы тым, хто ў беларускае таварыства запішацца. Кажу — бясплатны праезд у транспарце. Узрадавалася — пішыце мяне! Прызнаюся, што пажартаваў. Яна — тады не трэба. Працягваю гаворку, маўляў, будзем жанчын — сябровак таварыства — з 8 сакавіка віншаваць, падарункі даваць. Цётачка зноў — запісвайце мяне. Увогуле, у планах нашага таварыства шмат цікавага. Для ўсіх, хто захоча з намі супрацоўнічаць, падаю кантактны адрас:

*664078, Іркуцк, мікрараён "Зялёны", д. 15, кв. 38, Рудакову Алегу Васільевічу.*

**— Дзякую, спадар Алег, за гутарку. Жадаю плёну ў вашай высакароднай справе.**

**Гутарыла Людміла ШНІП**



Варункі

# ЖНІВЕНЬ

*Ідуць касцы, звіняць іх косы...*
Якуб КОЛАС

**Гарачы жнівень стаіць на Беларусі. У Мінску зараз цяжка. Смуродам патыхае разамлелы асфальт, задушліва ў бетонных кватэрах. Адзін мой знаёмы паехаў на Кіпр з жонкай і дзіцем. Паездка на месяц абышлася для яго ў тры тысячы долараў. Другая знаёмая зусім не пайшла ў адпачынак. Сядзіць, парыцца на рабоце, узяла грашовую кампенсацыю за адпачынак, бо мужу на заводзе яшчэ за чэрвень не выплацілі заробак. Трэці, яшчэ вясною кінуўшы дзяржаўную працу, на якой атрымліваў капейкі, зараз перабіваецца на шабашках, а то збірае разам з жонкаю ягады, лісічкі. Гэтым жа займаецца і мой сусед Міхайлавіч. Бо пенсіі хапае на пятнаццаць пляшак гарэлкі ў месяц, а трэба грошай — на трыццаць адну. Лета — якраз сезон.**

**На лецішчах пад Мінскам адыходзяць ужо гуркі, спеюць памідоры. Сліў, як казала адна бабулька, — тайга, але на сочыва і кампоты патрэбны цукар, а долар зноў папёр угору...**

**Лета, а ў грамадстве так шмат незадаволеных. Часам здаецца, што незадаволеныя — ўсе. Бедныя — таму што бедныя і наперадзе няма прасвету, багатыя — бо не даюць разгарнуцца, учэпіста трымаюць за крысо і сытны кавалак ад эканамічнай ліхаманкі і круцялёў улады не лезе ў рот.**

**Моцна незадаволены і прэзідэнт. Яму перашкаджаюць працаваць парламент і палітычныя партыі, і Пазняк з Навумчыкам за мяжой, і капіталісты, якія нас зусім "не ждут", і Расія, якая надта фрыгідна рэагуе на недвухсэнсоўныя прапановы афіцыйнай Беларусі.**

**У сваю чаргу парламент незадаволены прэзідэнтам, які збіраецца правесці рэферэндум і распусціць яго. Ён пакуль што баіцца выказаць сваю нязгоду ў адкрытую і ціха незадаволены. Праўда, гучнай незадаволенасці не баяцца палітычныя партыі, якія збіраюцца выказаць яе за "круглым сталом".**

**Расія таксама не надта задаволена беларускім прэзідэнтам. Бачна, што, па іхніх мерках, ён ці не занадта спрытны. А ў іх зараз вайна і ім не да нас, хай бы хоць сцішыўся, пачакаў.**

**Шчыра прызнаюся, незадаволены і я. Лета было дажджыстае і так і не ўдалося сплыць на чаўнах па Пцічы. Бо што гэта за задавальненне, калі вада з усіх бакоў.**

**А зараз — задуха. Задуха стаіць у прыродзе і ў грамадстве.**

**Праўда, неўзабаве — верасень.**

**І там - 3 верасня, пачатак парламенцкай сесіі, якая, бываюць жа цуды, можа абярнуцца для "всенародно избранного" імпічментам.**

**Там — 14 верасня, 2-гі беларускі нацыянальны кангрэс, які хоча сабраць прэзідэнт, каб паднаціснуць і прыпалохаць парламент і на які мяркуюць прывезці — небывалая лічба, як у свой час на з'езды КПСС, — аж пяць тысяч "дэлегатаў".**

**А паміж імі — 8 верасня, дзень Беларускай вайсковай славы, традыцыйнае свята свядомых беларусаў, а гэтым разам можа і не толькі адных іх.**

**І гэта ж толькі тыя падзеі, пра якія мы дакладна ведаем. А пра што мы яшчэ можам даведацца?..**

**Спякотны жнівень. А верасень маецца быць не менш спякотным. І ў мяне, у сённяшнюю трыццаціградусную гарачыню, на конт гэтага толькі адзінае пытанне: ці задаволіць ён каго-небудзь, месяц верасень, ці вырашыцца што-небудзь у нас у лепшы бок, ці і надалей мы так і будзем гайдацца паміж небам і зямлёй?**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

Надзённае

***Шаноўныя лімаўцы!***

***Надрукуйце, калі ласка, гэты мой верш. А то некаторыя людзі думаюць, што і я прыняў удзел у конкурсе супраць нашай гістарычнай "Пагоні", за новыя сімвалы. Такога я не мог нават падумаць, там "канкурсанты" выкарысталі мой стары верш "Сцяг рэспублікі", які быў напісаны яшчэ ў 1956 годзе.***

***Усяго Вам добрага.***

***Шчыра Ваш***

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

## ЗВАРОТУ НАЗАД НЯМА

**Насіў я зброю на сваім гарбе,**
**Выконваў строгі**
**маршальскі загад, —**
**Але не чуў, каб сам супраць сябе**
**Галасаваў хтось за зварот назад.**

**Такога не было ў жыцці маім**
**Ні на вайне і ні пасля яе —**
**Ісці на рэферэндум і на ім**
**Выказваць думкі ўголас не свае.**

**Без ветру не закруціцца вятрак,**
**А пад дажджом**
**не ўсохне сенажаць.**

**Няўжо ж духоўна**
**мы збяднелі так,**
**Каб і сябе саміх не паважаць,**

**Каб адмаўляцца**
**ад сваёй зямлі,**
**Ад мовы, што жыццё табе дала?..**
**Напэўна, курс мы не туды ўзялі,**
**Дзе сонца, ласка,**
**дабрыня святла?**

**Падказвае цывільны,**
**вольны свет,**
**Сцвярджае і гісторыя сама, —**
**Што трэба толькі суверэнітэт,**
**І што звароту нам назад няма!**

*30 ліпеня 1996 г.*

# "ДАЎЖАНСКІЯ ВЕЧАРЫ"

Так назвалі сваю імпрэзу ўдзельнікі семінара "Уладзімір Дубоўка і сучасная беларуская літаратура", які адбыўся каля возера Даўжа, што на Пастаўшчыне. Ініцыятарам "вечароў" быў настаўнік з Пастаў, нястомны энтузіяст і паэт Ігар Пракаповіч. Дапамога з боку фонду Сораса дазволіла матэрыяльна падтрымаць яго ініцыятыву. На семінар прыехалі паэты, празаікі і літаратуразнаўцы з Мінска, Віцебска, Полацка, Глыбокага, якія так ці інакш спрычыніліся да творчасці славутага паэта, які быў родам з Пастаўшчыны: Генадзь Шупенька, Яўген Лецка, Уладзімір Арлоў, Валянціна Аксак, Марыя Баравік, Марыя Новікава, Алесь Жыгуноў, Франц Сіўко. Чынны ўдзел бралі земляклі Уладзіміра Дубоўкі паэты Янусь Малец, Аркадзь Нафрановіч, Ганна Жук, а таксама мастак Іосіф Атрахімовіч.

Добры пачатак размове пра творчасць Уладзіміра Дубоўкі далі ўспаміны настаўніцы Ніны Сцяпанаўны Храпавіцкай, якая некалі працавала ў Манькавіцкай школе. Яе вучні вялі доўгі час перапіску з паэтам, які некалі ў гэтай школе вучыўся. Пра свае сустрэчы з Уладзімірам Дубоўкам згадалі Генадзь Шупенька і Яўген Лецка. У выступленнях, у гутарцы прынялі затым удзел усе прысутныя. Згадваліся цікавыя факты, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта, з задавальненнем адзначалася, што памяць пра яго жыве на Беларусі, што ён "увайшоў у школьныя праграмы". Але выказвалася і заклапочанасць у сувязі з тым, што не проста знайсці чытачам творы Уладзіміра Дубоўкі, бо яны даўно не перавыдаваліся. "Выбранае" Дубоўкі трэці год не ўдаецца выдаць у "Мастацкай літаратуры", ляжыць без руху і падрыхтаваны самім аўтарам аднатомнік. Набліжаецца стагоддзе з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі. Было б няблага, каб "Даўжанскія вечары" актывізавалі падрыхтоўку да гэтай даты.

Удзельнікі "Даўжанскіх вечароў" вырашылі пры спрыяльных умовах сустракацца і надалей, зрабіць іх штогадовымі Дубоўкаўскімі чытаннямі.

**Міхась КЕНЬКА**

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ Ў ШЧЭЦІНЕ

**Зноў бел-чырвона-белы сцяг у выгнанні... І толькі там, за межамі роднай Беларусі, ён пачувае сябе вольна. Менавіта так: святочна і ганарыста ён зіхацеў у промнях сонца, калі ўзняўся на флагштоку Шчэцінскай школы дэмакратыі і самакіравання (Польшча) 27 ліпеня.**

**Гэтая школа запрасіла на вучобу грамадзян Беларусі дэмакратычных поглядаў.**

**У той дзень не было халодных твараў як сярод беларусаў (маладых і не вельмі), так і польскіх грамадзян. Толькі там, на другім баку Польшчы, надзвычай востра кожны беларус адчуў сум па Радзіме і сорам за свой народ, за выгнанне адвечных беларускіх сімвалаў.**

**У Польшчы, кожны малы паляк ведае пра "ожэл бялы" і свой сцяг; палякі адразу пасля вайны пачалі аднаўленне зруйнаваных фашыстамі сваіх гарадоў, гісторыі ў камені. І аднавілі Варшаву, Гданьск, Шчэцін і іншыя гарады ў кароткія тэрміны. Яны захавалі карані... А мы?**

**У Шчэціне Дзень Незалежнасці Беларусі быў святочным для ўсіх беларускіх грамадзян; на Беларусі пакуль што гэта далёка не так.**

**Але надзея яшчэ ёсць — зярняты дэмакратыі дадуць ураджай...**

**Валерый ГРЫЦУК,**
**вучань Шчэцінскай школы дэмакратыі самакіравання**

# ПОРУЧ З ПЕСНЯЙ



**Сёння ў нашым жыцці столькі праблем і цяжкасцей, што здаецца, зусім не да песень. Сёння амаль не сустрэнеш усмешку на тварах сваіх суайчыннікаў. Але вялікія праблемы пераадольваюць моцныя духам. І цяжкасці не такія непераадольныя, калі з намі па жыцці крочыць песня.**

**"У песні жыве душа народа" — гэты мудры выраз вельмі актуальны цяпер, калі ўсё менш беларускіх песень гучыць па радыё, тэлебачанні, калі беларусы ніяк не адчуюць сябе паўнавартасным народам, з самабытнай культурай, гісторыяй. І таму ініцыятыва Гарадоцкага РК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны — правесці агляд беларускай песні пад дэвізам "З песняй жыве народ!" знайшла падтрымку ў педагогаў раёна.**

**14 педагагічных калектываў удзельнічалі ў аглядзе беларускай песні. Гэта было сапраўднае свята, бо ў настаўніцкім асяроддзі даўно ўжо не было столькі ўсмешак, бадзёрасці, энергіі, як падчас канцэрта. Кожны калектыў прадставіў абрадавыя, народныя, сучасныя песні. Цэлы дзень гучалі беларускія спевы, даючы магчымасць яшчэ раз пераканацца, наколькі таленавіты, самабытны наш народ. Пераможцамі ў аглядзе аказаліся ўсе ўдзельнікі — пераможцамі над абыякавасцю, апатыяй, разгубленасцю. Лепшымі журы прызнала калектывы педагогаў СШ N 2, Бычыхінскай СШ, заахвоціла таксама настаўнікаў іншых школ.**

**Свята адбылося дзякуючы падтрымцы раённага аддзела адукацыі, Гарадоцкага філіяла Міжнароднага інстытута рэзервовых магчымасцей чалавека, ТАА "Грамада" (Віцебск). Удзельнікі агляду выказалі жаданне, каб свята беларускай песні адбывалася часцей.**

**Л. ГАРАВЫ**

*На здымку: вакальная група Езярышчынскага дзіцячага сада.*

*Фота М. КРАЎЦОВА*

*Меркаванне*

# "МАЛАЯ ЗЯМЛЯ" Ў БЕЛАРУСКІМ ВАРЫЯНЦЕ?

Што было, гавораць, таго не вернеш. Насуперак гэтаму выслоўю, прэзідэнт і яго атачэнне рэанімавалі ўжо шмат атрыбутаў таго часу, калі мы "гордились общественным строем", — ад "адзінага палітдня" да паказухі і аліліўшчыны, ад цэнзуры да палітычных рэпрэсій пад амаль БССРаўскім сцягам. Але падчас розных урачыстасцяў, звязаных з мінулай вайной, высветлілася: патрэбна яшчэ і свая "Малаязямля"! Навошта свая? Дык тая ж, брэжнеўская, не можа працаваць на імідж нашага галоўнакамандуючага, бо крамлёўскі маршал у свой час персаніфікаваў яе і прыватызаваў. Памятаеце, як было? Ніводнае ўпамінанне "Малой зямлі" не абыходзілася без імя "дарагога Леаніда Ільіча", а сама абарона плацдарма, які калі-нікалі наведваў палітработнік Брэжнеў, падавалася ледзь не вырашальнай у бітве за Каўказ.

Цяперашні беларускі "генсек", у адрозненне ад колішняга ўсеасаюзнага, пораху, вядома, не нюхаў, калі не лічыць сумніўную стральбу непадалёку ад Лёзна два гады таму. Затое зямля беларуская ў ваенныя ліхалецце прапахла порахам наскрозь. А Магілёў, з якім звязана большая частка свядомага жыцця А. Лукашэнкі, у цяжкім 41-м звыш трох тыдняў мужна трымаў абарону, скаваўшы буйныя сілы ворага, накіраваныя на ўсход. У 1980 годзе гораду быў уручаны ордэн Айчыннай вайны I ступені. Узнагарода дастойная, аднак не самая высокая. Акрамя таго, да яе не мае ніякага дачынення прэзідэнт Беларусі. А гэта ўжо, па сённяшніх мерках, яўнае бязладдзе.

І вось нядаўна, пэўна, з блаславлення вышэйшай інстанцыі, у друку з'явіліся прашэнні-патрабаванні аб прысваенні Магілёву звання горада-героя (нагадаю, такіх гарадоў на тэрыторыі былога СССР налічваецца толькі дванаццаць). Далей усіх у гэтым дамаганні пайшоў, бадай, галоўны рэдактар прэзідэнцкага часопіса "Беларуская думка" У. Вялічка, які ў сваім вялікім артыкуле (гл. "Народную газету" за 18 і 19 чэрвеня) пусціў у зварот выраз "Могилевская битва", вынесены ў загаловак. Відаць, перад гэтым ён не зазірнуў у энцыклапедыю ці ў іншы даведнік, дзе змог бы ўдакладніць, што ў Вялікую Айчынную бітвай называлі, калі ў двух словах, некалькі ўзаемазвязаных буйных наступальных (падкрэслена мной. — **Г. Л.**) і абарончых аперацый на важнейшых накірунках. Хто не ведае Маскоўскую бітву, Сталінградскую, Курскую або бітву за Ленінград, за Каўказ, за Днянро (на Украіне)? Кожная з іх прыводзіла да разгрому моцных груповак ворага і дасягнення значных палітычных і стратэгічных вынікаў.

А вось такіх выразаў, як бітва за Кіеў (ці Кіеўская бітва) або за Адэсу ці Севастопаль у даведачнай і гістарычнай літаратуры не знойдзеце, нягледзячы на тое, што гэтыя гарады праславіліся бяспрыкладнай стойкасцю ў абароне (Севастопаль, як вядома, знаходзячыся ў тыле праціўніка, трымаўся 250 дзён) і ўжо даўно ўдастоены геройскага звання. У такіх абставінах гаварыць пра "Могилевскую битву", на жаль, не выпадае.

Сёй-той скажа: не трэба прыдзірацца да недакладнасцяў пры ўжыванні ваеннай тэрміналогіі; у БелСЭ, напрыклад, надрукаваны артыкул пад загалоўкам: "Смаленская бітва", хоць у рускамоўных выданнях заўсёды пішуць: "Смоленское сражение". Вымушаны нагадаць, што гэтыя далёка не тоесныя паняцці — "битва" (азначэнне гл. вышэй) і "сражение" (сукупна звязаныя паміж сабой удары і баі ў ходзе аперацыі) — па-беларуску гучаць аднолькава: "бітва". Але праблема асэнсавання слоў з гэтай прычыны не магла паўстаць перад У. Вялічкам, бо яго артыкул надрукаваны і, выходзіць, напісаны на рускай мове.

Ні ў якім разе не жадаю прымяншаць ролю абаронцаў беларускага горада, а таксама і "Малой зямлі" ў зрыве планаў акупантаў. Хаця б таму, што і самому давялося хапіць акопнага жыцця і добра ведаю, што яно несалодкае. Але не трэба займацца і перабольшваннем. Гэта тычыцца як простых смяротных, так і самага высокага начальства.

Чытаю віншаванне сугрaмадзянам з нагоды 51-й гадавіны Перамогі, падпісанае А. Лукашэнкам, і затрымліваюся на фразе: "Месячную асаду вытрымаў непахісны Магілёў". Чаму "месячную" ды яшчэ "асаду", калі ўся абарона горада, а значыць, баі і ў акружэнні (асадзе), доўжылася з 3 да 26 ліпеня? Так сведчыць практычна ўся пасляваенная літаратура, гэтаму не супярэчыць і артыкул у "НГ". А ў адной кніжцы, выдадзенай у Мінску два гады таму ("Беларусь в годы Великой Отечественной войны"), нават прапісам напісана, колькі дзён абараняўся Магілёў, адбіваючы напад ворага: дваццаць тры!

Можа, аўтар віншавання за "Пункт адліку" узяў 26 чэрвеня — дзень, калі пачалі капаць траншэі і супрацьтанкавыя рвы? Гэта ў корані няправільна. Для прыкладу, сухапутная абарончая сістэма таго ж Севастопаля стварылася з пачатку ліпеня 1941-га, а баі на бліжэйшых подступах да горада завязаліся толькі 30 кастрычніка. Гэты дзень і лічыцца пачаткам яго гераічнай абароны. А ў раёне Магілёва баі распачаліся менавіта 3 ліпеня.

Наогул, калі немцы наблізіліся да Масквы, дык было загадана капаць акопы і траншэі вакол гарадоў, якія знаходзіліся і ў глыбокім тыле. Так, мне, эвакуяраваnamу з Беларусі школьніку, давялося ўдзельнічаць у стварэнні абарончых абводаў на тэрыторыі тагачаснай Горкаўскай вобласці. Дзякуй Богу, яны не сталі лініяй агню.

...Распавядаючы, як яго колішні шэф П. Машэраў "вознамерился в 1980 году восстановить справедливость" (у выніку Магілёў атрымаў вышэйпамянёны ордэн, які, дарэчы, у артыкуле названы недакладна — з лішнім словам "Великой"), У. Вялічка справядліва заўважыў: "Тогда в средствах массовой информации воспевалась лишь "Малая земля". Она как бы оттесняла всё другое, делала его незначительным, второстепенным". Дазволю сабе спытаць у паважанага журналіста: а чаму гэта ў паслябрэжнеўскі перыяд, калі званне горада-героя атрымаў той жа Смаленск, ніхто, у тым ліку і ён сам, не паспрабаваў адкрыта (была ж галоснасць!) загаварыць пра абыдзеныя заслугі беларускага горада? Мо таму, што дагэтуль ніводзін вышэйшы кіраўнік нашай дзяржавы не быў асабіста зацікаўлены ў яго новай узнагародзе?

І галоўнае: ці не паўторыцца на Беларусі "Малая зямля" застойных часоў у новым варыянце, калі прэзідэнт зробіць тое, што прапануецца ў "НГ" — прысвоіць "своим указом" Магілёву званне горада-героя і тым самым "вернет народу еще одну запоздалую правду"? (Якія, дарэчы, маюцца на ўвазе "вернутыя праўды"? Ці не тыя, якім прысвечаны першыя радкі гэтага матэрыялу?).

Прынамсі, сімптомы, так бы мовіць, "малаземельскай" хваробы ўжо пачалі праяўляцца на Беларусі. Да прыкладу, усе, хто падзяляе выказаную У. Вялічкам ідэю, уключаючы Магілёўскі аблвыканкам, безумоўна, ведаюць, што згодна з нашым заканадаўствам дзяржаўнымі ўзнагародамі цяпер адзначаюцца толькі грамадзяне. Але хадайнікі, відаць, лічаць, што самае важнае дасягнуць палітычнай мэты, даць Магілёву "героя", а ці ёсць для гэтага юрыдычныя падставы ці не — справа "незначительная, второстепенная".

Ганаровае званне, прысвоенае гораду з парушэннем дзеючых законаў ды яшчэ з пэўным прыцэлам — каму гэта патрэбна? Тым жыхарам Магілёва і вобласці, грамадзянам Беларусі, якія не ведаюць, як звесці канцы з канцамі? Ветэранам, што іншы раз у роспачы гатовыя прадаць свае баявыя ўзнагароды? Моладзі, якой улады прадпісваюць, куды хадзіць, што чытаць і думаць, на чый партрэт любавацца? Не і не! Гэта перш за ўсё патрэбна Самому, яго шматлікаму атачэнню, вертыкальшчыкам і проста падпявалам. Патрэбна, каб яшчэ больш было пампезнасці і фанфаронства падчас яго "сустрэч з народам", каб яшчэ гучней спявалася Яму асанна.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ,**
**інвалід Вялікай Айчыннай вайны, ветэран Узброеных Сіл**

*Вечарыны*

# БАЦЬКОЎСКІЯ ПЕСНІ

Відаць, нішто так не ўздзейнічае на нашы пачуцці, як добрая песня. Асабліва, калі яна — аб тым, што сапраўды хвалюе, калі яна і салодкая, і балючая адначасова.

Менавіта так — балюча і салодка — гучаў "Машукоўскі лес" кампазітара Уладзіміра Грушэўскага на словы Эдуарда Шапавалава. І, можа, таму, што выконваў яе знакаміты народны мужчынскі хор, можа, таму, што песня напісана аб тых і для тых, хто больш як паўстагоддзя назад там, у Машуках, рызыкуючы жыццём, абараняў Радзіму ад фашысцкай нечысці, моцна зашчымела сэрца. Былі ў песні і смутак, і прыгажосць, была й асэнсаванасць нечага вялікага ў чалавечым жыцці...

Уладзімір Грушэўскі, які, дарэчы, зусім нядаўна адзначыў 20-годдзе сваёй творчай дзейнасці, — прафесійны кампазітар, вядомы не толькі ў сваіх родных Баранавічах, але і ў рэспубліцы. Таму свята, якое адбылося ў нашым горадзе — аўтарская вечарына кампазітара Грушэўскага, стала з'явай у культурным жыцці.

Сапраўды, вельмі ж нячаста ў наш складаны час глядзельныя залы бываюць такімі, дзе нават яблыку няма месца ўпасці. Калі ўшаноўвалі Грушэўскага яго калегі — педагогі, выканаўцы, спевакі і музыканты, яго вучні, сапраўдныя знаўцы музыкі, — было вельмі ўтульна ад цеплыні і шчырасці, якую раздорвае кампазітар людзям перш-наперш сваёю плённаю працаю. І невыпадкова так разнапланава паўстала перад гледачамі творчасць Уладзіміра Аляксандравіча — таленавітая і высокадухоўная.

Палітра гукаў Грушэўскага — ад песень да вялікіх музычных твораў. І пакуль госці, гледачы запаўнялі залу, прадчуванне свята запаўняла іх сэрцы — народны ансамбль дзіцячай музычнай школы N 1, той самай школы, дзе вучыўся па класе баяна калісьці будучы кампазітар, проста ў фае іграў беларускія танцы і песні ў апрацоўцы Грушэўскага.

Вечарына пачалася з фанфар. Сцэну занялі юныя піяністы — лаўрэаты абласнога занальнага конкурсу: Уладзімір Авадок (выкл. Д. Фрэнкель) выканаў беларускую песню "Ой да ты, калiначка" Уладзіміра Аліхвера ў апрацоўцы Грушэўскага, Ірына Чарнавус (выкл. Н. Авадок) — фартэпіянную п'есу Грушэўскага "Забаўлянка". У выкананні Аксаны Цімаш (выкл. В. Турчын) прагучала "Рамантычная прэлюдыя". Баяністка Алена Валынец, студэнтка 1-га курса музычнага вучылішча (выкл. Л. Чарнавус), уладальніца прыза "Надзея" рэспубліканскага конкурсу І. Жыновіча, бліскуча сыграла "Такату N 2".

Ансамбль скрыпачоў вучылішча (мастацкі кіраўнік А. Комар) уразіў выдатным выкананнем п'есы "Свіцязянскі ўспамін", які прысвяціў аўтар свайму брату. Аркестр баяністаў (мастацкі кіраўнік і дырыжор С. Авадок) выканаў апрацоўку "Каліны краснай" і арыгінальную п'есу з дзвюх частак "Бацькоўскай песні".

...Уладзімір Аляксандравіч расказаў пра тое, як ствараліся гэтыя песні. Іх сапраўды дзве: адну кампазітар прысвяціў маці — з ноткамі светлага, прыгожага, вечнага, а другую — свайму бацьку — з інтанацыямі больш пружыністымі і моцнымі. Склаў іх кампазітар яшчэ тады, калі аб існаванні тэорыі кампазіцыі толькі чуў. Але ж прага да творчасці, багаты, нявыкарыстаны патэнцыял музычных вобразаў, пачуццяў, тэм і фарбаў прывялі-такі Уладзіміра Грушэўскага, выкладчыка Баранавіцкага музычнага вучылішча, у сцены Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі другі раз, але ўжо на кампазітарскае аддзяленне.

Сапраўдным моцным акордам свята з'явілася араторыя "Гусаўца голас", у аснове якой ляжыць выдатная паэма Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра". Аўтар музыкі прадставіў гледачам выканаўцаў — сімфанічны аркестр ДМШ N 1, малодшыя хоры гэтай жа школы, хор музычнага вучылішча і саліста Генадзя Кабяка. Гэта было велічна!

Пазней, калі ўжо прыйшла да Грушэўскага і першая кампазітарская перамога, і другая, і наступная, калі ўжо былі запісаны і ўвайшлі ў фонд Беларускага радыё вялікія музычныя формы — з аркестрам пад кіраўніцтвам Ляонава, хорам Роўды, камерна-інструментальным ансамблем Валасюка, спеваком Леанідам Барткевічам, Уладзімір Аляксандравіч вельмі дасканала аналізаваў свой шлях у творчасць і знайшоў, што шчаслівым быў ён не толькі добрымі выкладчыкамі, інтэлігентнымі і высока прафесійнымі людзьмі, але й сваімі бацькамі, іх тонкімі і глыбокімі пачуццямі.

Ды, мусіць, яшчэ і іх песнямі.

**Валерый ПАЛІКАРПАЎ,**
**выкладчык муз. школы N 1.**
**Раіса СУШКО,**
**супрацоўніца рэдакцыі газеты "Наш край" (г. Баранавічы)**

# ...ЛЮБОЎ ДА СВАЙГО НАРОДА

## ПРАЛЕГОМЕНЫ ДА ЎСЯКАЙ БУДУЧАЙ ТЭОРЫІ НАЦЫЯНАЛІЗМУ

АДНО з самых супярэчлівых пачуццяў выклікае ў нас слова нацыяналізм. Адны, галоўным чынам тыя, хто выхаваны на камуністычнай ідэалогіі, схільныя лічыць нацыяналізм з'явай жахлівай, параўноўваючы яго з фашызмам. Іншыя, у асноўным прыхільнікі нацыянальнага адраджэння (хаця і не ўсе), лічаць нацыяналізм станоўчым фактарам у эвалюцыі грамадства, надаюць яму сэнс духоўнай сталасці чалавека. На мой погляд у тым, што атрымалася такое разыходжанне поглядаў, няма нічога дзіўнага. У гісторыі не раз адно і тое ж азначэнне ці, нават, толькі выказванне для адных асоб, арганізацый, народаў мела адзін сэнс, для другіх - процілеглы, а для трэціх і яшчэ нейкі іншы. Рэне Дэкарт казаў, што калі б філосафы дамовіліся пра значэнні слоў, то ўсе іхнія навуковыя дыскусіі прыпыніліся б. Гэты артыкул і прысвечаны аналізу сэнса слова "нацыяналізм" і блізкіх да яго паняццяў.

### 1. ІСНУЮЧЫЯ АЗНАЧЭННІ НАЦЫЯНАЛІЗМУ. ВЫТОКІ НЕПАРАЗУМЕННЯ.

У азначэнні нацыяналізму, як адмоўнай з'явы ляжыць сцвярджэнне: нацыяналізм - гэта палітыка, накіраваная на развіццё варожых адносін паміж нацыямі, імкненне адной нацыі даказаць сваю перавагу над суседняй, асіміляваць і заняволіць яе. Сучасныя апалагеты такой канцэпцыі звычайна прыводзяць фармулёўкі, узятыя з дарэвалюцыйных і савецкіх энцыклапедый, і спасылаюцца амаль заўсёды на тых жа расійскіх і савецкіх вучоных. Так, у артыкуле Ігната Дуброўскага ("ЛіМ", N 47, 1994), пасля бясспрэчнага сцвярджэння аб тым, што слова нацыяналізм з'явілася ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, "калі сфарміраваліся нацыі", ідзе фраза: "Вучоныя заўважылі гэтую новую з'яву і далі ёй сваё вызначэнне". Але далей паважаны аўтар артыкула нідзе не піша якое ж "вызначэнне" (захоўваю стыль аўтара) далі вучоныя таго часу і якія гэта вучоныя. У якасці ж фармулёўкі бярэцца артыкул з энцыклапедыі Ф.Бракгауза і І.Эфрона, дзе нацыяналізм апісаны як "знамя дурных страстей". Далей прыводзіцца азначэнне нацыяналізму з Вялікай энцыклапедыі 1903 г.: "Национализм... заключается в переразвитии национального чувства", пры якім людзі "начинают переоценивать свою нацию и считают поэтому совершенно справедливыми всяческие для неё преимущества сравнительно с другими нациями". Калі ўзяць гэтае азначэнне, то заканамерна паставіць пытанне аб розніцы паміж гэтым сцвярджэннем і тэрмінам "шавінізм", які прапаведуе "выключнасць сваёй нацыі і пагарду да іншых, распальванне нацыянальнай варожасці" (А.Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў, Мінск, 1993 г.).

Успомнім што ўяўляла сабой Расія канца XIX-га стагоддзя. Гэта была магутная таталітарная дзяржава, у якой шавінізм быў дзяржаўнай палітыкай. З другога боку гэты самы час адзначаецца шырокім нацыянальна-вызваленчым рухам, развіццём нацыянальных культур. Для афіцыйных улад усякае выступленне нярускіх народаў Расійскай імперыі са сваіх нацыянальных пазіцый наносіла чарговы ўдар па ўкаранёнай схеме, сутнасць якой у тым, што Расія - выратавальніца ўсіх суседніх "занядбаных" народаў і што рускія - гэта нацыя-гегемон. Каб апраўдаць вялікадзяржаўную шавіністычную палітыку ў слова "нацыяналізм" і быў укладзены адмоўны сэнс. З тых часоў склалася і пастаянна навязвалася парадыгма: "Усё нацыянальнае - дрэнна і архаічна, усё расейскае - добра і прагрэсіўна". Усялякія спробы малых народаў адрадзіць сваю дзяржаўнасць жорстка падаўляліся, а барацьбітоў за незалежнасць, за правы "людзьмі звацца" называлі нацыяналістамі, укладваючы самы дрэнны сэнс у гэтае слова.

Бальшавізм нездарма лёгка прывіўся на тэрыторыі Расійскай імперыі. Тут яго ідэі знайшлі спрыяльную глебу і ў першую чаргу яны закранулі нацыянальную праблему. Камуністы, фанатычна кіруючыся ідэяй зліцця нацый і ўсталявання Рая на зямлі, убачылі ў любых праявах нацыянальнага, нацыянальных ідэй, нацыянальнасці злейшага ворага сваёй утапічнай канцэпцыі. І на працяглы час у савецкім грамадстве быў вынесены прысуд нацыянальнай ідэі і, зразумела, нацыяналізму. Для прыкладу, у Малой Савецкай энцыклапедыі за 1938 г. канцэпцыя расійскіх дарэвалюцыйных ідэолагаў прымае ўжо такі выгляд: "Нацыяналізм - палітыка эксплуататарскіх класаў, накіраваная да ўкаранення нацыянальнай варожасці і нацыянальных сутыкненняў, да прамога натраўлівання адной нацыі на другую".

Далей - болей. Пасля 2-й сусветнай вайны нацыяналістаў пачалі атаясамліваць з... фашыстамі, хаця апошнія былі носьбітамі зусім іншай ідэалогіі. У найбольш вядомай фармулёўцы (БелСЭ) фашысты гэта "адкрыта тэрарыстычная частка найбольш рэакцыйнай і агрэсіўнай імперыялістычнай буржуазіі.., якая праяўляе крайні шавінізм і расізм". У гэтым азначэнні няцяжка ўбачыць блізкасць тэрмінаў фашызм і шавінізм. Больш таго, я мяркую, што гэтыя ідэалогіі, па сутнасці аднолькавыя, яны адлюстроўваюць адну і тую ж з`яву. Толькі першая - фашызм - адносіцца найбольш да гітлераўскай Германіі і некаторых яе сатэлітаў, а другая - да Расійскай імперыі ды камуністычнага Савецкага Саюза. І нічога агульнага да гэтых паняццяў слова "нацыяналізм" не мае. Наадварот, нацыяналізм - гэта антыпод фашызму. Я хачу нават сказаць і буду гэта даказваць, што нацыяналізм - лепшы з набыткаў цывілізацыі.

### 2. ШТО ТАКОЕ — НАЦЫЯНАЛІЗМ?

Як ужо казалася, сп. І.Дуброўскі нічога не паведаміў аб тых вучоных, што вывучалі нацыяналізм. А такія вучоныя былі. Гэта вядомыя ўсяму свету рускія філосафы М.Бярдзяеў, М.Славінскі, Н.Кляпенін, І.Ілын; украінскі філосаф Д.Чыжэўскі і іншыя знакамітыя мысліцелі. Найбольш грунтоўна даследаваў праблему нацыі і нацыяналізму выдатны рускі філосаф Мікола Бярдзяеў. Вось яго словы: "Чалавек уваходзіць у чалавецтва праз нацыянальную індывідуальнасць, як нацыянальны чалавек, а не як адцягнуты чалавек, як рускі, француз, немец альбо англічанін. Чалавек не можа праскочыць праз цэлую ступень быцця, ад гэтага ён збяднеў бы і апустошыўся б. Нацыянальны чалавек — больш, а не менш чым проста чалавек..." І далей - "Нацыяналізм ёсць станоўчая каштоўнасць, як творчае сцвярджэнне, раскрыццё і развіццё індывідуальнага народнага быцця. Але ў гэтым індывідуальным вобразе раскрываецца ўсё чалавецтва".

У гэтых радках сканцэнтравана ўся сутнасць нацыяналізму. Менавіта ў абасобленым вобразе раскрываецца ўсё чалавецтва. Багацце чалавецтва ў разнастайнасці і сталасці нацый, як і багацце асобнага народа ў каларытнасці, разнастайнасці яго індывідуумаў. Толькі пры ўмовах існавання раўнапраўных, творчых і сталых нацый магчымы іх партнёрскія адносіны, саюзы і аб'яднанні. Такім шляхам ужо ідзе ўся Заходняя Еўропа. І таму шлях да касмапалітызму - праз крышталізацыю асаблівасцей. Другімі словамі: сусветнае мае сэнс толькі праз індывідуальнае.

У той жа кнізе М.Бярдзяева — "Лёс Расіі" — выказаны словы, якія павінны стаць класічнымі: "Нацыянальнасць не можа прэтэндаваць на выключнасць і універсальнасць, яна дапускае іншыя нацыянальнасці і ўступае з імі ў зносіны. Нацыянальнасць уваходзіць у іерархію ступеняў быцця і павінна займаць пэўнае месца; яна іерархічна падпарадкавана чалавецтву і космасу".

Важнасць і актуальнасць гэтых слоў з асаблівай сілай адчуваецца ў наш час. Успамінаецца наступны выпадак. У 1990-91 гг. я некалькі разоў удзельнічаў у міжнародных сустрэчах нацыянал-дэмакратаў постсавецкіх рэспублік і краін бліжняга замежжа, якія насілі назву "Кансультацыйная нарада заняволеных народаў Расійскай імперыі". На гэтых сустрэчах уладарыла вельмі сяброўская атмасфера, да позняй ночы вяліся дыскусіі, размовы. Там я, у прыватнасці, пазнаёміўся з "класічнымі" нацыяналістамі з Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў (АУН). Большасць удзельнікаў прадстаўляла СССР і таму рабочая мова была руская. Але часта гучала і англійская. Малдаванін з румынам добра разумеліся паміж сабой на румынскай і малдаўскай мовах - яны амаль аднолькавыя. З палякам Войтэкам Стандо я размаўляў па-беларуску, а яму цікавей было звяртацца да мяне на ўкраінскай, бо ён яе якраз вывучаў... Адным словам, моўнай праблемы не было. Затое там уладарыла агульная атмасфера падтрымкі, жадання дапамогі кожнаму ў дасягненні незалежнасці яго краіны. У Таліне, падчас зімовай адлігі, мы стаялі побач з эстонцамі на барыкадах (тады якраз адбываліся вядомыя падзеі ў Прыбалтыцы), у Тбілісі я разам з Валерам Буйвалам і Валерам Сядовым стаяў пад бел-чырвона-белым сцягам на мітынгу Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Грузіі, які адбываўся акурат насупраць рэзідэнцыі Звіяда Гамсахурдзіі. А ў местачковым горадзе Бурштын (Заходняя Украіна) няблага ішло мясцовае піва пад сяброўскія размовы з цудоўнымі жыхарамі-бурштынцамі - скрозь "нацыяналістамі".

Вось так праяўляецца сапраўдны нацыяналізм.

Ніколі войны паміж народамі не ўзнікалі па віне нацыяналістаў. Наадварот, часцей за ўсё іх развязвалі тыя людзі, для якіх не існавала паняцця нацыі, духоўнасці, культуры. І не толькі адносна "малога" народа, які яны заваёўвалі, але і свайго - "вялікага". Найперш гэта былі тыя палітыкі, якія выражалі інтарэсы капітала.

Такімі войнамі былі безліч заваёўчых войн Рымскай імперыі, потым тое ж паўтарылася ў Візантыйскай імперыі, а пазней мы ўбачым, як карта зямлі перафарбавалася ў колеры, адпавядаючыя то французскім заваёвам, то іспанскім, то англійскім. Усе гэтыя імперыі распаліся. Апошняй імперыяй, што захавалася на пачатак XX стагоддзя, была Расія. Углядзіцеся ў гістарычныя карты: ад невялічкага Маскоўскага княства, гэтая краіна ўсходніх славян - рускіх разраслася да непамернай велічыні і дасягнула Ціхага акіяна. Усю гэтую неабсяжную тэрыторыю рускія саманазвалі Расіяй - нягледзячы на існаванне карэнных жыхароў - ці то гэта якуты, ці алтайцы, ці эвенкі, паглынуўшы сотні нацый і этнасаў. Затое цяпер Расія ганарыцца "сваімі" алмазамі ды нафтай.

Калі для капітала галоўнае памножыць гэты капітал і чыхаць яму на мараль і этыку, то для "малых" народаў - галоўнае адстаяць свой гонар і незалежнасць. Па-другому кажучы, з пункту гледжання "малой" краіны, вайна, што вядзецца супраць яе "вялікай" краінай з'яўляецца агрэсіўнай, шавіністычнай, і, наадварот, дзеянні "малой" краіны, накіраваныя на абарону сваёй Айчыны, называюцца "вялікай" краінай як выступленні кучкі нацыяналістаў і тэрарыстаў.

Ёсць і іншая сітуацыя, якая неаднаразова ўзнікала пры распадзе Савецкай імперыі, ды і цяпер назіраецца. "Малыя" нацыі сутыкаюцца лбамі, а "вялікая" застаецца быццам бы і ні прычым, хаця на самай справе з'яўляецца арганізатарам бойкі. Прыкладаў шмат - гэта падзеі апошніх гадоў у Грузіі, Азербайджане, Малдове і іншых краінах. Характэрна тое, што то тут, то там нам пастаянна "ненавязчиво" ўводзяць у вушы слова "нацыяналізм". "Вялікая" нацыя, карыстаючыся неабмежаванымі магчымасцямі доступу да сродкаў масавай інфармацыі паспяхова даводзіць - "вось які дрэнны нацыяналізм"!

Вельмі блізкім да М.Бярдзяева быў І.Ільін - таксама прадстаўнік расійскай эміграцкай інтэлігенцыі. І. Ільін піша: "... нацыяналізм праяўляецца перш за ўсё ў інстынкце нацыянальнага самазахавання і гэты інстынкт ёсць стан слушны і апраўданы. Гэты інстынкт падпарадкаваны законам дабра і духа. Працягваючы думкі згаданых мною філосафаў, я б хацеў вылучыць галоўную рысу нацыяналізму, якая ўбіраецца ў адно слова - любоў. Найперш гэта любоў да гістарычнага аблічча і творчага чыну свайго народа ва ўсёй яго своеасаблівасці, імкненне да таго каб ён - народ - жыў творча, вольна і мірна.

Цяпер можна даць і азначэнне нацыяналізму. Нацыяналізм гэта:

- любоў да свайго народа;
- любоў да свайго краю;
- гордасць за гісторыю свайго народа;
- павага і адчуванне адметнасці і непаўторнасці сваёй мовы;
- любоў да сваёй Айчыны ці патрыятызм;
- вера ў Божае прызначэнне свайго народа;
- боль за няўдачы свайго народа і радасць за яго поспехі.

Як бачым, такое вядомае паняцце як патрыятызм, у гэтым азначэнні ёсць толькі састаўная частка шырокай, касмічнай з'явы - нацыяналізму.

Нацыяналізм находзіць сваё канкрэтнае ўвасабленне ў нацыі, як і нацыя стварае сваю духоўную і ідэалагічную абалонку - нацыяналізм.

### 3. ЭВАЛЮЦЫЯ, ІЕРАРХІЯ І ТЭОРЫЯ СТАДЫЙ.

Сучасныя веды пра чалавека і грамадства даюць нам падставу лічыць, што гісторыя ёсць паступовае пашырэнне і паглыбленне чалавечай сутнасці.

Зазірнём у тыя дагістарычныя часы, калі толькі ўтвараліся першыя аб'яднанні людзей, першыя племянныя саюзы. У адрозненне ад жывёлы са статку сабе падобных чалавек у сваім племені атрымаў вельмі важны атрыбут - сваё імя. Спачатку гэта была адзіная, але істотная якасць, якая азначала адметнасць, індывідуальнасць асобы з нейкай групы ці племені. Трохі пазней у людзей з'яўляецца рэлігія. Першыя прымітыўныя вераванні атрымалі назву татэмізму і былі выкліканы звычайнай рэакцыяй на невядомыя, магутныя сілы прыроды. З гэтых часоў заўважаецца другая фаза расшчаплення раней адзінай супольнасці першабытных людзей (старажытнага грамадства) - расшчапленне асобных плямёнаў па таму сонму багоў, у якія кожнае племя верыла, г.зн. - па рэлігіі. Такім чынам, яшчэ са старажытных часоў людзі пачалі адрознівацца не толькі сваімі ўласнымі імёнамі, але і веравызнаннем.

Народы і нацыі ўтварыліся многа пазней. Пры гэтым нацыянальныя асаблівасці сталі істотна ўплываць на ўзаемаадносіны людзей, галоўным чынам, з канца XVIII ст. - пачатку XIX ст. і выйшлі на першы план у наш час. Фармаванне нацый і рост нацыянальных рухаў найбольш актыўна ішлі на працягу ўсяго XIX стагоддзя. Гэта адзначалася многімі мыслярамі таго часу. Так М.Славінскі ў артыкуле "Руская інтэлігенцыя і нацыянальнае пытанне" пісаў, што "На працягу XIX стагоддзя, асабліва другой яго паловы, разам з ростам палітычнай свабоды расце і свабода нацыянальная".

XX век яшчэ больш крышталізуе нацыі. Ігар Шафарэвіч, вядомы як заўзяты абаронца рускай ідэі, у артыкуле "Абасабленне, ці збліжэнне?" пісаў: "Зусім нечакана XX стагоддзе аказалася стагоддзем нечувана абвастрыўшагася нацыяналізму" і працягвае -"Разбурэнне вялікіх імперый ва ўсе часы працякала паралельна абвастрэнню нацыянальнага пачуцця асобных уваходзячых у іх нацый, імкненню іх вылучыцца як самастойныя нацыі".

Такім чынам мы бачым, што такая з'ява як нацыя і яе ідэалагічная аснова нацыяналізм - ёсць з'явы пэўнай ступені прагрэсу чалавечага грамадства, яго эвалюцыі.

Нацыяналізм з'ява сучасная, з'ява духоўнага плана. Гэта істотна якасны крок у бесконцым руху чалавека да Бога. Важнасць падзелу чалавечага грамадства на народы стала зразумелай толькі цяпер, хаця пра гэта сказана яшчэ ў Свяшчэнным пісанні: " І напоўніліся ўсе Духам Святым, ды пачалі гутарыць іншымі мовамі, так як Дух Святы даў ім прамаўляці...І здумеліся ўсе і дзіваваліся, кажучы адзін аднаму: Вось усе гэтыя што гавораць ці ж не Галілейцы? Дык як жа мы чуем кожны сваю гутарку, у якой урадзіліся: Парфяне й Мідзяне й Эляміты, і жыхары Мэзапатаміі, Юдэі, Каппадокіі, Понту, Фрыгіі, Эгіпту, Лівіі, Кірэнны, Рыму, Крыту і Арабіі - але ўсе мы чуем, як яны гавораць нашымі мовамі пра вялікія цуды Божыя".

Ідэолагі марксісцка-ленінскай філасофіі стварылі зручную для сябе класіфікацыю перыядаў гісторыі: першабытна-абшчынны лад, рабаўладальніцкі, феадалізм, капіталізм, сацыялізм і, нарэшце, камунізм. Наш час паказаў штучнасць і несапраўднасць такога падзелу.

Зыходзячы з папярэдніх разваг, на мой погляд, гісторыю чалавецтва больш правільным было б падзяліць на тры перыяды, якія вызначаюцца толькі адной галоўнай рысай - адносінамі да рэлігіі. Я прапаную наступны ланцужок стадый эвалюцыі чалавецтва:




Трэцяя стадыя - нацыянальны монатэізм ці, нацыотэізм. Гэта стадыя ў якой мы з вамі цяпер жывём. Гэтая стадыя, дарэчы, хаця і вырасла з другой стадыі, мае шмат агульных рыс з першай. Такой рысай з'яўляецца нацыянальная адметнасць народа. Менавіта ў эпоху політэізму існавала адрозненне паміж рознымі плямёнамі па прыкмеце адрознівання сваімі сонмамі багоў, і гэта з'яўляецца ў нейкім сэнсе нацыянальнай прыкметай. Праз паганства прайшлі ўсе народы і беларусы не з'яўляюцца выключэннем. Наадварот, не кожны народ можа пахваліцца такой багатай народнай спадчынай, як беларусы. Такія паганскія з'явы як Купалле, Каляды жывуць і ў наш час. Але не трэба забывацца на тое, што пра само існаванне такіх багоў як Пярун ці Ярыла беларусы ўжо даўно забыліся і сведамасці многіх пакаленняў Бог вызначаецца трыадзінствам Айца, Сына і Святога Духа - наш народ ужо тысячу гадоў хрысціянскі.

### 4. ШТО БЫЛО НАПАЧАТКУ? АЛЬБО, ШТО ПАТРЭБНЕЙ — КІЛБАСА ЦІ МОВА?

Людзі здаўна падзяліліся на матэрыялістаў і ідэалістаў. Першая пазіцыя набрала моц разам з росквітам навукі і тэхнікі, а вера ў неабмежаваныя магчымасці навукі прывяла да ўзнікнення рацыяналістычнага погляду на магчымасці чалавека. Адна з формаў рацыяналізму, якую знакаміты аўстра-амерыканскі эканаміст і філосаф Ф.Хайек назваў сцыентызмам, заснавана на празмерных спадзяваннях на магчымасці чалавечага розуму. Сцыентысты лічаць, што нават мараль і традыцыі могуць кіравацца розумам. Хайек аргументавана

*(Працяг на стар. 12)*

## САМЫ ДАРАГІ СКАРБ




**Нарэшце на паліцы кнігарняў стала першая кніга унікальнага шматтомнага выдання нашай тысячагадовай літаратуры. Гэта — "Выбраныя творы" Яна Чачота. Яе выхад з поўным правам можна назваць вялікай падзеяй у культурным жыцці Рэспублікі Беларусь. З яе, з гэтай першай кнігі серыі, пачынаецца сістэматызаванае асваенне агромністага, далёка яшчэ не спазнанага мацерыка нашай культуры — многавекавой літаратурнай спадчыны беларускага народа.**

**Як адна з перадавых у культурных адносінах краін, Беларусь з даўніх часоў несла святло асветы на ўсход. Наша літаратура — найбольш старажытная з літаратур усходніх славян. Намнога раней узнікла тут і кнігадрукаванне. Якраз у старажытнай літаратуры Беларусі трэба, мусіць, шукаць нашым усходнім і паўднёвым суседзям вытокі сваіх літаратур. Вывучыць і выдаць нашу літаратурную спадчыну — значыць унесці важкі ўклад і ў агульную скарбніцу ўсяго ўсходняга славянства.**

**На старонках "ЛіМа" ўжо расказвалася пра тэматычны план "Беларускага кнігазбору". Таму паўтарацца тут не трэба. Тым больш, што ў канцы першага тома чытач знойдзе найбольш поўны спіс усёй серыі, разлічанай прыкладна на дзвесце тамоў. Той, хто пачне збіраць кнігі гэтай залатой бібліятэкі Беларусі, стане з часам уладальнікам самага дарагога скарбу, які будзе перадавацца з пакалення ў пакаленне. "Беларускі кнігазбор" зробіцца для іх невычэрпнай крыніцай ведаў і духоўнага ўзбагачэння, сапраўдным хатнім універсітэтам культуры. Хачу толькі папярэдзіць чытачоў не марудзіць з набыццём кніг серыі, бо наклады будуць абмежаваныя. Цяпер прадумваецца пытанне пра арганізацыю падпіскі на "Беларускі кнігазбор".**

**Такую сістэматызаваную, па-навуковаму распрацаваную серыю важнейшых твораў шматмоўнай літаратуры Беларусі даўно чакала наша грамадскасць. І вось сёння яе выданне распачалося! Распачалося нягледзячы на вялікія цяжкасці, перш за ўсё фінансавага парадку. Дапамагло тое, што Дзяржаўны камітэт па друку і асабіста яго старшыня Уладзімір Бельскі, па-належнаму ацанілі важнасць гэтага неардынарнага выдання для развіцця нашай культуры і падтрымалі пачынанне. Радуе, што з разуменнем аднеслася да гэтай маштабнай задумы і наша грамадскасць, нашы недзяржаўныя структуры, у першую чаргу АТ "Сотвар" (кіраўнік Алесь Гуркоў) і кампанія "Туссон" (кіраўнік Якаў Трэмбавольскі), якія аказалі нам пасільную фінансавую дапамогу ў выданні першага тома. Думаецца, сумесная падтрымка "Беларускага кнігазбору" як з боку дзяржавы, так і з боку камерцыйных структур з'явіцца добрай гарантыяй поспеху выдання.**

**Бібліятэчная серыя нарадзілася і ўжо не можа спыніць сваё існаванне. Сёння ідзе вялікая і карпатлівая праца многіх вядомых навукоўцаў і літаратараў над падрыхтоўкай да выдання новых тамоў "Беларускага кнігазбору". Так, рыхтуюцца да выдання кнігі выбраных твораў Яна Баршчэўскага, Якуба Брайцава, Адама Міцкевіча (да 200-годдзя з дня нараджэння), "Мемуары" Міхала Клеафаса Агінскага, "Падарожжы" Ігната Дамейкі, "Беларусы-палешукі" Аляксандра Сержпутоўскага, "Недапетая песня" (творы беларускіх паэтаў, закатаваных у сталінскіх лагерах і палеглых на франтах Вялікай Айчыннай вайны), а таксама аднатомнікі класікаў беларускай літаратуры, твораў якіх не стае ў школьных і публічных бібліятэках.**

**Усіх, хто жадае росквіту нашай культуры, запрашаем прыняць удзел у вялікай справе вяртання народу нашай багатай і цікавай літаратурнай спадчыны.**

**Кастусь ЦВІРКА,**
**галоўны рэдактар**
**"Беларускага кнігазбору"**

# БРАТАНІЧ НЕБА Ў НІМБЕ ГАЛУБІНЫМ

КІТАЙСКАЯ мудрасць сцвярджае, што творцу толькі пасля сямідзесяці гадоў адкрываецца Боская таямніца. Няхай ты дзве сарбоны закончыў, адзін літінстытут і паўшколы Ахрэмчыка з падзячным лістом, але калі не маеш сем дзесяткаў за плячыма, сапраўднае боганатхнёнае тварэнне застаецца для цябе недасягальнай марай. Зусім не зважаць на кітайцаў не выпадае — яны, кажуць, першымі навучыліся выпрабляць паперу, чым зрабілі важкі ўнёсак у развіццё чалавечай цывілізацыі.

З гледзішча нашчадкаў Ду Фу ледзь не ўся беларуская літаратура падпадае пад рэвізію. Тых, каму пашчасціла дасягнуць запаветнай мяжы і хто па-ранейшаму чуе (ці нарэшце пачуў) Боскія нашэпты, — лічаныя адзінкі.

Анатоль Вялюгін паспеў адсвяткаваць свой сямідзесяцігадовы юбілей і паспеў на схіле жыцця напісаць лепшую, на маю думку, кнігу — "Заклён на скрутны вір".

Неяк у школе настаўніца роднай мовы й літаратуры падаравала мне адзін з выпускаў штогодніка "Дзень паэзіі", спадзеючыся, відаць, развіць мае здольнасці да рыфмавання. Але выхаваны ёю ж на "Камсамольскіх білетах" і "Надзях-Надзейках", я меў на той час стойкі імунітэт да беларускай паэзіі. Да таго ж у галаве круціліся іншыя інтарэсы. Непадалёк ад нашай вёскі летам атайбоўваўся закляты вораг каларадскіх жукоў "Ан-2", а зямля ўжо была сходжана мной уздоўж і ўпоперак — аж да мястэчка Дзярэчын уключна. Да яго цярэспале было кіламетраў тры, але ў яснае й ціхае надвор'е мястэчка пагрозліва даставала пікай касцёла да нашага возера. Носячы знішчальнікам жукоў яблыкі з калгаснага саду, я грунтоўна рыхтаваў сябе ў лётчыкі, і настольным чытвом на той час у мяне была знойдзеная ў макулатуры кніга Марсэля Міжо пра аднаго адважнага французскага авіятара. Але неяк аднойчы, каторы раз наталіўшыся чытаннем пра авіякатастрофы ў Альпах і Сахары і ніяк не могучы запомніць поўнае імя героя Антуана Мары Ражэ дэ Сент Экзюперы, я ўзяўся гартаць падарунак настаўніцы. З усіх вершаў у памяці засталіся радкі пра смерць ваеннага лётчыка:

**Віры нябёс,**
**спаліўшы крылы,**
**цябе, саколе, узялі.**
**І праўда,**
**лётчыкаў магілы**
**спаткаеш рэдка на зямлі.**

І ў Экзюперы не было зямнога апошняга прыстанку. Яго таксама паглынулі "віры нябёс".

Тады я нават і не падазраваў, што мая перажагнаная прапелерамі душа ўадначас займела шанц пабагацець адразу на дзве паэзіі. Да "Маленькага прынца" было яшчэ далёка, а Анатоль Вялюгін (а менавіта ён быў аўтарам згаданага верша пра смерць лётчыка) у школьнай праграме не значыўся.

Другое знаёмства з Вялюгіным было больш празаічным. Знаёмы паэт вырашыў звадзіць мяне на паказ мэтру. Імкнучыся паўстаць перад ягонымі вачыма разняволеным і самастойным, я, нібы той казачны джын, палез у адпаведны посуд. І, відаць, задоўга не вылазіў, бо праз пэўны час ледзь не ўшчыміў сам сябе ў падвойных дзвярах вялюгінскай кватэры. А яшчэ праз колькі хвілінаў вымушаны быў зрабіць спрынтэрскі кідок па даўжэзным, хоць на ровары ездзі, калідоры ў напрамку магчымага месцазнаходжання аб'ектаў каналізацыі...

Назаўтра Вялюгін сам патэлефанаваў мне на працу й дыпламатычна распавёў, як ён цалаваўся з канём на вяселлі ў Юркі Голуба, а нейкая кабета ў кляцістай шаляноўцы казала, што на гэткае здольны толькі паэт. Кабетай аказалася Ларыса Геніюш, ад якой Вялюгін тут жа атрымаў запрашэнне наведаць недалёкую Зэльву.

(Нядаўна, рыхтуючы да публікацыі ў часопісе "Роднае слова" лісты Ларысы Антонаўны да Адама Мальдзіса, я быў прыемна здзіўлены, з якой павагай і даверам адгукалася Геніюш пра Вялюгіна пасля тых некалькіх выпадковых сустрэч: "...З Вялюгінскай галавы б'е розум, эрудыцыя, вялікія здольнасці сапраўды таленавітага чалавека! Я ім захоплена! Яго твар мне нагадвае крыху Купалаўскі". Паперажываўшы над авантурнай задумкай маладога Барадуліна ехаць ваяваць у В'етнам, Ларыса Геніюш праз колькі радкоў вярнулася да ранейшай тэмы: "О юнасць і яе узлёт! Я зноў пра Вялюгіна, гэта такі цікавы і добры чалавек, што я не магу забыцца аб ім." Праз два тыдні Ларыса Антонаўна зноў дзеліцца з А. Мальдзісам галоўнай зэльвенскай навінай: "Я вам, здаецца, не пісала, што мы мелі прыемнасць гасціць у сябе Вялюгіных. Не ведаю, але мы адчулі радасць ад іх прабывання ў нас і нейкую шчырую сяброўскасць. Жаль, што яны былі коратка.")

Пасля заканчэння універсітэта, мы з жонкай амаль чатыры гады жылі ў Заслаўі, дзе Наталля працавала ў музеі й дзе зняць кватэру можна было значна танней, чымся ў сталіцы. Пачасту мы, пазычыўшы ў знаёмых ровары, ехалі напрасткі праз Валоўшчынскі лес на легендарную Лысую гару, дзе ў Вялюгіна было лецішча. Там, у падсуседзях спелага бору, ён з жонкай Людмілай Мікалаеўнай звычайна жыў ад халадоў да халадоў, наязджаючы ў Менск толькі па пільнай патрэбе. Ад тых размоў, вершаў у альтанцы засталося ў душы светлае рэха. Адданая больш за слуцкімі народнымі песнямі, жонка "мурожную й росную" паэзію Вялюгіна прыняла без агаворак, кажучы, што ўжо за адно аблічча — светлае й ўзнёслае — паэта можна было б узвесці ў почат святых. Як дарагая памятка пра тыя лысагорскія сустрэчы засталіся надпісы на кнігах. "Наталлі і Міхасю Скоблам са шчырым пажаданнем росквіту іх талентаў. І яшчэ: пакуль жывяце ў Заслаўі, запрашаю да сябе ў лясны дамок — Анатоль Вялюгін". На фотаздымку ў апошнім выбраным "З белага камення — сіняе пламенне" ён выглядаў прыгорбленым, натамлёным. "Дарагі Міхась, прымі гэту кніжэнцыю як даніну таму, на шчасце перабытаму часу, з каменнай глыбы якога ўсё ж струменіла сіняе пламенне. З абяцаннем напісаць прадмову да тома паэзіі Міхася Скоблы — Анатоль Вялюгін. Валоўшчына, 19 чэрвеня 1993 г."

Помніцца, я тады сказаў яму, што напісаць том паэзіі наўрад ці здолею. Але калі ён пастараецца перажыць свайго дзеда, стодванаццацігадовага Цярэшку Вялюгу, то я таксама пастараюся й гадоў так праз паўсотню прынясу яму рукапіс.

Ул. Набокаў параўнаў паэта з качагарам у труме карабля — ён нават не бачыць, куды плыве карабель, але ведае цвёрда, што агонь у топцы не павінен згаснуць. Не ведаў і Вялюгін, як ягоны верш "Вечар" неаднойчы саслужыў добрую службу, палагодзіўшы ў жыццёвым моры адчайныя чаўны людскіх душ. Ледзь толькі ў нас з жонкай па маладой сямейнай неспрактыкаванасці пачыналася спрэчка, мы пачыналі як ратавальную малітву, чытаць "у асобах":

**— Куды ідзеш, Наталачка?**
**— У агарод, Міхалачка.**
**— Па што?**
**— Па цыбулю.**
**— Пастой,**
**пацалую.**

Вось вам і практычная карысць ад паэзіі.

Там жа, на Лысай гары, пачуў я й большую частку вершаў, што неўзабаве склалі кнігу з таемна-страхотлівай назвай "Заклён на скрутны вір". Не думаў я ў той час, што праз нейкі год па прычыне вечнай адсутнасці аўтара рукапіс у выдавецтва прыйдзецца адносіць мне.

Янка Брыль назваў "Заклён на скрутны вір" малітоўнікам. І сапраўды, у кнізе няма лішніцы, слова са словам счэплена намёртва, як звенчакі ў ланцугу. Думка скандэнсаваная, вобразы ўштукаваныя ў вершы, нібы каштоўныя камяні ў дыхтоўныя апраўы. Насамрэч, для тых, хто яшчэ захаваў здольнасць прычашчацца словам — святое пісьмо.

На саракавінах па паэту за жалобным сталом устаў сівы пісьменнік і доўга гаварыў пра вернасць Вялюгіна былым ідэалам. Маўляў, не здрадзіў, як некаторыя, старым савецкім сімвалам, пад якімі пражыў усё сваё некароткае жыццё. У пацвярджэнне смачна цытаваў вялюгінскія радкі:

**Памяці бронза,**
**скарбовае золата,**
**нафты растопіцы**
**і малака, —**
**усё,**
**што здабыта**
**сярпом і молатам,**
**пушчана**
**з малатка.**

Я быў знаёмы з Вялюгіным намнога менш часу, чым сівы пісьменнік, а таму засцерагуся сцвярджаць гэтак катэгарычна. Але чуючы ў вялюгінскай "Спробе тэстаменту" скрушлівы ўздых "столькі непатрэбшчыны ў падарожным набытку", спрабую вызначыць гэтую непатрэбшчыну ў немалым наробку паэта. Што ён, "перабіраючы ўсё па каліву", стараўся апускаць у апошніх выбраных, што перапісваў занава? І прыгадваю, як паэт з эпічнай няспешнасцю чытаў мне пераніцаваную "Паэму любові", адзін з лепшых сваіх твораў, дзе, як прыспеў у песні, як замова, двойчы паўтараецца страфа:



*Анатоль Вялюгін з усіх узнагарод насіў толькі лётчыцкі знак.*

**Чысты кужаль на золку**
**бяліла ты ў белай расе,**
**а крывёй тваіх кроўных**
**зара на тканіну цякла, —**
**і ты Сцяг узняла!**
**Сёння думку галубім усе:**
**каб крывінка мая**
**у чырвонай палосцы была!**

Без цяжкасці можна адшукаць у вершах Вялюгіна й гэтак ненавісную сяму-таму сёння "Пагоню". А як трапна сказана паэтам пра наш мітынговы час:

**Не злічыш да суботы**
**пад ветласцю жалезнай**
**на колькі тысяч ботаў**
**падкута незалежнасць.**

Ды марны гэта занятак — дзяліць паэта: тут ён наш, там трошкі ваш, а ў тым творы — іхні. Хоць гэтая дзяльба не мінае, мабыць, ніводнага таленавітага творцу, які жыў у пераломны час. Купалу да гэтай пары дзеляць. Не мецьме, напэўна, спакою аўтар вядомай паэмы "Вецер з Волгі" — а як жа, яшчэ адзін exegi monumentum.

Зрэшты, калі ёсць крэсіва, паэтычную іскру можна высекчы і з манумента правадыра.

Гартаю апошнюю вялюгінскую кнігу й не магу пазбавіцца ад назойлівай думкі. Так, і вайну перажыў, і букет хвароб пад старасць нажыў, і сямейныя трагедыі не прайшлі бясследна, але быў жа трывалай валюгінскай пароды — чаму так імкліва згарэў? Мо таму, што неабачліва, раз за разам пачаў закранаць тэму смерці...

**Раніцай ганяе галубоў**
**чалавек смяротнага ўзросту.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

# АЛЬМАНАХ ВЫЙШАЎ У НАВАПОЛАЦКУ

У нашай дзяржаве пабольшала літаратурна-мастацкіх выданняў: у Наваполацку выйшаў першы нумар альманаха "Край". Галоўны рэдактар выдання, старшыня Полацка-Глыбоцкай філіі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Н. Гальпяровіч у звароце да чытачоў так вызначае задачы, якія паставілі перад сабой выдаўцы: "Я думаю, што з матэрыялаў гэтага альманаха, і, дасць Бог, наступных, вы даведаецеся нямала цікавага пра наш край, пра яго гісторыю і сучаснасць, пра тое, чым жывуць сёння літаратура і выяўленчае мастацтва, што робіцца ў музеях і канцэртных залах, на раскопках ці ў цішы бібліятэк". І ўдакладняе: "Але мы не хочам абмежавацца толькі гэтым. Наш славуты зямляк Скарына злучыў свой родны горад з Падуяй і Кракавам, Вільняй і Прагай. Як вядома, думка і Слова, глыбокае чалавечае пачуццё не ведаюць межаў і не замыкаюцца геаграфічнай прапіскай. Хацелася б, каб на нашых старонках знаходзілася месца ўсяму, што вартае ўвагі беларускага чытача. І ўжо сёння на нашых старонках не толькі Полацк, Глыбокае, Паставы, але і Мінск і Прага, і ўвесь шырокі свет — свет гуманізму, людскасці, інтэлекту".

Канкрэтна ж гэта выглядае наступным чынам... Змешчаны эсэ С. Тарасава "Полацкі адлік", нарыс Р. Грудніцкага "Андрэй Волан: жыццё дзеля свабоды", карэспандэнцыя Н. Здановіч "Кафляная кветка", вершы Г. Бураўкіна, А. Жыгунова, І. Пракаповіча, М. Баравік, А. Мартыненкі, І. Дарафейчук, Л. Неўдаха, А. Нафрановіча, В. Філіповіча, Т. Ляшонка, пераклады Р. Барадуліна кітайскіх і в'етнамскіх паэтаў, апавяданні І. Жарнасек, Г. Кірылава, У. Міхно, Л. Сом. "Ператварэнне" Ф. Кафкі пераклаў з нямецкай мовы Л. Баршчэўскі. У раздзеле "Шляхі" — эсэ П. Васючэнкі "Філалагемы разувасаблення", артыкулы Н. Гальпяровіча "Сцежка сама ведае? або Спроба паразважаць пра сучасную паэзію", А. Ладзісава "Аўтапартрэт на фоне трох праектаў".

Падтрымку ў выданні альманаха аказалі аддзел культуры Наваполацкага гарвыканкама, прадпрыемства "Наваполацкнафтапрадукт", ТАА "ВітаАлекс — 2 ЛТД", акцыянернае таварыства "Мона", Полацка-Глыбоцкая філія Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

# УЗМАХ "ПЕГАСАВЫХ КРЫЛАЎ"

Яшчэ адна кніга выйшла дзякуючы Фонду маладых літаратараў "Пегасавы крылы". На гэты раз — паэтычны зборнік Валяр'яна Алісевіча "Гаючая навальніца". Імя аўтара яшчэ мала што гаворыць шырокаму колу чытачоў, тым больш, што гэта яго першая кніга.

Па адукацыі В. Алісевіч — інжынер-механік. Нарадзіўся і жыве ў Мінску, друкаваўся ў перыядычных выданнях, піша таксама прозу. Стала займацца літаратурнай працай пачаў не так даўно, аб чым прызнаецца ў вершы "Пачаў пісаць у трыццаць пяць".

Ёсць у зборніку творы патрыятычнага накірунку, аб лёсе роднай зямлі, мовы... Але ў большасці вершаў В. Алісевіча — захапленне хараством беларускай прыроды, яе чароўных краявідаў:

Прыгажуном паўстаў асенні ранак,
пячэ ўжо барвовінкай усход.
Вітае золак ціўканне заранак,
і сонца робіць свой зямны абход.

"Добрыя ж ці благія мае гэтыя рыфмаваныя роздумы і апавяданні — меркаваць вам", — звяртаецца аўтар да чытачоў.

Нагадаем, што летась Фонд маладых літаратараў "Пегасавы крылы" сумесна з часопісам "Першацвет" выдаў паэтычны зборнік Міколы Сазонава "Нараджэнне цішыні" і асобна — кнігу маладога крытыка Ірыны Шауляковай "Галерэі сноў". На чарзе — зборнік "Завеі пачуццяў" незаконна рэпрэсіраванага малавядомага паэта Рыгора Папараці, кнігі сучасных маладых літаратараў.

Віктар ЖЫБУЛЬ

Паэзія

Віктар ЯРАЦ



# "...ЁСЦЬ ВЕРНАСЦЬ НА СВЕЦЕ"

## ТРЫВОГІ СТАРЫХ ЯБЛЫНЬ

Хутка з долам абдымемся.
Колькі яшчэ засталося
сустракаць і праводзіць чароды
зялёным лісцём, залатым?
Колькі слухаць яшчэ,
як сцюдзёнай парою палоззе
адгукнецца ля хат,
дзе на шыбах — бары і сады?
Станем рэхам, што вецер
аднекуль з-за свету
прынясе ў новы сад
з ручнікамі світальнай зары.
Ці пачуем сябе
ў юным россыпе роснага цвету
ў час, калі на зямлю прывітанні
шлюць грымоты з вясеннай гары?

## ВЁСКА. ДЗЯЦІНСТВА

Фыркне конь ля вакон,
што агеньчыкам лямпы
ледзь асветлены ў свеце завейнай парой.
І прысніцца пад ранне:
на цёплыя лапы
кот намотвае ніткі самапрадкі старой.

Сціхнуць госці-віхуры. Выйдзеш золкам
марозным —
след палоззяў замецены.
Горкай лясной —
дровы ў снезе ляжаць. Пахнуць сокам —
бярозы,
а сасна — спілаванай, застылай смалой.

Будзеш грэбціся полем
да школы драўлянай
па глыбокіх, прымоўклых,
як неба, снягах.
За табою пад сонцам,
што нехаця выгляне -
гляне,
будзе йсці той лясны — запытальны,
трывожлівы пах...

●

Ад былых ідылій дым і той
некуды адплыў за небакраі.
Памаўчу над ранішняй ракой,
дзе на дожджык рыба выныpae.
Помню цеплаходныя гудкі,
што ў тумане берагі будзілі.
Помню той арэшнік, у якім
выразалі гнуткія вудзільны.
Жоўты цвет бяссмертніку цвіце,
нібы верыць сапраўды бяссмерцю.
Ад старой асіны ў спёку цень
халадком на дол сухі кладзецца.
Праімчалі ветраў табуны —
і збяднела крона, парадзела.
Як салдат у родны дом з вайны —
зноў душа вяртаецца да цела.
Раздаваў яе шляхам усім,
даваяраў сустрэчным спадарожным...
Сплыў былых ідылій лёгкі дым.
Скача рыба на рыбацкі дожджык.

## СМАГА

Гарэніць смак вады. То час такі.
Гарэніць пыл. То ростані прыкмета,
дзе словы, як дубровы, у вякі
сыходзяць, нібы прад скананнем свету.

То чорны цмок вядзе свой чорны рэй
і дзікуны на продкавым кургане
дзікунскі правяць баль свой. І вастрэй
за вострыя нож бліішчыць іх воч мірганне.

І нават неба (і чаму?) мацней
гняце між дрэў, што сохнуць болей,
болей,
дзе смокча цмок і сок з тваіх грудзей
то ўпохапку, як злодзей, то паволі.

І смагу ўсіх гадоў, што затабой,
ці смагу наталіць падземных рэк вадой?

## МЕСЯЧНАЯ НОЧ

Разгуляўся месяц у вышынях
на мароз, хоць бедныя снягі
ледзьве ўкрылі нівы і лугі.
Выдых неба — іней на галінах.

Зоры, нібы чуйныя радары,
ловяць гукі ночы, у якой
сэрцаператомленага ўдары —
ранамі бяссонніцы людской.

Нехта гэтай ноччу свет пакіне.
Хтосьці гэтай ноччу прыйдзе ў свет.
Разгуляўся месяц. Золка стыне
вышыня, дзе ні маршчын, ні бед.

Сон нябесны на зямлі прысніцца
ці зямны камусьці ў час начны?
Чутна, як збалелая ігліца
ў цішыні цярусіцца з сасны.

## ПАДСОБНІКІ ХЛУСНІ

На мову, што ніяк не хоча сконуць,
хто плюне, прыгажэй, сябры-браткі?
Вяшчуючь, набіваючы аскому,
аблезлае хлусні праваднікі.

Вяшчуйце — вам падораны вяльможна
эфірны час, святло тэлепалёў.
Шчыруйце — вам дазволена, вам можна
карміць мяне, як байкай — салаўёў.

Хіхікайце салодзенька-мядова
сурова бровы хмурце на таго,
хто ўсё бароніць спадчыннае слова,
як зберагае ў цемрадзі агонь.

Ці ў вас пытаць — ад макаўкі да пятак
цынічных, разагрэтых балбатнёй:
— А самі хоць ці верыце, "рэбята",
хлусні сваёй?

●

*Ніну ГІЛЕВІЧУ*

Там, за барамі-лясамі,
квецень сплыла маладая.
Кліча не даль галасамі —
яблыня ў леце з пладамі.

Верыш: ёсць вернасць на свеце.
Ціха люляе-гайдае
вецце — калыскі бяссмерця —
яблыня ў леце з пладамі.

●

Прысніўся парк, дзе дрэвы без карэнняў,
прысніўся бор, дзе сосны без галін.
Стаяць ствалы —
бязроднасць сутарэнняў.
Прыйшлі яны адкуль, чаму, калі?
Стаяць слупы. Дзе ж музыка?
Дзе ж гнёзды?
Крок металічны, падкаваны крок
вартуе тэрыторыю. Пагрозны,
як свіст дубінкі, янычарскі зрок.

●

Хацеў бы дзень, што разбудзіў святлом,
здзіўленнем прывітаць, нібыта сёння
я ў свет прыйшоў,
як навасёл у дом,
дзе свежай фарбай пахнуць нават промні.
Хацеў бы гэты дзень лічыць сваім
пачаткам-нараджэннем. Дзе ж мне толькі
пакінуць дні, дзе плыў падману дым,
дзе смех Іуды колкі, як асколкі?

●

*Генадзю БУРАЎКІНУ*

Столькі выглумілі народу
войны-бойні, што йшлі адусюль!
Толькі, мабыць, няма нам зводу.
Ці мацней мы агню і куль?

Пераможам навалы-здзекі —
і жыццё адраджаем працяг.
І павольныя нашы рэкі
мыюць кужаль на раны і Сцяг.

Галіна ВАРАТЫНСКАЯ



## ПАКАЯННЕ

Пакрыўджаныя мной,
не думайце, што проста
мне несці па жыцці
адчайную віну.
Яна — цяжэйшы груз,
што рэжа плечы востра,
хаця куды лягчэй
за здраду і ману.
Пакрыўджаныя мной
зняцацку і міжволі,
я так свой успамін
балюча варушу.
Не дазваляю жыць
самой сабе на волі.
Палю і не тушу
пакорную душу.

## ПОЛЕ ЧАКАННЯ

Поле чакання — як міннае поле.
Можа апошнім стаць кожны крок.
Болей упартасці — выбухаў болей.
Шчэ і ў спіну цэліць трапны стралок.

Полем чакання без боязі крочу.
Вось я прад вамі, хто кпіў:
не дайду.
Слёзы хай засцяць цярплівыя вочы
і груганы мільгацяць на бяду.
Поле чакання аплаквае каня.
Боль, як гранату, сціскае рука.
Выспела лета над полем чакання,
Значыць, не вырвана веры чака.

●

Адыходзіць усё
у нябыт — і нібы
не ўбіраўся запал
у радно залатое.
Адыходзіць усё —
застаюцца клубы
кучаравых аблокаў,
што сполахі тояць.
Ты быў цар-уладар
сваіх звонкіх задум
і хадзіў так высока
ля неба, няйначай.
Адыходзіць усё.
Час нам труны рабіць
для пустых спадзяванняў
і плачу.
Адыходзіць усё,
калі ў душах рабы
на прыгрэве так доўга
цікуюць удачу.

## НАВУКА

З дзяцінства мама гаварыла:
ёсць людзі розныя ў жыцці,
і ты сарокай лёгкакрылай
на кожны покліч не ляці.
Здараецца, падсунуць крошкі,
а ты чакала каравай...
Засцерагайся ад падножкі
і лепш яе перачакай.
Непаслухмяна паляцела
на горкі сушаны калач...
Так верыць у дабро хацела.
Так верыць хочацца, хоць плач.

*г. Ушачы*

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

# ДУМАЦЬ ВЕРШЫ...

## З ЛІТАРАТУРНА-СЕНТЫМЕНТАЛЬНАГА ПАДАРОЖЖА

### ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ?

Лёгка быць беларусам у блізкім замежжы. Звычайна адной назвы нашай краіны дастаткова, каб да цябе ставіліся з павагай. Праўда, у гэтым годзе на Міжнародным шаўчэнкаўскім святце ў Роўна я адчуў, што праз заўсёдную павагу прабіваюцца ноткі спачування і нават лёгкі дакор: “маўляў, што ж вы, браткі беларусы, нарабілі?”

І сапраўды паспрабуйце растлумачыць нармальнаму чалавеку як гэта можна па сваёй ахвоце адмовіцца ад герба і сцяга, ад роднай мовы, паспрабуйце гэта давесці пятнаццацітысячнай плошчы, якая са слязамі на вачах спявае “Раве ды стогне Днепр шырокі...”

“Краса і сіла” — так некалі назваў свой артыкул пра творчасць вялікага украінскага кабзара зусім малады Багдановіч. Зачараваны той самай красой і ўражаны той самай сілай, якая некалі ўсхвалявала і акрыліла нашага Максіма, я слухаў магутны імправізаваны хор і на маіх вачах таксама бліснулэла сляза. Я ганарыўся імі і зайздросціў ім. І ў той жа час мяне пякло пачуццё вінаватасці перад гэтымі апантанымі людзьмі, з'яднанымі адзінай верай. І толькі пасля выступлення Сяргея Законнікава я ўздыхнуў з палёгкай: па бурнай рэакцыі плошчы я зразумеў, што ў нас яшчэ вераць, вераць як у народ...

Пасля вяртання на радзіму я падзяліўся сваімі ўражаннямі з адным сваім земляком, немаладым спрацаваным дзядзькам, які ўвесь свой век гарбаціўся на калгас. Ён панура выслухаў маё захапленне і смачна мацюкнуўся: “Эх, каб мая воля, я ўсіх бы гэтых пісьменнікаў пасадзіў у турму ды даў бы ў рукі плуг ці касу...”

Вось і думай пасля гэтага, ці лёгка быць беларусам... у Беларусі.

### У ПТУШКІ ЁСЦЬ ГНЯЗДО

Маю душу зноў паланіў Бунін. Вось ужо колькі дзён не магу выйсці з біяполя яго магічных радкоў:

**У птицы есть гнездо, у зверя есть нора,**
**Как было горько сердцу молодому,**
**Когда я уходил с отцовского двора,**
**Сказать прости родному дому.**

Гэты глыбокі бунінскі ўздых, поўны горкай тугі, блізкі мне не толькі тым, што сугучны з маім цяперашнім настроем, а яшчэ і тым, што ён, як далёкае рэха, перагукваецца праз стагоддзі з даўно родным і дарагім, Скарынавым:

**...Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; Птицы, летающие по возьдуху, ведають гнезды своя...**

Вельмі хочацца верыць, што Бунін быў знаёмы з прадмовай доктара Францішка Скарыны з Полацка да кнігі “Юдзіф”. Я разумею, што вера мая наіўная, але для яе ёсць падставы: у аўтабіяграфічным рамане “Жыццё Арсенева” Іван Аляксеевіч падрабязна апісвае сваё падарожжа ў Смаленск, Віцебск і Полацк. Ёсць у яго і цудоўны верш “Князь Усяслаў”. Бунін напісаў свае пранізлівыя радкі ў прадчуванні вечнага растання з Расіяй — напярэдадні яго чакалі трыццаць тры гады эміграцыі. Наш Скарына таксама амаль усё жыццё пражыў у далечыні ад радзімы: і ў Кракаве, і ў Падуі, і ў Празе ён не мог не сумаваць па слаўным горадзе Полацку.

...Птицы ведають гнезды своя... У птицы есть гнездо...

### ГІСТОРЫЯ БЕЗ КАМЕНТАРУ

У Віталя Біянкі ёсць адна лірычная мініяцюра вельмі павучальная для нашага брата. Цікава, што ў сваім дзённіку за 1958 год пісьменнік пазначыў: “18 сакавіка — канчатковая рэдакцыя... 22 чэрвеня перадаў у часопіс “Бярозка” (Беларусь)”. Называецца мініяцюра “Паэт і салавей”. Я пастараюся перадаць яе змест як мага дакладней.

У маленстве паэт не чуў салаўя, — не пашчасціла. Чуў толькі, што людзі ўслаўляюць яго песні. І стаў услаўляць салаўя. А заадно і ружы.

Пад старасць паэт разбагацеў. Купіў сабе дачу з садам і ружамі.

Прыйшла вясна. У кустах зацёхкаў салавей. Заспявала, зашчабятала і іншае птаства. Паэту гэта не спадабалася. Ён падумаў: “У садзе паэта, які ўсё жыццё ўслаўляе аднаго салаўя, — павінен жыць адзін салавей. Іншым птушкам з іхнім шчэбетам і чырыканнем не месца ў маім садзе”.

Асабліва адна птушачка яму назаляла. Падыдзе паэт да куста панюхаць ружу — яна скрыпіць.

— Міленькая, — сказаў паэт. — Ты абражаеш мой слых. Ты перашкаджаеш мне піць водар руж.

Ён асцярожна выцягнуў з-пад куста простае травяное гняздзечка з шэрымі яйкамі і панёс яго ў лес, далёка за агароджу свайго саду. Мізэрная птушачка ўвесь час ляцела за імі і жаласна стагнала.

Вечарам паэт зручна ўсеўся ў шэзлонг на тэрасе і настроіўся, як заўсёды, слухаць салаўя. Але салавей не спяваў. І вось бяда: салавей больш ніколі не спяваў у ружовым садзе паэта. Вы ўжо здагадаліся, што паэт сам выселіў салаўя з свайго саду: тая мізэрная птушачка, што так непрыемна скрыпела і быў — салавей. Аказваецца, каля свайго гнязда, у трывозе за сваіх птушанят, салавей не спявае, не цёхкае, а непрыемна стогне.

Вось, бадай, і ўся гісторыя. Я хацеў напісаць да яе каментар, а потым перадумаў: навошта?

Зразумела ўсё і так, без каментару.

### ТУМАН

У грунтоўнай і зычлівай рэцэнзіі на маю “Планіду” Віктар Ярац заўважыў, што я “гавару, як з чалавекам, з Туманам”. Каб усё было зразумела, скажу адразу: так звалі нашага сабаку.

Займець свайго сабаку мы з братам Міколам хацелі даўно. Гэта была блакітная мара нашага маленства. Даходзіла да таго, што мы часам падбіралі на вуліцы аблезлых бадзяг і прывязвалі на ланцуг, прыкормлівалі, але трохі ад'еўшыся, яны няўдзячна зніклі. І вось неяк увосень бацька прывёз нам пульхнага цельпукаватага шчанюка. Сказаў, што купіў за пляшку гарэлкі ў Мішкі Шумілы. Шуміла быў добры і вясёлы дзядзька з суседняга Белага Каменя і мы, дзятва, вельмі яго любілі. Шчанюк аказаўся надзіва гарэзлівым і адразу пачаў жартаваць з намі. Як заўзятыя сабачнікі, мы даўно ведалі, што калі паднябенне зверху чорнае, значыць, сабака будзе злы. Зазірнуўшы ў гарачую ружовую пашчу шчанюка і не знайшоўшы ніякай чарнечы, вырашылі, што сабака будзе добры і вясёлы, як Шуміла. Назвалі мы яго Туманам, бо шэра-белы колер ягонай поўсці нечым нагадваў ранішні туман над Бесяддзю.

Шчанюк рос як на дражджах. Усё, што было смачнага ў нашай хаце, не мінала ягонай будкі. А калі наш сябра занядужаў, ці як самавіта зазначыў Мікола, пераглызаў чарвяка, мы ўпотай ад бацькоў карміл і яго мёдам. Дапамог мёд ці прырода ўзяла сваё, але неўзабаве Туман ачуняў. Брат падзяліўся радасцю з суседам і, вядома ж, не прамінуў сказаць пра мёд. Ох, і перапала нам ад бацькоў! Ды і як магло не перапасці, калі кожны хворы ў матчына дзяжурства ў бальніцы, дзе яна рабіла медсястрой, абавязкова цікавіўся: “А ці праўда, Сямёнаўна, што вашы хлопцы сабаку мёдам вылечылі?”

Туман быў звычайны дварняк, але характар меў высакародны: ніколі не краў, я не помню ніводнага выпадку, каб узяў нешта без дазволу. Ён быў у прыязных адносінах з нашым катом Мікошам і той часта бегаў да яго ў будку, каб разам пажартаваць. На рыбалку, у грыбы, у ягады мы хадзілі толькі з Туманам. Бывала, далёка адышоўшы адзін ад аднаго, мы перагукваліся, і густое рэха разляталася па ўсім лесе. Наш Туман адразу пачынаў непакоіцца. Ён з насцярогаю ўслухоўваўся ў цішыню і трывожна падвываў. Мы часам злоўжывалі ягонай даверлівасцю і каб пацешыцца, знарок крычалі: “Ау!”, але ён хутка ўчуў нашую хітрасць і вельмі крыўдаваў. Аўтарытэт Тумана ў нашай сям'і істотна вырас пасля таго, як ён у галалёд дапамог каніцкаму дзеду ўзабрацца на крутую горку. Дзед спачатку не зразумеў ягоных намераў і сярдзіта адганяў Тумана прэч: баяўся, што той пракусіць крысо кажуха, а калі да яго дайшло, што сабака хоча шчыра дапамагчы, вельмі ўсцешыўся і заўсёды пры выпадку хваліў нашага выхаванца.

Не раз Туман быў першым слухачом маіх вершаў. Ён чуйна натапырваў вушы і цёплымі вачыма глядзеў на мяне. Далібог, ён усё разумеў. Не сэнс, не словы, а настрой, які перадаваўся праз рытм.

Вельмі цяжка перажываў Туман расстанне з Міколам, калі брат пайшоў у войска. Ён штодзень бегаў на станцыю і падоўгу сядзеў каля вакзала. Чакаў.

Павесялеў ён толькі ўлетку, калі, ідучы на вайсковыя зборы, я прывёз да бацькоў цяжарную жонку. Туман палюбіў Алену гэтак жа аддана, як і нас з братам. Ён усюды хадзіў за ёю. Хадзіў важна і горда, і ўсім сваім выглядам паказваў, што ён адчувае адказнасць, якая выпала на яго долю. Калі Алена купалася ў Бесядзі і далёка адплывала ад берага, ён трывожыўся і на ўсякі выпадак таксама заходзіў у ваду.

Пасля нараджэння сына мы патэлефанавалі бацькам. Падчас гаворкі з маці Алена горка заплакала. Я адчуў, як у маіх грудзях нешта абарвалася і пахаладзеў ад страху:

— Што?

— Туман памёр...

Сказаць “здох” у яе не павярнуўся язык.

### СНЯГУРКА З РАСТОВА

Да Новага года заставаўся роўна адзін дзень. Стомлены перадсвяточнай мітуснёй, я курыў на кухні і быў даволі далёка ад грэшнай зямлі. Жонка ў ваннай займалася адвечным жаночым клопатам, а маленькі сын спаў у сваім пакоі. На зямлю мяне вярнуў прарэзлівы званок. Я неахвотна адчыніў дзверы і аслупянеў ад здзіўлення: у калідорчыку стаяла заінелая незнаёмка, дзяўчына гадоў васемнаццаці. “Відаць, Снягурка, — вырашыў я, — жонка для малога заказала...”

— А дзе ж ваш Дзед Мароз? — спытаў я замест прывітання.

— Ой, не магу, — звонка засмяялася Снягурка, — я — з Растова...

— Снягурка з Растова?

— Так, з Растова, але не Снягурка. Ваш сябар Іван папрасіў перадаць пераклады вашых вершаў, — і яна грацыёзна працягнула мне зялёны школьны сшытак.

Я ўпусціў заінелую госцю ў кватэру, дапамог распрануцца і жэстам запрасіў на кухню.

— О! — задаволена ўсклікнула Снягурка (будзем называць яе так) — у вас і курыць, аказваецца, можна?

— І не толькі, — сказаў я, — дастаючы з шафы распачатую пляшку “Рыслінгу”, — сябры майго сябра мае сябры. Да таго ж вы мне зрабілі прыемны падарунак.

Мы выпілі па келіху віна і няспешна закурылі.

— У вагоне я прачытала пераклады вашых вершаў, — даверліва і ў той жа час неяк сарамліва прызналася госця.

— Ну і як?

— Ведаеце, штосьці ў іх ёсць... А ў вас нармалёва, — яна прыдзірлівым позіркам абвяла кухню, — утульна, не тое, што ў Івана...

—Дарэчы, як ён там?

І госця ахвотна, з добрым гумарам, расказала некалькі вясёлых гісторый з жыцця майго растоўскага сябра, дадаўшы, што Іван за пяць тысяч можа даехаць з Растова да Масквы і выйсці з вагона добра выпіўшы і закусіўшы. Я ў сваю чаргу расказаў, як летась Іван завітаў у Мінск, і, не заставшы мяне дома, пакінуў запіску “Здесь был Ваня”.

— Выбачайце, — нечакана перапыніла мяне Снягурка, — а вада гарачая ў вас ёсць? Я вельмі стамілася і мне б не пашкодзіў душ...

— Ведаеце, — сумеўся я, — гарачая вада ёсць, але трэба папярэдзіць жонку...

— Як? — густа пачырванела і перайшла на шэпт Снягурка, — у вас ёсць жонка?

— Даруйце, ёсць, — чамусьці таксама шэптам адказаў я, — і зараз я вас пазнаёмлю.

Віно мы ўсё ж дапілі і развіталіся пасяброўску. На аўтобусным прыпынку Снягурка паабяцала, што ў Растове яна абавязкова наб'е морду майму сябру. Я абяцаў зрабіць тое самае, толькі ў Мінску.

### ДАСЦІПНАСЦЬ

Не ў першы раз пераконваюся, што ў старых вясковых жанчын трэба вучыцца не толькі мове, але і дасціпнасці — гаварыць востра, смешна і трапна. Ну хоць бы вось у гэтай цёткі, якая гасцінна прымае мяне ў сваёй хаце. Частуе шчыра і сардэчна, аднак сама ўзяць чарку наадрэз адмаўляецца. І я, вядома, іду на хітрыкі:

— Дык за ваша здароўе, цётка...

— Ат, якое здароўе ў мае гады!

— Ну дык тады за маё.

— Ага, за тваё вып'ю, а сваё пакладу.

### НЕ ТОЛЬКІ ПРА ДОЖДЖ

— Спадар Алесь, ці будзе сёння дождж? — часам пытаецца ў мяне самы малады сябра нашага саюза, заўсёды ветлівы Алесь Пашкевіч.

Некалькі разоў я сумленна, не заўважаючы нічога дзіўнага ў гэтым пытанні, выказваў свае думкі пра надвор'е. Ён шчыра дзякаваў і мы разыходзіліся, як мне здавалася, задаволеныя: ён — маім тлумачэннем, а я — ягонай ветлівасцю. Але аднойчы я не вытрымаў:

— Слухай, браце, чаго ты прычапіўся да мяне з гэтым дажджом? Я што: бюро прагнозаў?

— Як чаго? — здзівіўся мой малады калега, — у тваёй жа “Планідзе” сказана, што ты “перакладчык з мовы дажджу на родную мову”...

Мне нічога не заставалася, як падзякаваць Алесю за цікавасць да маёй творчасці, але вечарам, калі патэлефанаваў Валодзя Ягоўдзік і пацікавіўся, ці ідзе ў нашым раёне дождж, я насцярожыўся і міжволі згадаў Цютчава: “Нам не дано предугадать, как наше слово отзовется”.

# АКВАРЭЛЬНЫЯ ФАНТАЗІІ

**Лідская мастацкая галерэя прымала ў сябе выставу твораў трох мінскіх мастакоў: Івана Пратасенкі, Уладзіміра Рынкевіча, Вячаслава Паўлаўца. Гэтыя імёны невыпадкова трапілі побач. Яднае гэтых самабытных і розных майстроў — любоў да яе вялікасці Акварэлі. Мастакі добра вядомыя не толькі ў нас, але і за межамі Беларусі, сябры Саюза мастакоў Беларусі, удзельнікі шматлікіх выставаў.**



**Іван Пратасеня — мастацкі рэдактар кніжнага выдавецтва. Яго тэматычныя кампазіцыі дасканала прадуманы, а краявіды вылучаюцца мяккім каларытам і лірычнасцю. У сваіх творах І. Пратасеня часта звяртаецца да сюжэтаў народнага фальклору і выкарыстоўвае асаблівасці традыцыйнага мастацтва.**



**Уладзімір Рынкевіч выкладае ў Мінскай акадэміі культуры, дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва. У сваіх аркушах гэты мастак адыходзіць ад звычайнай ілюстрацыі рэчаў і набліжаецца да асацыятыўнасці. Ён імкнецца да дасканалага валодання тэхнічнымі магчымасцямі акварэлі.**



**Вячаслаў Паўлавец працуе ў галіне станкавай графікі і жывапісу, ён мастак часопіса "Мастацтва". Яго акварэлі вылучаюцца абагуленасцю і цэласнасцю бачання, вольнай шырокай манерай. Выявы краявідаў і архітэктурных помнікаў заварожваюць лаканічным, складаным і глыбокім колерам.**

**Кожны з гэтых таленавітых майстроў дэманструе шырокія магчымасці акварэльнага майстэрства. А пэндзаль для мастака, як заўважыла акварэлістка Астраумава-Лебедзева, выканальнік волі і на яго канцы — сэрца мастака...**

**Л. ДРАКО**

*г. Ліда*

*І.Пратасеня "Бацькоўскі дом".*
*У. Рынкевіч "Перфокусы".*
*В. Паўлавец "Шэрыя хаты".*
*Фотарэпрадукцыі У. ЯНЦЭВІЧА.*

# Я ЛІТАРЫ ВЕДАЮ, КАБ ВУЧЫЦЬ ДАБРУ...

## ПРЭМ'ЕРА Ў ТЭАТРЫ "КАЗКА"

Ужо некалькі гадоў у дзіцячым музычным тэатры "Казка", што існуе на базе Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі, не было прэм'ер. Апошняя адбылася ў 1993 годзе — дзіцячая опера "Вясновая песня" Віктара Войціка. З-за розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын праца над новымі творамі ішла з цяжкасцямі. І вось сёлета тэатр "Казка" нагадаў пра сябе новай пастаноўкай, і зноў — творам Віктара Войціка. "Прыгоды ў замку Алфавіт" — на афішы новы спектакль значыцца як мюзікл для дзяцей, хаця мюзіклам гэты сцэнічны твор можна назваць вельмі ўмоўна. Што датычыць музычнай драматургіі, то яе, у звыклым разуменні, у спектаклі няма. У музычнай канве твора выразна прасочваюцца матывы знаёмых дзіцячых песень В. Войціка, удала скампанаваных у скразное музычна-драматургічнае дзеянне. Заўважу, што гаворка тут не пра чысціню жанру (мюзікл гэта ці не), а хутчэй пра тое, наколькі часам цяжка бывае вызначыць жанр музычнага спектакля, для якога, па сутнасці... не існуе адпаведных азначэнняў.

Музычныя спектаклі для дзяцей часцяком называюць операмі, але гэтую прэм'еру назваць операй было б яшчэ большай нацяжкай. Неаспрэчнае адно — музыка ў новым спектаклі ўздзейнічае і ўспрымаецца адразу, яна вобразна і эмацыянальна акрэсленая, даходлівая. Асабліва яркія месцы ў ёй абумоўленыя характарнасцю вобразаў, хаця не заўсёды ў дыханні аркестра перадаецца гэтая яркасць: адчуваецца, што музычны бок спектакля яшчэ не да канца адпрацаваны. Дарэчы, гэта зазначае і музычны кіраўнік спектакля Глеб Аляксандраў. У партытуру нават у працэсе пракату спектакля ўносяцца сякія-такія змены, адпрацоўваюцца асобныя нюансы.

Што датычыць літаратурнай асновы, то тут, як сцвярджае мастацкі кіраўнік тэатра дырыжор Глеб Аляксандраў, збылася яго даўняя мара — паставіць спектакль паводле твора вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Ліпскага. Яшчэ з 1991 года, калі стварыўся тэатр "Казка" і Беларускі дзіцячы фонд стаў адным з яго заснавальнікаў, паміж імі існуе ўзаемная творчая зацікаўленасць. Уладзімір Ліпскі, прэзідэнт фонду, заўсёды падтрымліваў ідэю стварэння дзіцячага музычнага тэатра, а тэатр меў намер ажыццявіць спектакль паводле яго творат. Наогул, "Казка" падтрымлівае кантакты з беларускімі аўтарамі, супрацоўнічае з імі, ствараючы спектаклі.

У новай працы — моцная літаратурная аснова. Тэкст лібрэта напісала Святлана Клімковіч па кнізе Уладзіміра Ліпскага "Вясёлая азбука". Але ўведзены персанажы і мастацкія вобразы з іншых дзіцячых кніг пісьменніка, што ў выніку не супярэчыць драматургічнай логіцы. У адным дзеянні сустракаюцца і Чорцік-Дуронік, і Сцірачка-Гумка з Кляксай-Ваксай, і Каралева Лянота, і Змей Хапун... Гэта лібрэта атрымалася адным з найбольш удалых у Святланы Клімковіч менавіта дзякуючы таму, што пры яго стварэнні яна абапіралася на добрую літаратурную аснову, багатую яркімі вобразамі і персанажамі. Па сутнасці, у лібрэта як бы тры пласты: сама літаратурная аснова; вершы, прыўнесеныя лібрэтыстам, і фрагменты тэксту, прыўнесеныя рэжысёрам-пастаноўшчыкам (у аснoўным — пралог і эпілог). Можна заўважыць пэўную стылістычную неадэкватнасць паміж асобнымі фрагментамі лібрэта, але гэта не надта ўплывае на якасць спектакля ў цэлым.

А задуманы ён як павучальная гісторыя з ярка акрэсленай выхаваўчай накіраванасцю, што, аднак, не дэкларуецца, а выяўляецца ў процідапастаўленні дабра і зла, прытым дзеянне разгортваецца ў яркай і займальнай форме.

Спектакль "шматнаселены", у ім занята 45 дзяцей, ды яшчэ некалькі дарослых выканаўцаў. А паставіў яго артыст тэатра музкамедыі Анатоль Касцецкі. І гэта здарылася не раптам — гэта заканамерна, бо А. Касцецкі працуе ў школе, дзе вучацца юныя выканаўцы, педагогам па тэатральным майстэрстве. І вядома, што ён лепш за кожнага рэжысёра ведае здольнасці сваіх выхаванцаў, ведае, як з імі трэба працаваць і чаго ад кожнага з іх можна дамагчыся. Гэта мінская сярэдняя школа N 170 з эстэтычным ухілам, дзе вучацца самыя звычайныя дзеці. Незвычайнымі тут хутчэй можна назваць педагогаў, якія ўкладваюць усе свае сілы і здольнасці ў развіццё дзяцей, а таксама прыцягваюць у школу з гэтай мэтай спецыялістаў. І вось вынік — наведнікі школьнай харавой студыі сталі ўдзельнікамі сапраўднага прафесійнага спектакля.

Дарэчы, гэтая студыя ўвесь час лічылася дзіцячай студыяй тэатра "Казка", бо і ў ранейшых спектаклях былі занятыя многія з яе ўдзельнікаў. Кіруе студыяй хормайстар Алена Гуляева. Яна ў аднолькавай меры любіць і мастацтва, і дзяцей, — вось і вынік...

А ў тым, што дзеці валодаюць асновамі акцёрскага майстэрства і адчуваюць сцэну — канешне, заслуга Анатоля Касцецкага, іх настаўніка і рэжысёра. Дарэчы, і ў новым спектаклі ён выконвае ролю Настаўніка.

Да такога арганічнага іспавання на сцэне дадаецца і высокі ўзровень музычнай падрыхтаванасці дзяцей. (Многія з іх яшчэ іграюць на музычных інструментах.) Трохі слабейшай выглядае іх харэаграфічная падрыхтаванасць, але ж балетмайстар Марына Філатава нямала папрацавала, малюнак танцавальных нумароў цікавы, адчуваецца, што і пластыкай дзеці займаліся.

Наконт прафесійных акцёраў. Напачатку рэжысёр планаваў, што іх павінна быць двое: на ролі Настаўніка і Змея Хапуна. Але пазней зразумеў, што на ролю Каралевы Ляноты таксама лепш прызначыць прафесійную выканаўцу. Роля характарная, што вымагае акцёрскага майстэрства, да таго ж — Каралева Лянота і Змей Хапун ствараюць дуэт, па каларытнасці гэтыя вобразы амаль раўназначныя, таму і сілы выканаўцаў павінны быць раўназначныя. Акрамя таго, іх шматзначныя "недзіцячыя" дыялогі — ўспрымаліся як недарэчнасць.

Цяпер — пра сюжэт. У замак Алфавіт, дзе жывуць старанныя дзеці і іх Настаўнік, залазіць Змей Хапун, які ненавідзіць навуку. Ён крадзе першыя дзве літары алфавіту і хавае іх у сваім падземным царстве. Змей Хапун радуецца — без гэтых літар замак Алфавіт не працуе! У яго ным царстве жывуць дзеці, якія збеглі са школы, — гэта для яго дапамога. Акрамя таго, суседка, Каралева Лянота, абяцае Змею Хапуну паспрыяць у цёмных справах. Але, як заўсёды ў казках, дабро перамагае зло. Смелыя дзеці знаходзяць схаваныя літары, і дапамагае ім у гэтым вельмі спрытны Чорцік Дуронік. А ад Змея Хапуна застаецца толькі мокрая пляма.

Роля Настаўніка ў спектаклі нібыта адасобленая. Гэты персанаж з'яўляецца на авансцэне ў пралогу, яго задача — настроіць гледачоў адпаведным чынам, у вобразнай форме растлумачыць асноўную ідэю спектакля, разлічанага на старэйшых дашкольнікаў і малодшых школьнікаў. Ім, зразумела, патрэбны ўступны каментарый. Анатоль Касцецкі, прапанаваўшы такі рэжысёрскі ход, сам выконвае ролю Настаўніка, сам прыдумаў і тэкст пралога. Такім чынам, Настаўнік тлумачыць маленькім гледачам: на гэтым спектаклі вы атрымаеце ўрок сумленнасці і дабрыні, а таксама ўрок мовы, якую даў нам Бог...

Ды і дзеці ў зале — не пасіўныя гледачы. Для таго, каб на працягу ўсёй дзеі падтрымліваць іх увагу, рэжысёр скарыстоўвае просты прыём: удзельнікі спектакля, кожны з якіх увасабляе адну з літар Алфавіта, выстройваюцца на сцэне ў належным парадку, каб гледачы маглі прачытаць падказку ці каментарый далейшага ходу падзей.

А сам Настаўнік непрыкметна адыходзіць на другі план, асноўная дзея адбываецца без яго. Па сутнасці, гэты вобраз з'яўляецца ў спектаклі нібыта як сімвал асноўнай ідэі. У эпілогу Настаўнік зноў звяртаецца да гледачоў, з высновай: я літары ведаю, каб вучыць дабру...



А вось роля Змея Хапуна, якую выконвае артыст Васіль Сердзюкоў, падаецца ў спектаклі ключавой. Яна вельмі каларытная, нават можна сказаць — пікантная, і для яе ўвасаблення несумненна патрэбны акцёрскае майстэрства і гэткі шарм, чым і валодае В. Сердзюкоў. У дуэце з ім працуе артыстка Анжэліка Чумакова. Яе Каралева Лянота — таксама вельмі каларытны вобраз. Іншыя ўдзельнікі спектакля — дзеці, іх больш за сорак, і ў масавых сцэнах, і ў індывідуальных ролях. Усе яны даравітыя, здольныя да мастацкай творчасці. Але ўсё ж вылучу аднаго з малодшых удзельнікаў спектакля — Сярожу Платонава ў ролі Чорціка Дуроніка. Здаецца, у гэтага хлопчыка ёсць усё, каб стаць у далейшым сапраўдным майстрам сцэны. І як добра, што педагогі, заўважылі ў ім іскрынку таленту.

Адразу пасля прэм'еры тэатр "Казка" атрымаў запрашэнне з Санкт-Пецярбурга на ўдзел у традыцыйным, VII Міжнародным дзіцячым музычным фестывалі "Гимн великому городу". У гэтым прадстаўнічым фестывалі бралі ўдзел многія вядомыя дзіцячыя калектывы не толькі з бліжняга, але і з далёкага замежжа. І вось дзіцячы музычны тэатр з Мінска са сваім новым спектаклем стаў яго лаўрэатам.

Вось так, яшчэ раз, падарыла дзецям "Казка" хвіліны радасці...

**Зоя ЛЫСЕНКА**

*На здымку — сцэна са спектакля "Прыгоды ў замку Алфавіт".*

Тэатр

# МУЗЫ Ў МАЗа ПАД БОКАМ

Для тых, хто не страціў простую чалавечую звычку стасункаў з прыгожым, хто рэгулярна ходзіць на сустрэчы з жывым мастацтвам, а не глынае каля роднай канапы выпадковыя тэлеаскепкі, — для іх летнія вечары беднаватыя і тужлівыя. Вакацыйны штыль у аазісах культуры — горшы за ўраган. Уносячы спектаклі з канцэртамі, ён пазбаўляе душу чагосьці важнага. І горад пусцее, застаецца цярпліва чакаць восені, калі родныя пералётныя тэатры вернуцца...

Закончыў сезон і штурмуе беларускую мяжу Мінскі муніцыпальны тэатр драмы "Дзе-Я?"...

Яшчэ 10 гадоў таму (хутка юбілей!) цяперашні мастацкі кіраўнік тэатра Мікалай Трухан (імя ў Беларусі творчай вядомае), стварыў студыйную групу, якая спачатку заявіла аб сабе, а потым стала і асновай прафесійнага гарадскога тэатра. Яму — у афіцыйным ужо статусе — ідзе чацвёрты год, а адрас, які варта запомніць — вуліца Лізы Чайкінай, непадалёк ад ДК МАЗа.

Тэатр "пасяліўся" ў адной з залаў "Радзімы", тыповага кінатэатра савецкай архітэктуры (яго блізняты — што "Мір", што "Беларусь"), і здолеў чароўна пераўтварыць немудрагелістую прастору. Што ў многім шчасліва памагае своеадметным пастановачным рашэнням спектакляў, стварэнню іх відовішчнай атмасферы. Акцёры дыхаюць, спяваюць і жывуць літаральна ў трох—дзесяці кроках ад кожнага гледача, таму падробка і паўнатхненне тут не праходзяць, а кантакт з залай — абавязковы. Гэта ў першую чаргу ўлічваюць гледачы, гэта стала нормай для выканаўцаў роляў, якія вышыні задачы адпавядаюць.

Камедыю "Чорт і баба" Францішка Аляхновіча я глядзеў з немалой групай салдат з роты ганаровай варты нашай Галоўнай ваеннай камендатуры. Думкамі праз гадзіну гле дачы ў пагонах са мной не дзяліліся — а можа, у тым і неабходнасці не было? Вочы хлопцаў, якія ўспрымаюць яркае і шматзначнае, як жыццё народнае, дзейства, я бачыў і сам, сам жа быў таленавіта ўцягнуты ў стыхію ёмістай тэатральнай прыпавесці. Вайскоўцы на чале з узводным яўна не памыліліся ў выбары адпачынку, які, як у чарговы раз выявілася, здольны нязмушана ўзбагачаць розум і сэрца.

Тэатр, мяркуючы па кодэксе веры і прафесійным уменні трупы "Дзе-Я?", сапраўды жывы і патрэбны, якая б эпоха ні бушавала за сценамі залы.

У далікатным, напоўненым думкай і "смачным" беларускім тэксце камедыі — дзесяткі фраз, якія "прабіваюць" наскрозь браню пераканання і песімізму. Гэта — бязлітасная праўда пра нас, але лагічна падсвечаная надзеяй. Вось некалькі ёмістых рэплік: "Хоць усё жыццё сагнуўшыся — можа, заўтра лепш будзе?", "Памажы нам, Божа, на той бераг чыстымі выбрацца".

Мы бяздарна марнатраўныя і нецікаўныя, калі пакідаем у забыцці вялікую спадчыну Ф. Аляхновіча, земляка, "бацьку найноўшай беларускай драматургіі". Тэатр Мікалая Трухана паслядоўна аднаўляе гэтае імя ў законных правах.

Яшчэ адзін спектакль у рэпертуары тэатра, "Імжа", — своеасаблівая, магутная (і напеўная, лёгкая адначасова) распрацоўка тэмы народнага лёсу. Яму, дарэчы, ужо дасталіся лаўрэацкія лаўры з захапленнямі на фестывалі ў Гданьску.

На мінскай "рабочай ускраіне", у няспешчаным высокім мастацтвам Заводскім раёне сталіцы аддана працуюць найгоднага калібра акцёры. "Чорт і баба" — гэта, без усякага сумнення, падарунак творчага лёсу для Тамары Міронавай. Нам прадстаўлены актрысай унікальны дар імправізацыі і сатворчасці з гледачом, чысціні і непадробнасці рэакцый душы, зліцця думкі, паэзіі, смеху скрозь слёзы. Сапраўднае на тэатры, здаецца, павінна выглядаць менавіта так?

Група не проста таленавітая і памаладому свежая, яна яшчэ і куе сваю будучыню. На сцэну ўсё часцей выходзяць студыйцы, якія з энтузіязмам нарошчваюць творчыя мускулы ў дзіцячых спектаклях тэатра, таксама фірменных. Пра многае вам скажа і месца першага майго знаёмства з Яўгенам Увядзенскім і Паўлам Пляшко: навічкі Мінскага муніцыпальнага не прапусцілі нядаўні фестываль "афганскай" песні ў ДК МАЗа і па закліку творчага сэрца прынялі ў ім удзел. Яўген нават стаў лаўрэатам. А Павел паўмесяца назад упрыгожыў сваімі аўтарскімі песнямі сустрэчы з чытачамі ваеннай газеты Беларусі ў Цэнтральным Доме афіцэраў. І яшчэ шматзначная дэталь таго ж парадку: артысты "Дзе-Я?" у жалобныя вясеннія — чарнобыльскія — дні гэтага года сумленна адыгралі нямала спектакляў (27 за два тыдні!) у забруджаных раёнах Беларусі, дабраўшыся да самай глыбінкі.

...Куды ж яны ўсе ад'язджаюць на лета, вылятаюць, як птушкі, пазбаўляючы магчымасці прадоўжыць адразу шчасце майго глядацкага знаёмства?

Акрамя акцёрскіх вакацыяў, ёсць прычына і больш важная. Наш у самым лепшым і жывым сэнсе нацыянальны малады тэатр чакаюць не дачакаюцца ў Шатландыі. Міжнародны Эдынбургскі фестываль мастацтваў святкуе сваё 50-годдзе, запрасіўшы лепшых, самых прыкметных сяброў. "Дзе-Я?" запрошана персанальна.

Маршрут летняга візіту за Ла-Манш уключае ў сябе і горад Эшфорд. Там тэатральны фестываль праводзіцца ўпершыню. Упэўнены, што багацейшымі ад удзелу ў ім нашага тэатра стануць і гаспадары, і госці.

Калі — праклятае слоўца!.. — фінансы ножку не падстаўляць... Гэтую праблему не аб'ехаць, і ў цяперашнім мастацтве, на жаль, яна вырашаецца выключна з боем. "Дзе-Я?" служыць творчасці зусім не на Месяцы, так што цяперашняя фестывальная паездка "кульгае" толькі адным, але істотным — бюджэтам. Надзейных грошай — пад абрэз, толькі на білеты. І гэта ў сталічнага тэатра, які заслугоўвае дастойнага ўзлёту, які не павінна нішто перапыніць...

Мне патрэбны тэатр бліжэй да дому, які жыве і кліча сумленнымі спектаклямі, такі, як "Дзе-Я?", каб не плыць па цячэнні, а ствараць свой свет па разуменні сумлення. Без блізкага па духу тэатра зрабіць гэта будзе цяжэй.

І няхай на даху будынка, дзе абжыліся і рыхтуюць новыя спектаклі гадаванцы Мікалая Трухана, застанецца кінатэатравае слова "Радзіма". Мы — "цёзкі" па гэтай прыкмеце. Вайскоўцы таксама любяць і паважаюць родную краіну і яе людзей.

**Сяргей ПЯТРОЎ, падпалкоўнік, ваенны журналіст**

Згадкі

# "МАЭСТРА ВІЦЕБСКІ"

## ПАМЯЦІ МАСТАКА

Споўніўся год, як перастала біцца сэрца цудоўнага і добрага майстра, слыннага беларускага скульптара Заіра Ісакавіча Азгура. Вельмі шырокім і прадстаўнічым было кола людзей, з якімі ён быў знаёмы, але ў 80-я гады я быў ці не апошні, хто хоць і зрэдку, але прыносіў Азгуру весткі з Віцебска. Нашы сустрэчы адбываліся звычайна ў майстэрні (і ў старой, на вул. Някрасава, і ў "майстэрні N2", як сам мастак яе называў, на вул. Пуліхава (Трактарная-4), былі эпізадычнымі але даволі працяглымі і надзвычай запамінальнымі.

На развітанне, здаецца, у адну з апошніх сустрэч, Заір Азгур узнёсла сказаў: "Ну што ж, мой юны сябра, вязіце прывітанне майму роднаму Віцебску, я яго часам бачу ў снах". А потым задумліва дадаў: "Як і сваю маці".

Маці і Віцебск... Яны былі непадзельнымі ў памяці мастака. Успаміны пра віцебскі перыяд жыцця былі заўсёды асабліва падрабязнымі і пяшчотнымі. Так памятаюць толькі самае, самае дарагое. "Ці магу я быць наўдзячны гэтай зямлі? Гэта ж горад майго юнацтва, пачатак маіх дарог, — шчыра прызнаваўся ён. — Аб Віцебску я думаў паўсюль, і ў цудоўнай Фларэнцыі і ў сучаснай Варшаве. Віцебск быў для мяне заўсёды адчуваемы і жывы".

Вочы мастака нават свяціліся, калі ён успамінаў сінагогу, дзе некалі вучыўся, і равіна Шалом-сярдзітага, сябра дзяцінства Додзіка, па мянушцы "медная галава", які лёгка пераплываў Дзвіну і не баяўся хадзіць па могілках, гандлярку Цыву, паэтэсу Рыўку, нястомнага гаваруна Піліпа Патапенку...

"Я памятаю, у мяне гарэлі далоні ад нецярпення і жадання ляпіць ужо ў тыя юнацкія гады. Дзіўна, але гэта пачуццё захавалася ў мяне на ўсё жыццё".

Азгур, уздыхаючы, з горыччу успамінаў цудоўную архітэктуру, зруйнаваную ў Віцебску "вялікімі горадабудаўнікамі". Асабліва хваляваўся, калі я апавядаў яму аб няспынным бязлітасным разбурэнні старажытных помнікаў у цэнтры горада.



"А ці многа ў Віцебску засталося яўрэяў? — неяк аднойчы раптам спытаў ён. Пачуўшы станоўчы адказ, дадаў, прыжмурыўшы вочы: — Напэўна і ставяцца да іх не вельмі добразычліва?". Маючы сярод яўрэяў шмат сяброў, я імкнуўся пераканаць яго ў адваротным. Але ён, напэўна ведаючы на гэта пытанне свой адказ, уздыхнуў: "Раней яўрэяў таксама не вельмі любілі, але паважалі за іх прафесійную годнасць. Я памятаю, у Віцебску, калі гадзіншчыкам быў яўрэй, то гэта быў высакакласны гадзіншчык, калі шавец — то таксама лепшы. Сёння, зразумела, гэтага ўжо няма. А ўвогуле яўрэі шматпакутны народ. Як і беларусы. Можа, самім богам наканавана жыць ім на гэтай зямлі побач і трымацца адзін аднаго".

Неяк ён заўважыў: "А яшчэ мяне некаторыя называюць самым галоўным яўрэем краю і абвінавачваюць ва ўсіх смяротных грахах. А што з таго, што я яўрэй і з пашанай стаўлюся да культуры і мовы гэтага народа? Ты малады і не ведаеш, але ж быў час, калі стаўленне да яўрэйскай, беларускай, польскай культур было амаль аднолькава спрыяльным, і нават абвестку пра прыбыццё цягнікоў рабілі на усіх гэтых мовах..."

Каб змяніць тэму, я заўсёды распытваў яго пра Віцебск, пра юнацкія гады, ведаючы, што гэтыя ўспаміны сапраўды бадзёрацць яго. "О, пра гэта я магу апавядаць доўга", — у якасці ўступу выгукваў Заір Азгур і, склаўшы адна на адну рукі, пачынаў свае ўспаміны. Я дзівіўся, наколькі звязна, нават літаратурна вытанчана ў яго атрымліваецца, як лёгка ён прыгадваў факты, з якой дабратой і цеплынёй разважаў аб мінулым і старых знаёмых.

"Я жыў у Віцебску ў той час, калі само гэта слова вымаўлялася з асаблівай павагай, быццам гэта была сталіца. Мы, студэнты віцебскага мастацка-практычнага інстытута, увогуле былі перакананы, што менавіта адсюль пачынаецца вялікі свет мастацтва. На скульптурным факультэце, на які я паступіў у 13 год, дзякуючы вялікаму жаданню і папярэднім заняткам у майстэрні Юрыя Маісеевіча Пэна, у мяне была мянушка "Фараон". Справа ў тым, што жыў я ў той час у будынку тэхнікума, а займаў велізарны акаваны жалезам куфар, які сам і назваў урачыста саркафагам. Гэта быў мой ложак і адначасова сховішча для кніг і папер. Я вельмі стараўся вучыцца. Уставаў раней за ўсіх і першым прыходзіў у майстэрню. Там, у поўнай цішыні, пачынаў ляпіць. Вельмі хацелася мне дасягнуць такога майстэрства, якім валодаў славуты італьянскі скульптар Мікеланджэла. Я гуляў уздоўж Дзвіны і марыў пра той час, калі ў мяне будзе вялікая майстэрня і я буду працаваць у ёй, як сапраўдны "Мікеланджэла віцебскі".

Шмат рознага ўспамінаў Заір Азгур пра яркія і адметныя мастацкія таленты, пра вучобу ў выдатных майстроў С. Юдовіна і Ю. Пэна, пра Я. Мініна, пра сустрэчы і гутаркі з М. Керзіным.

"Многа часу прайшло, але я ўсё памятаю, — быццам здзіўляючыся заўважаў Азгур. — Сёння іншае жыццё, але я вельмі люблю маладых, люблю іх нават больш, чым сваіх сучаснікаў, зайздрошчу іх большай інфармаванасці і цікаўнасці. Я ведаю, у сённяшняй моладзі зусім іншыя прыярытэты ў мастацтве. Я стары чалавек, усё жыццё быў шчыра адданы прынцыпам рэалістычнага мастацтва і дагэтуль перакананы: трэба бачыць свет такім, які ён ёсць".

Такім гэты свет і паўстае ў вобразах Заіра Азгура — натуральна-канкрэтным і крыху ідэалізаваным. Сёння можна пароснаму ацэньваць творчасць "маэстра", але адзінае бясспрэчна: Заір Азгур — гэта цэлая "эпоха" ў беларускай скульптуры, цэнтральнае месца ў якой належыць выдатнай галерэі партрэтаў славутых сучаснікаў мастака.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

*г. Віцебск*

*На фотаздымку: З. АЗГУР у "майстэрні N 2", сакавік 1985 года.*

## ПРА ПЕРАЖЫТАЕ, ПРА ЗВЕРАНАЕ...

ЦІХАНУ ПАНЦЮШЭНКУ —75



**Ціхан Антонавіч нарадзіўся 20 жніўня 1921 года ў горадзе Лябедзін Сумскай вобласці (Украіна). У 1939 годзе скончыў сярэднюю школу і быў прызваны ў армію. Служыў у Севастопалі, дзе яго заспела Вялікая Айчынная вайны. У адным з баёў быў цяжка паранены, трапіў у палон, апынуўся у Румыніі. У 1944 годзе Ц. Панцюшэнку ўдалося вырвацца з фашысцкай няволі. Працягваў ваяваць з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Яго далейшы баявы шлях пралёг праз Венгрыю, Аўстрыю і завяршыўся ў Чэхаславакіі. Дэмабілізаваўшыся ў 1946 годзе, Ціхан Антонавіч паступіў у Харкаўскі медыцынскі інстытут, пасля сканчэння якога ў 1952 годзе, пачаў працаваць у Гродне. З 1965 года жыве ў Мінску. Доктар медыцынскіх навук, прафесар Ц. Панцюшэнка аўтар каля 300 навуковых прац, сярод якіх 8 манаграфій, ён жа мае 7 вынаходстваў.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1960-я гады. Першае апавяданне "Водпуск" апублікаваў у 1978 годзе на старонках газеты "Звязда". У асноўным Ціхан Антонавіч піша пра тое, што перажыў сам. Аб гэтым яскрава сведчаць і яго найбольш значныя творы. У аповесці "Тайны старажытных руін" (1983) Ц. Панцюшэнка праўдзіва паказвае перадваенныя будні воінаў берагавой аховы. У раманах "Мужчыны не плачуць" (1986) і "Галоўны ўрач" (1990) адлюстраваны жыццё і справы нашых сучаснікаў. Для прыкладу, у першым з іх дзеянне адбываецца ў асяроддзі вучоных-біяхімікаў. Аўтар пераканаўча раскрывае канфлікт, што ўзнік паміж загадчыкам лабараторыі і кіраўніцтвам інстытута. Другі раман, як і відаць з назвы, прысвечаны медыкам.**

**Віншуем Ціхана Антонавіча з 75-годдзем! Зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!**

## ЯК СВЕДЧАННЕ ЧАСУ

**У свой час раманы Макара Паслядовіча "Цёплае дыханне" і "Святло над Ліпскам" мелі шырокі водгалас, апошні нават вывучаўся ў сярэдняй школе. На сённяшні дзень, безумоўна, у гэтых творах нямала таго, што засталося, як кажуць, у сваім часе, тым не менш яны цікавыя як адна са старонак сучаснай беларускай літаратуры. Цікавая гэтым для нас і ўся творчасць М. Паслядовіча, з дня нараджэння якога спаўняецца 90 гадоў (памёр 30 снежня 1984 года). З першым апавяданнем М. Паслядовіч выступіў яшчэ ў 1927 годзе ў часопісе "Паляўнічы Беларусі". Да вайны выдаў зборнікі апавяданняў "Зруйнаваныя межы" (1930), "Чатырнаццаты нумар" (1934), "Снайпер" (1937), аповесці "Марсель" (1931), "Хада ў заўтра" (1933). Плённа працаваў і ў пасляваенныя гады — і як нарысіст, і як апавядальнік, акрамя таго, пісаў для дзяцей, выступаў у галіне сатыры і гумару, драматургіі, перакладу.**

## "ЗНІЧ" НА ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ

**Больш як тыдзень гастраляваў на Гарадзеншчыне Тэатр аднаго акцёра "Зніч". Ён пабываў у абласным цэнтры, Лідзе, Ваўкавыску, Зэльве. Аматарам тэатральнага мастацтва былі паказаны монаспектаклі "Мне сняцца сны аб Беларусі" па творах Янкі Купалы, "Белы сон" — пра драматычны лёс слыннай паэткі Ларысы Геніюш (выканаўца ва ўсіх спектаклях — кіраўнік тэатра Галіна Дзягілева), "Кроткая" паводле Ф. Дастаеўскага (у выкананні заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Шэлестава). У праграме "Тайны знічнага свята" быў паказаны спектакль "І робіць цуд актрыса Горцава Ларыса", у якім разам з названай актрысай бралі ўдзел паэт Артур Вольскі і цымбаліст Алесь Лявончык. Артысты сустракаліся з памежнікамі, працоўнымі гарадоў і мястэчак, з дзецьмі ў аздараўленчых лагерах. У Зэльве яны ўдзельнічалі ў святкаванні 86-х угодкаў з дня нараджэння Ларысы Геніюш.**

**С. ШАМІЁНКА**

Віншуем!

# З НЯРЭШНІ — РЭЧКІ НЕГЛЫБОКАЙ...

## Алегу САЛТУКУ — 50

Нярэшня... Рыжэнькі... Наўрад ці гавораць вам нешта гэтыя назвы?! Папраўдзе кажучы, напачатку і мною яны ўспрымаліся як штосьці звычайнае. Ва ўсякім разе да лета 1978 года я так і не мог пэўна сказаць, каторая з іх тычыцца вёскі, а з якой звязана найменне рэчкі, ля якой гэтая вёска прытулілася. А ўлетку таго, цяпер ужо далёкага года, была камандзіроўка на Віцебшчыну, у Шаркоўшчынскі раён — акурат набліжалася чарговая "круглая" дата з дня ўтварэння БССР і тагачасны галоўны рэдактар "ЛіМа" Алесь Харытонавіч Асіпенка вырашыў адзначыць гэты юбілей па-свойму — кожнай з абласцей нашай рэспублікі прысвяціць спецыяльны нумар тыднёвіка.

Памятаю, у камандзіроўку напрасіўся сам. Даведаўся, што ў адной з вёсак (у якой — цяпер запамятаў) ёсць аматарская кінастудыя. Чым не тэма для нарыса? А па прыездзе ў Шаркоўшчыну, канечне ж, не мог не завітаць у рэдакцыю раённай газеты, дзе і пазнаёміўся з паэтам Алегам Салтуком, які на той час працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Віцебскі рабочы".

Пра што падчас той першай сустрэчы размаўлялі — не так і істотна. Важна, што якраз з гэтага моманту і ўвайшлі ў маю свядомасць (а цяпер не сумняваюся, што назаўсёды) рэчка Нярэшня і вёска Рыжэнькі. Абедзве яны ў Шумілінскім раёне, у родных мясцінах А. Салтука. І па вяртанні ў Мінск, калі крыху ўлегліся ўражанні ад паездкі, для мяне ўжо зусім па-іншаму, больш выразна і акрэслена пачаў адкрывацца і раскрывацца свет гэтага паэта. І каторы раз перагортваў-перачытваў старонкі яго кніг — "Працяг", якая выйшла за год да нашай сустрэчы і першай "Пачатак дня", датаванай яшчэ 1974 годам. У "Працягу" і напаткаў гэтыя вельмі блізкія яму самому, радкі:

**Ёсць і ў мяне свае вытокі,**
**А пачынаюцца яны**
**З Нярэшні —**
**Рэчкі неглыбокай,**
**Дачкі Заходняе Дзвіны.**

Іх А. Салтук вынес свайго роду эпіграфам да гэтай споведзі (аўтарскае вызначэнне жанру), што так і называецца "Нярэшня".

Пройдзе шмат гадоў, у 1988 годзе ў А. Салтука выйдзе кніга "На далонях жыцця" (услед за зборнікам "Святло зямлі", пазначаным 1982 годам), і гэтыя ж словы, толькі з невялікім удакладненнем ("рэчка неглыбокая" стане "рэчкай сінявокай") будуць папярэднічаць невялікай паэме "Спатканне". Таксама напісанай на аўтабіяграфічным матэрыяле і з гэткім жа захапленнем зямлёй маленства. Знойдзецца ў ёй і месца вершу-прысвячэнню "Брату Стасю":

**Няхай засталося са жменьку**
**Людзей дарагіх нам і хат,**
**У сэрцы, як песня:**
**— Ры-жэнь-кі!**
**Я хутка прыеду, мой брат.**
**Мы сходзім з табой на Нярэшню,**
**Хоць там больш няма шчупакоў**
**І наша згубілася рэха...**
**Ды ўсё-ткі мне трэба дамоў!**

Сталася так, што сям'я Салтукоў пазней перабралася на Ушаччыну, на радзіму бацькі Алега. Таму для паэта вяртанне ў Рыжэнькі, да Нярэшні — гэта і зварот да саміх вытокаў, жаданне прайсціся там, дзе першааснова ўсяго. У рэшце рэшт гэта моцна давала аб сабе знаць і ў яго першай кніжцы, у якой не мог не прыцягнуць увагу чытача хоць бы гэты верш:

**Я вярнуся з дарог**
**На свой родны парог,**
**Калі жнівень азябне босы,**
**Маладзік будзе дзьмуць у рог,**
**Сыпаць спелыя зоры ў пракосы.**

**Над палямі расчэша туман бараду,**
**Рэха рэху ў бары адгукнецца.**
**Я сцяжынкай знаёмай пайду,**
**Што пралегла з маленства праз сэрца.**

**Пакланюся ў пояс**
**Пералескам, гаям**
**І бярозцы, пасаджанай**
**Мною...**

"Вяртанне з дарог" набывае для А. Салтука асабліва глыбокі сэнс сёння, калі ён, ступаючы на сваю паўвекавую вярсту, крочыць "жніўнем азяблым" у тыя Рыжэнькі, да той жа Нярэшні... Няхай, магчыма, і ў думках — такія ж мы заўсёды заклапочаныя, што і часу, бывае, не стае, каб лішні раз завітаць туды, дзе, кажучы словамі Р. Барадуліна, трэба бываць не госцем... Але тым не менш — гэта вяртанне. І пэўнае падрахункаванне ўжо, узважванне таго, што і як зроблена.

А зроблена А. Салтуком шмат. І справа не ў колькасці напісанага. Лёгка знайсці сярод яго аднагодкаў тых, хто мае больш кніжак. Галоўнае, што паэтычная песня А. Салтука — гэта менавіта яго песня. Песня, у якой свой матыў і з іншымі яго не зблытаеш. Песня, якая надзіва мілагучная і шчырая... Песня, што гучыць самабытна...

Я не збіраюся займацца дэталёвым аналізам яго кніг... І не стаўлю за мэту раскладваць усё па палічках, абгрунтоўваючы, як ад зборніка да зборніка мужнеў і мацнеў талент творцы... Скажу яшчэ толькі, што А. Салтук з паэтаў, для якіх паэзія ўзнікае з душэўнай і духоўнай патрэбы. Ён перакананы: "Каб сказаць, трэба мець,// Што паэту сказаць, // А не сыпаць бліскучай лускою, // Барабанам пустым не грымець // На ўвесь свет // Да аглухі нямое". І яго вершы лепш чытаць тады, калі душа прагне таго ж хараства, якім і напоўнены яны. Калі хочацца чагосьці светлага і ўзнёслага і абавязкова жадаецца апынуцца далей ад паўсядзённага тлуму, які толькі напачатку ўспрымаецца як нешта вартае ўвагі, а калі



лепей разважыш, дык усё гэта тое дробязнае, што з цягам часу праходзіць, застаецца ж — вечнае. А яно тым і прыгожае, што ніколі не растрачвае свае вабнасці. Як у гэтым вершы:

**Зноў антонаўка ў баразну**
**Глуха чмякне,**
**І ўсмягне ціша.**
**Гэтай ночкаю не адну**
**Пару месячык закалыша.**

**Вунь між хмарак, гарэза, ляціць,**
**Нібы санкі ў гуллівых гурбах...**
**Будуць літасці мройна маліць**
**Ад агню сатлелыя губы,**

**Будзе неба ляцець на зямлю,**
**Будуць зоркі ў вачах карагодзіць.**
**І спрадвечнае будзе:**
**— Люблю!**
**І спрадвечнае будзе:**
**— Годзе!..**

А падобных твораў у А. Салтука шмат. Ды і як жа інакш, калі найчасцей з-пад яго пяра з'яўляецца тое, што пішацца тады, калі нельга не пісаць. Чытаючы паэтава прызнанне: "Дзякуй за давер табе, Нярэшня, // Я перад табой не губляў // Родных слоў, нібыта ў краме рэшты", не магу не паўтарыць, не сказаць і сваё: "Дзякуй табе, Нярэшня! Дзякуй, Рыжэнькі! Дзякуй за тое, што ўзгадавалі гэткага самабытнага паэта!"

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ...ЛЮБОЎ ДА СВАЙГО НАРОДА

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

даказаў беспадстаўнасць такога погляду - "Нормы маралі з'яўляюцца не тварэннямі чалавечага розуму, а пэўным дарам, якім надзяліла чалавека культура эвалюцыі".

Пасутнасці Хайек пацвярджае біблейскі пункт гледжання на зададзенасць норм маралі нам зверху (Божыя запаведзі!). Ён прыходзіць да грунтоўнага вываду: нішто не можа быць абгрунтаваным, калі зыходзіць з высунутых патрабаванняў навукі, і не толькі нормы маралі, але і мова, права і сама навука. У сваіх даследаваннях Хайек выказаў шэраг думак, накіраваных на асэнсаванне трансцэндэнтнасці чалавечай сутнасці і неабходнасці нацыянальнага жыцця - думкі вельмі важныя і для разумення прапануемай тут канцэпцыі. Справа ў тым, што менавіта сцыентычны погляд на нацыю вядзе да вядомай ідэі зліцця нацый. Вядомы ўкраінскі філосаф Д.Чыжэўскі таксама падкрэсліваў: "Вечныя каштоўнасці не з'яўляюцца такімі аднастайнымі і прасталінейнымі, як лічаць рацыяналісты ...ужо на ўзроўні арганічнага жыцця сустракаецца такое багацце розных формаў і тыпаў, што мы ясна ўсведамляем: наўрад ці можа існаваць жыццё не толькі арганічнае, але і чалавечае, якое б такой разнаітасці формаў і тыпаў у сябе б не мела".

Падзел на рацыяналістычны і ідэалістычна-рамантычны погляд у філасофіі знаходзіць сваё адлюстраванне ў палітыцы. Першы падыход - рацыяналістычны, нарадзіў адну з самых распаўсюджаных ідэалогій у палітыцы - ліберальна-дэмакратычную. Для лібералаў характэрна імкненне да культа матэрыяльных каштоўнасцяў пры поўным ігнараванні нацыянальнай культуры. Для іх характэрны вядомыя нам яшчэ па камуністычнай ідэалогіі інтэрнацыянальныя "агульначалавечыя каштоўнасці", мары пра пабудову адзінай безнацыянальнай дзяржавы. Гэтыя ідэі вельмі лёгка прыжываюцца ў краінах, дзе ўладараць традыцыі бездухоўнасці. (Да такіх адносіцца і наша Беларусь).

### 5. АБГРУНТАВАННЕ НАЦЫЯНАЛІЗМУ Ў ХРЫСЦІЯНСТВЕ.

Яшчэ раз падкрэслю выказаную ўжо асноўную думку: кожны народ мае нацыянальны інстынкт, які дадзены яму ад прыроды, а дакладней - ад Бога. У беларусаў такі інстынкт таксама ёсць, і праяўляецца ён у неўміручасці народных традыцый, фальклору, асаблівасцях характару беларусаў, унікальнасцю беларускай мовы. І.Ільін пісаў, што "нацыянальная асаблівасць па-свойму ўяўляе Дух Божы і праслаўляе Госпада... пагэтаму думка патушыць гэтую разнастайнасць (што спрабавалі зрабіць бальшавікі. - **А.А.**) можа нарадзіцца толькі ў духоўна мёртвай, хворай душы". Менавіта гэта і ёсць параджэнне душы злой і зайздроснай - усё роўна ці імкнецца гэтая хімера вайной падмяць пад сябе ўсе народы (нямецкі нацыянал-сацыялізм) ці растварыць усе нацыянальныя культуры ў бясколернасці і адсутнасці разнастайнасці (мондыялізм, савецкі камунізм). Адзначу, што і першае і другое не ўласціва беларускай ментальнасці. У сувязі з гэтым вельмі дарэчы прывесці трапныя словы хрысціянскага філосафа Н.Кляпеніна - "Нацыяналізм - гэта дар, дадзены цэламу народу і звязваючы яго, нягледзечы на індывідуальныя адрозненні людзей у адзінае цэлае. Як для асобнага чалавека правільны хрысціянскі шлях увасабляецца ў развіцці агульнага ўсенароднага дара. Такім чынам, падкрэслю, - сапраўдны нацыяналізм не супярэчыць усяленскасці. Наадварот, шлях да ўсяленскага кладзецца толькі праз нацыянальнае.

А што ёсць хрысціянства? Хрысціянства гэта любоў, якая пашыраецца на ўсіх людзей, збліжае іх; яно ўключае ўсю паўнату ўсяленскай любові. Самае каштоўнае ў хрысціянстве тое, што яно сцвярджае індывідуальнасць асобы. А нацыяналізм - гэта ідывідуальнасць цэлага народа і любоў да гэтай індывідуальнасці. Такім чынам, калі мы звяртаемся да нацыяналізму, то яго сутнасць бласлаўляецца менавіта рэлігіяй як прыклад любові да індывідуальнасці вышэйшага ўзроўню (па маёй класіфікацыі). Як і звычайная любоў да бацькоў, да сям'і, да сяброў, нацыяналізм ёсць пэўная ступень раскрыцця ўсяленскай любові. Нацыяналізм ёсць асобы дар, дадзены Богам цэламу народу, і ён - гэты дар - укладзены ў кожнага чалавека гэтага народа і таму сцвярджаецца хрысціянствам.

Са сказанага вынікае і наш абавязак, як індывідуальнасці, непарыўна звязанай са сваім народам. Кожны чалавек павінен выявіць свой асаблівы Божы Дар быць асаблівай праявай Божай Праўды. У гэтым і ёсць рэлігійнае апраўданне нацыяналізму.

Яшчэ раз падкрэслю і тое, што нацыяналізм ёсць пэўная ступень (першы ўзровень) раскрыцця агульнай, усяленскай любові. Як толькі мы адкінем любую з іерархічных ступеней любові, мы адразу адчуем непаўнавартасць жыцця. Таму нацыяналізм ужо ад нараджэння натуральна ўласцівы кожнаму чалавеку. Другая справа, што ў пэўных гістарычных абставінах пад уздзеяннем розных грамадскіх табу, гэтыя ўласцівасці могуць не раскрывацца ці, нават, падаўляцца. Але гэта ўжо пытанні іншага кшталту. А што ж беларусы? Няўжо наш народ - за выключэннем адзінак -цалкам пазбавіўся гэтага унікальнага Божага Дара - паўнаты ўсяленскай любві, якой ганарыцца і грузін і літовец? Я мяркую, што не. Тысяча гадоў нашаму народу як адметнай супольнасці людзей са сваёй тэрыторыяй, мовай, гісторыяй і іншымі атрыбутамі нацыі. І не зламаўся, ёсць ён - наш народ. Трэба толькі разбудзіць брата-беларуса, вызваліць яго Божы Дар нацыяналізму і заквітнее Беларусь.

**Анатоль АСТАПЕНКА, кандыдат фізіка-матэматычных навук**

# КВАРТЭТУ — ДВАЦЦАЦЬ ПЯЦЬ



**Колькі самых разнастайных музычных інструментаў ёсць ва ўсіх народаў свету! Але, напэўна, самы любімы, папулярны і славуты — гармонік. Ёсць у гармоніка і больш дасканалы малодшы брат, які ў самых далёкіх кутках свету пад рознымі прозвішчамі радуе сваім пераліўным, шырокім гукам: у нас ён называецца баян. Вядомы анекдот: маўляў, баян — гэта той самы гармонік, але з вышэйшай адукацыяй.**

**Вялікай пашанай карыстаецца гэты інструмент у Гомельскім каледжы мастацтваў імя Н. Сакалоўскага, дзе, бадай, самымі славутымі выканаўцамі лічацца ўдзельнікі квартэта баяністаў пад кіраўніцтвам Барыса Давыдава. Здаецца, зусім нядаўна быў створаны гэты калектыў, але вось на чарговую традыцыйную музычную сераду афішы запрасілі на яго 25-гадовы юбілей.**

**Першы кіраўнік квартэта, выпускнік Гомельскага музвучылішча, а потым Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Мікалай Сірата (цяпер ён музычны кіраўнік Акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча) адразу ж прапанаваў складаны цікавы рэпертуар. Гэта "Руская" з балета І. Стравінскага "Пятрушка", уверцюра з оперы В. Моцарта "Выкраданне сераля", "Прэлюдыя і алегра" Ф. Крэйслера. Нямала апрацовак, пералажэнняў было зроблена кіраўніком квартэта, выконваліся творы беларускіх аўтараў, значная месца ўдзялялася класіцы. Канцэрты калектыву праходзілі перад гамяльчанамі, жыхарамі беларускага Палесся, па радыё, на тэлебачанні, а таксама ў Польшчы, Францыі... На першым Рэспубліканскім конкурсе артыстаў эстрады квартэт атрымаў ганаровае званне дыпламанта. Цяпер для квартэта пішуць музыку мясцовыя кампазітары Уладзімір Надтачэй, Аляксандр Гулай, шмат апрацовак прапануе Мікалай Сірата, пошукі рэпертуару прыводзяць да ствараэння цэлых музычных карцін — "Палеская сюіта" Я. Глебава, "Малюнкі з выстаўкі" М. Мусаргскага, "Малюнкі старога Арбата" Я. Дзярбенкі...**

**Маладыя і падцягнутыя знешне, сталыя па майстэрстве Уладзімір Ляйко — першы баян, Аляксандр Маляроў — баян бас, Барыс Бажкоў — баян альт і кіраўнік квартэта Барыс Давыдаў ведаюць, што іх выступленняў чакаюць жыхары Гомеля, працаўнікі сельскай гаспадаркі, чакаюць іх у музычных школах, дзе яны пасля канцэртаў даюць слушныя парады юным баяністам...**

**Шмат было гасцей на юбілейным канцэрце квартэта. Яны не толькі падносілі падарункі, казалі шчырыя словы юбілярам, але і дарылі свае мастацтва, майстэрства выканання на самых розных музычных інструментах... Але ўсе чакалі кульмінацыйнай кропкі, якой сталася выступленне.**

**Валерый РАДЗЬКІН,**
**выкладчык Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага**

*Фота аўтара*

# НАША ПАМЯЦЬ



**У памяць аб загінуўшых вёсках Хойнікшчыны і людзях, што пакінулі родныя мясціны, адкрыты манумент у раённым цэнтры — горадзе Хойнікі.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

Сярод кніг

АМАЛЬ за дваццаць гадоў журналісцкай работы мне шмат дзе давялося ў Беларусі пабываць, асабліва абтупаць Гродзеншчыну. Але і дасюль шкадую, што белых плям на маёй карце рэспублікі яшчэ вельмі многа і, мабыць, так ужо і застануцца яны для мяне тэра інкогніта.

Я любіў і люблю чытаць-разглядваць карты Беларусі — якія ні траплялі б мне ў рукі. Няхай-то старога выпуску, дзе картографы аж са скуры лузаліся, каб як мага больш якіх мы недалічваемся сёння з-за непрадуманых, а ў шэрагу выпадкаў нават злачынных дзеянняў прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі", якія "прычынілі велізарную шкоду духоўнай спадчыне краіны, садзейнічалі адрыву людзей ад гістарычных каранёў".

Першым раздзелам кнігі вучоны паставіў такі — "Мова зямлі — памятка гісторыі", яшчэ раз падкрэсліўшы, што тапанімія з'яўляецца адной з важнейшых крыніц вывучэння таго, што калісь рабілася ў нашым краі. "Старажытны тапонім — гэта проста знаходка ў імкненні выявіць пераемнасць паміж фіна-ўгорскіх моў, балцкіх, кранае пласт тапаніміі, так ці інакш звязанай з паганствам, і той, якая ўзнікла ўжо ў хрысціянскія часы.

"Міжэтнічныя працэсы ў люстэрку тапаніміі" — тут ужо іншы паварот тэмы, шырока і нават займальна расказваецца, як прадстаўнікі іншых плямёнаў і народаў пранікалі на тэрыторыі сваіх суседзяў, асноўвалі там паселішчы, або качавалі і сыходзілі далей ці змешваліся з тубыльцамі, асіміляваліся імі. Гэтак было і на тэрыторыі Беларусі, пра што маюцца каштоўныя крыніцы ведаў — назвы: Дайнава, Жамойцішкі, Кашубінцы, Ляхавічы,

# АД ПРАШЧУРАЎ НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...

АМАЛЬ РЭЦЭНЗІЯ

не паказаць, не назваць, а калі і паказаць, то не так, як у сапраўднасці ёсць, далёка ад месца знаходжання. Цешылі падрабязнасцю вайсковыя двухвёрсткі, дзе, як крупінкі актывананага вугалю з працівагаза, былі пазначаны нават асобныя хутары. Гэтыя, вайсковыя, нават спісаныя ўжо, трапілі да мяне ў рукі складаным шляхам і памаглі ў час працы над раманамі "Мора Герадота" і "Хлопцы, чые вы будзеце..." Урэшце мы дажылі да часу, калі можна ўжо мець карту кожнага раёна з больш-менш падрабязнымі дэталямі, але зноў-такі — на рускай мове...

З адных ужо назваў паселішчаў, якія я тады выпісваў, можна было ўведаць, які ў нашым краі раслінны свет (Дубовікі, Дуброва, Дуброўка, Беразнякі, Бярозава, Бярэзіна, Калінкавічы, Лозкі, Вішнёва, Рабінаўка, Сасновіца, Хвойнікі, Ельск, Малінаўка, Верабалоты, Ліпічы, Чарэмшыцы, Ясень, Грабнікі), які жывёльны (Тураў, Турын, Мядзведаўка, Кабанаўка, Сава, Мышкавічы, Выдрыца, Галубы, Цяцераўка, Казулічы, Чыжоўка, Лінёва, Шчучын, Ласосна, Гракаўка, Вароны, Воранава, Сокалы, Бабруйск, Вавёрка, Ласцік, Лісіцы), і што за зямельку мы маем (Забалаць, Балотчыцы, Пясочнае, Пяскі, Каменічы, Гарбацэвічы, Каменны Лог, Крамяніца, Гліншча, Замошша, Зарудаўе), як жылі людзі (Халопенічы, Галалобаўка, Старчаняты, Старцавічы, Гольчыцы, Галынка, Пагарэльцы, Гарэлае, Бедня, Крапіўніца), чым беларусы займаліся (Буды, Рудні — бясконца, Паперня, Тартакі, Гута, Кавалі, Бердаўка, Кажамякі, Даматканавічы, Кажушкі, Чабатовічы, Грабяні, Крупейкі)... А як вырываліся на волю ад прыгону, з'яўляліся Вялікая Воля, Святая Воля, Стараволя, Ціхаволя, Малая Воля, Воля Круліца. А колькі ў назвах сапраўднай любасці да роднага кутка, захаплення яго прыгажосцю! Любань, Любча, Любонічы, Любашава, Пакалюбічы, Любіж, Любачын, Радунь, Лепель (маё тлумачэнне — ад **лепо, лепей**), Загаранкі, Самахвалавічы, Дружылавічы, Мір, Жытарадзь, Струмень, Гожа, Ціхінічы, Серабранка, Гардуны, Прыбыткі, Шчадры, Верасніца, Дзякавічы, Мілевічы, Мілавіды, Дабрамысль, Красная, Красніца, Краснінка...

Усе падобныя назвы-тапонімы, як пісаў калісь К. Паўстоўскі, "гэта народнае паэтычнае афармленне краіны. Яны гавораць пра характар народа, яго гісторыю, яго схільнасці і асаблівасці побыту". Яны не маглі мяне не хваляваць і захапляць, і некаторыя мае выпіскі захоўваюцца ўжо ледзь не трыццаць гадоў.

Можа, таму і кніжка **"Назвы зямлі беларускай"** Леаніда Міхайлавіча Лыча здзівіла і ўзрадавала мяне: пападанне амаль "у яблычак". Амаль тое, што шмат гадоў выношваў я, збіраўся напісаць, ды так і не сабраўся, не напісаў! І тое, што цяпер чытач мае такую цікавую захапляльную кнігу, напісаную часам абвострана-публіцыстычна, папулярна, але з глыбокай павагаю і любасцю да свайго краю і яго гісторыі, напісаную чалавекам з гарачым сэрцам патрыёта, трэба і вітаць, і ўдзячліва аддаць аўтару належнае.

У прадмове аўтар вызначае мэту напісання кнігі, акрэсліваэ-звужае тэму да разгляду толькі айканіміі — назваў беларускіх населеных пунктаў. Праўда, дзякуй яму, пад канец кнігі не вытрымлівае зададзенасці і вядзе гаворку шырэй, кранаючы нават мікратапаніміі. У гэтым жа ўступным артыкуле аўтар гаворыць і аб тым, што кніга з'яўяецца працягам гаворкі пра багацце і самабытнасць беларускай тапаніміі, што мэта кнігі — "паспрыяць выхаванню паважлівых адносін да яе, вызначыць шляхі вяртання на законнае пачэснае ў сябе на радзіме месца тых арыгінальных назваў населеных пунктаў,



далёкім мінулым і сённяшнім днём, гісторыяй і сучаснасцю", і "чым больш старая паводле часу ўзнікнення назва населенага пункта, тым яна найдаражэйшая". А жыццё нашых далёкіх продкаў не песціла, і не трэба здзіўляцца ці абвінавачваць прашчураў, што часам яны "не знайшлі для наймення родных куточкаў прыгожых, ласкавых для слыху слоў". Яны не саромеліся "таго, што арганічна ўплыталася ў змест самога жыцця".

Аўтар робіць кароткі агляд версій паходжання назваў гарадоў Мінск, Гомель, Магілёў, Брэст, Віцебск, некаторых райцэнтраў, разважае аб этымалогіі назваў гэтых населеных пунктаў, легендах, аб зрусіфікаваных назвах гарадоў Стаўбцы, Беразіно, Мозыр, Копыль, Несвіж, хоць правільна пісаць і вымаўляць трэба было б Стоўбцы, Бярэзіна, Мазыр, Капыль, Нясвіж. "Небеларускія варыянты вымаўлення гэтых тэрмінаў, бясспрэчна, — памылкі, выкліканыя няведаннем нашай мовы аўтарамі, што складалі карты Беларусі". Тут Леанід Лыч, як бачна, не ўтрываў, забег наперад самога сябе, пачаў гаворку пра русіфікацыю і паланізацыю нашых назваў населеных пунктаў, хоць пра гэта павядзе шырокую размову ў кнізе далей, скіруе на гэта ледзь не ўвесь пафас. Зразумеем яго, бо як было ўтрываць, калі такіх скалечаных назваў у Беларусі тысячы!

Суседнюю вёску з маёй — Сярэднікі — пачалі ўслед за зрусіфікаванай назвай Середняки з націскам на апошнім складзе пісаць і ў афіцыйных паперах, і ў перыядычных выданнях. Больш за тое, "в годы Советской власти... топоним стал осмысливаться как название социальной группы крестьянства — середняков" — піша В. А. Жучкевіч пра гэта паселішча ў "Кратком топонимическом словаре Белоруссии" (выд. 1974 г.). Піша, бясспрасна канстатуючы тое, што як пошасць пайшло гуляць паўсюдна. А жыхары ж Сярэднікаў і суседніх вёсак называюць паселішча так, як звалася спрадвеку, што калісь было заснавана паміж двух лясоў, пасярэдзіне.

Але не будзем і мы забягаць наперад, а пагладзім, пра што піша Л. Лыч у другім раздзеле — "Тапанімія як увасабленне жыцця і быту народа". Тут ён расказвае пра тое, як трапілі ў нашу тапанімію даўно забытыя беларускія словы, тлумачыць іх сэнс. А яшчэ — назвы, якія паходзяць з Латыголь, Мазуры, Маскалі, Татары, Цыганы, Чэхаўцы, Славені, Швабы, Мёры, Печанеж, Палаўкі, Мардзвіны, а таксама падобныя на іх вытворныя і зусім інакшыя назвы паселішчаў гавораць самі за сябе. А вось з назвамі Літва, Літвіны і ім падобныя больш складана. Л. Лыч правільна робіць, што не згаджаецца з думкай В. Жучкевіча, які пісаў, што ўсе такія паселішчы заснаваны былі ці заселены літоўцамі (дарэчы, перакачаўча абвяргае сцвярджэнні В. Жучкевіча ў сваіх даследаваннях і М. Ермаловіч). У многіх кутках нашага краю людзі доўгі час называлі сваю радзіму Літвою, а сябе ліцвінамі, бо калісь жылі ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а назва Беларусь прыйшла намнога пазней.

Два апошнія раздзелы кнігі — "Страты і шляхі адраджэння нашай тапаніміі" і "Дарагі набытак гісторыі і культуры" нясуць ў кнізе найбольшую ідэйную і пафасную нагрузку. Па сутнасці, гэта тое галоўнае, дзеля чаго і рабілася кніга.

Першыя пробныя камяні з перайменаваннямі нашых паселішчаў былі кінуты неўзабаве пасля рэвалюцыі, у 1918 годзе. Вёска Раманава сучаснага Горацкага раёна была перайменавана ў Леніна, а ў 1919 годзе В. Алеская цяперашняга Ельскага раёна стала Розай Люксембург. Кінулі гэты камень і ўглядаліся, услухоўваліся — як разыходзяцца кругі? Ага, ціха ўсё, адносна спакойна. Можна працягваць! У дваццатыя гады былі заменены назвы чатырох населеных пунктаў, у тым ліку Рудабелка стала Акцябром, Раманаў Слуцкага раёна, непадалёку ад маіх Старцавіч, таксама стала Леніна. Хоць Раманаў быў вядомы (падкрэслю: Раманаў, а не Раманава, як пачалі пісаць) задоўга да ўсталявання дынастыі Раманавых у Расійскай імперыі. Затое трыццатыя гады даліся ў знакі. Калі ў першай палове замянілі ўсяго чатыры назвы, то ў другой — ужо 67! (усе ў 38—39 гадах). Развіталіся з жыццём нават нейтральныя назвы: Дзягцянка — стала Чырвоным Світанкам, Ізабеліна — Свабодным Жыццём, Старына ператварылася ў Чырвоны Маяк і г.д. Адносная ціша з перайменаваннямі (толькі Прапойск у 1944 годзе замянілі на Слаўгарад) праз паўтара дзесятка гадоў змянілася сапраўдным генацыдам у тапаніміі.

Толькі з 1960 па 1972 год у Беларусі

знікла каля 9 тысяч назваў паселішчаў! Хрушчоўскія авантуры з сельскай гаспадаркай ледзь не давялі яе да поўнага краху, і тады на загад з Крамля пачалося стварэнне шчаслівага і заможнага жыцця хоць бы на паперы, на карце. "Па просьбе трудящихся" у 1964 годзе было "пушчана пад нож" больш за трыста назваў населеных пунктаў! А яны ж стагоддзямі "выконвалі ролю помнікаў гісторыі беларускага народа, дзялілі з ім яго гора і радасць", — піша Л. Лыч. І ніякіх жа "аб'ектыўных прычын для арганізацыі крыжовага паходу супраць нацыянальнай тапаніміі не існавала". І чым замянілі сапраўдныя назвы? Вось узоры камуністычна-чыноўніцкай прыгажосці: Партызанская, Мирная, Советская, Передовая, Светоч, Дружба, Гвардейская, Майская, Солнечная, Урожайная, Раздольная, Зерновая, Ключегорская, Восход, Первомайская, Знамя, Знаменская, Сиреневка, Красноармейская, Отрадное...

Гадоў пятнаццаць назад пісьменнік Эдуард Ярашэвіч, даведаўшыся, што я люблю ездзіць адпачываць "дзікаром", нараіў мне невялічкі пасёлак на паўночным узбярэжжы Крыма. Ён там адпачываў у перасяленцаў з Беларусі і яму спадабалася. Парада мяне заінтрыгавала, бо паўднёвы бераг Крыма я крыху ўжо ведаў. З Сімферопаля ехаў я ў той пасёлак аўтобусам і мог удосталь налюбавацца на цэнтральную і паўночную частку паўвострава. Стэп ці паўпустыня, рэдзенькая, уся ў зеллі, ростам не вышэй калена кукуруза. Сям-там зарослыя руіны нейкіх паселішчаў, джунглі пустазелля па берагах Паўночна-Крымскага канала. Узбярэжжа Каркініцкага заліва сустрэла пранізлівымі, халоднымі вятрамі. Карацей, праз дзень-два давялося ўцякаць адтуль, перабірацца на Каўказ. Але з таго часу захавалася ў мяне карта Крыма.

Што ж я бачу на ёй? Назвы пасёлкаў, з якіх былі ў вайну вывезены крымскія татары: "Раздольное, Гвардейское, Суворовское, Знаменское, Октябрьское, Первомайское (некалькі разоў), Заветное, Красноармейское, Добрае, Вишенное, Удачное, Ровное, Цветочное, Садовое, Приветное, Передовое, Богатое і да т.п.

А ці не ўлоўліваеш ты, чытач, што ўсе гэтыя найменні, хай то беларускія новыя ці крымскія (а таксама чачэнскія, дагестанскія — наслухаліся за гэтыя дні па радыё і тэлебачанні) быццам браліся з аднаго рэкамендацыйнага спіска, спушчанага з Масквы ва ўсе куткі былога Саюза?

Л. Лыч піша, што на такую "словатворчасць" не адважваліся і не адважваюцца ні ў адной з былых саюзных рэспублік, там больш пачціва ставяцца да завешчанага продкамі, у тым ліку і да назваў зямлі. Толькі ва ўмовах нашага краю народная тапанімія як цацка: пазабаўляўся ды ўзяў і выкінуў... У нас калі ўжо рабілі што, дык заўсёды з перавыкананнем плана.

І перайменаванні доўжыліся яшчэ гадоў дваццаць пяць, пагром ужо скіраваўся на неперспектыўныя вёскі. Калі хто і заглядваў ва ўсесаюзнае "Практическое руководство по наименованию и переименованию географических объектов СССР" (выпушчанага, праўда, запозна, у 1987 годзе ў Маскве), то не прымалі пад увагу патрабаванні гэтага нарматыўнага акта: пры намінацыі населеных пунктаў рабіць так, каб назвы адпавядалі "геаграфічным, гістарычным, нацыянальным, бытавым і іншым мясцовым умовам". Найменні павінны давацца "ў першую чаргу па законах мовы насельніцтва той тэрыторыі, на якой размешчаны геаграфічныя аб'екты, лёгка ўпісвацца ва ўжо складзеную сістэму назваў дадзенага рэгіёна". Вышуквалася ў памянёным нарматыўным акце іншае, чым і кіраваліся: "Са зменай гістарычных умоў адбываюцца змены і ў сістэме геаграфічных назваў". І рабілі тыя змены, чынілі гвалт на працягу болей чым семдзесят год!

Новы пасёлак жывёлаводаў у беларускай глыбінцы быў названы Жемчужный. Зноў пайшлі ў ход Миловидное, Победа, Родники, Трудовая, Звездная, Славная... Масавая русіфікацыя, вынішчэнне беларускасці, гвалтоўнае перакройванне карты Беларусі на чужы лад прымалі ўсё больш абвальны характар.

А куды ж глядзела навуковая грамадскасць, творчая інтэлігенцыя ў тыя гады? Чаму не ўзняла свой голас пратэсту? Ставіць такія пытанні Леанід Лыч і адказвае сам сабе: "Ніхто з іх не забіў у звон". А ў саміх жыхароў паселішчаў не вельмі мясцовыя старанні-рэфарматары і пыталіся. Калі дзе і праводзіліся сходы, то для прыліку, а пратаколы зачастую фальсіфікаваліся.

Але тут, будзем шчырымі, аўтар пярэчыць сам сабе. Бо былі выступленні ў друку творчай інтэлігенцыі, асабліва пісьменнікаў. Нават сам Л. Лыч прыводзіць выпрымкі з артыкула Ніла Гілевіча, надрукаванага ў "Звяздзе" 4 сакавіка 1989 года пра жахлівы стан духоўнага жыцця беларускай нацыі: "Сярод наробленага глупства, якое трэба рашуча выпраўляць, абавязкова "адрабіць назад", — перайменаванне гарадоў, вёсак, плошчаў і вуліц, якія мелі ад нараджэння свайго добрыя, цікавыя, гістарычна або геаграфічна матываваныя назвы. У пераважнай большасці выпадкаў перайменаванне такое было ніяк і нічым не апраўдана. Тлумачылася яно проста недахопам культуры ў партыйна-савецкіх работнікаў, іх неразуменнем таго, што сціраць гістарычную памяць народа амаральна, што гэта — дзікунства, і што, дарэчы, нідзе ў цывілізаваным свеце такое не робіцца".

Шмат пісаў у тыя гады аб трагедыі сучаснай беларускай нацыянальнай культуры і народны паэт Беларусі Пімен Панчанка.

А хіба не прыклад сапраўднага змагання за вяртанне даўнейшай назвы роднаму паселішчу прыводзіць і сам аўтар, калі расказвае, як змагаліся яго аднавяскоўцы супраць замены назвы Магільнае на Нёман? Чытаеш пра ўсе перыпетыі барацьбы захоплена, як нейкі дэтэктыў. І гэтая барацьба ішла некалькі гадоў і закончылася перамогай, Магільнае зноў стала Магільным, як было і дагэтуль многія стагоддзі. Леанід Міхайлавіч нават гэтую кніжку "Назвы зямлі беларускай" прысвяціў "Землякам-магілянам, якія ўпарта змагаліся за вяртанне назвы роднай вёскі".

Але гэта, можна сказаць, адзінкавы прыклад. Уся работа па вяртанні назваў яшчэ наперадзе. "... адабранае свядома ці несвядома ў гісторыі і культуры народа павінна быць вернута яму, колькі б гэта ні каштавала", — піша аўтар. "Там, дзе размова ідзе пра духоўнасць нацыі, грошай не лічаць, бо багатай яе робіць не грошы, а духоўнасць".

Аднак кадры ў мясцовых органах улады ніколечкі не змяніліся да лепшага. Але адчуваюць яны сябе бадзёра і ўпэўнена, асабліва пасля спраўкаванага сумна вядомага рэферэндуму. Новая, здаецца, ужо не яўна бальшавіцкая па колеры генерацыя кіраўнікоў такая ж абыякавая да справы ўкаранення беларускасці, справы адраджэння і суверэнітэту краіны, да захавання яе гістарычнай спадчыны і культуры.

Чакаць ад іх ініцыятывы ў вяртанні спрадвечных беларускіх назваў паселішчаў марная справа. Л. Лыч слушна заўважае, што пара надзяліць абласныя тапанімічныя камісіі правам выступаць, мінаючы сельскія, раённыя і абласныя Саветы народных дэпутатаў, з ініцыятывай па вяртанні скасаваных тапанімічных назваў. Больш за тое, "было б крайне неразумным адраджэнне назвы, надзвычай важнай у гістарычных і культурных адносінах для ўсяго беларускага народа, ставіць у поўную залежнасць ад пажаданняў жыхароў таго ці іншага населенага пункта".

Непадалёку ад маіх Старцавіч ёсць вёска Гарнастаў, яе перакручвалі на Гарнастай, а потым пачалі пісаць на картах і ў дакументах, як Гарнастайлава. Бранаўператварыўся ў Бранава, ужо згаданыя мною раней Сярэдняні ў Серадняні, Селішчы ў Селішча, Клешаў у Клешава. А такіх жа назваў, скалечаных і зняевечаных, па ўсёй Беларусі тысячы і тысячы. І, што зусім ужо кепска, па ўсёй Беларусі засвойваюць гэтыя навязаныя чужынцамі назовы.

У сувязі з тым, што ўсё-такі прадстаіць калі не цяпер, то ў будучыні, аднаўленне старажытных назваў, вельмі спатрэбяцца нарматыўныя слоўнікі. Такія, як некалькі разоў згаданы вышэй слоўнік В. Дучкевіча, для такой справы ўжываць нельга, бо ён толькі фіксуе тое, што было па стану канца шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых гадоў. Матэрыялы для гэтага слоўніка атрыманы з розных крыніц і толькі ад 30 да 90 працэнтаў з іх праверана на месцы, як гаворыць пра гэта ў прадмове сам аўтар. Патрэбны такія слоўнікі-даведнікі, якія маглі б паслужыць адзіным нарматыўным дакументам для навуковых і практычных мэт. Стварэнне такіх слоўнікаў пачалося. Так, напрыклад, група вучоных-тапаністаў на чале з В. Лемцюговай ужо склала такі слоўнік па Мінскай вобласці. Але ж гэта толькі па адной вобласці, дый невядома, калі слоўнік пабачыць свет, будзе надрукаваны. А колькі ж яшчэ працы ў гэтым напрамку трэба будзе зрабіць!

Уварванне Леаніда Лыча ў праблемы беларускай тапаніміі, выхад яго кніжкі я ацэньваю вельмі высока. І таму не хочацца звяртаць увагі на тое, што часам аўтар паўтараецца і топчацца на месцы, што раздзелы глядзяцца крыху як асобныя, пісаныя ў розныя часы артыкулы, не дужа падагнаныя адзін да аднаго, калі аб'ядноўваліся ў кніжку. Не падзяляю я таксама і той высокай ацэнкі работы вышэй згаданага В. Жучкевіча, якая рассыпана па ўсёй кнізе. Чаму — гэта тэма асобнай гаворкі.

Павел МІСЬКО

# ЗАХАВАЕМ — ЛЕПШАЕ...

***Рэарганізацыямі сёння нікога не здзівіш. Зліваюць установы, друкаваныя органы, міністэрствы... Вось і яшчэ адно зліццё: на базе былога Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў створаны Нацыянальны цэнтр творчасці дзяцей і моладзі. Наш карэспандэнт гутарыць з яго дырэктарам Аленай ДЗМІТРЫЕВАЙ.***

**— Алена Дзмітрыеўна, наколькі мне вядома, вы доўгі час не хацелі мяняць назву Палаца піянераў...**

— Што ж, гэта наша гісторыя. "Комсомольская правда" таксама не спяшае перайменоўвацца. Хіба справа ў назве?

**— Я разумею. Справа не ў назве — у традыцыях. У тым, ад чаго адмаўляцца і што браць з сабой у заўтрашні дзень.**

— Галоўная наша традыцыя, я лічу, гэта любоў і пашана да дзіцяці. Гэта школа нашага старэйшага выхавацеля С. Каткова, які ніколі не мог выкінуць ніводзін дзіцячы лісток з малюнкам, бо ўпэўнены, што дзіця не бывае неталенавітым. Трэба толькі разгледзець і развіць яго здольнасці. Такой была наша пазіцыя, і яна не змянілася. У палацы займаецца 3 тысячы дзяцей, працуюць 9 узорных калектываў. У гэтых сценах выраслі многія нашы педагогі. Сярод іх М. Іванова (ансамбль танца "Зорачка"), Н. Рачкоўская (тэатр юнацкай творчасці), А. Курацкі (акрабатыкі) і іншыя. Нашымі выхаванцамі былі такія вядомыя мастакі, як М. Данцыг і А. Стальмашонак, народная артыстка Беларусі Л. Бржазоўская, экс-міністр адукацыі В. Гайсёнак.

**— А што азначае слова "нацыянальны" ў назве новага цэнтра?**

— Ну, мабыць, рэспубліканскі...

**— Такое ўражанне, што з былога Палаца піянераў і школьнікаў у новы цэнтр вы перайшлі плаўна і амаль не заўважылі гэтага. У вас толькі новы штатны расклад ці да яго ёсць яшчэ і навукова абгрунтаваная канцэпцыя?**

— Штатны расклад распрацаваў у Міністэрстве адукацыі, а вось з канцэпцыяй цяжэй. Перш за ўсё адзначу, што гэта не механічнае зліццё дзвюх установ пазашкольнага выхавання. Палац быў адной з вядучых устаноў у гэтай галіне, за намі магутная "вертыкаль" — 186 цэнтралізаваных абласных, гарадскіх, раённых і сельскіх раённых устаноў дзіцячай творчасці. Мы не можам не азірацца ў мінулае і разумеем, што былі адносна добра ўладкаваныя установай у таталітарнай дзяржаве. Раней адпаведныя палацы не толькі займаліся вольным часам дзіцяці, але перш за ўсё мелі ідэалагічныя функцыі. Мы ўзаемадзейнічалі з саветамі піянерскіх і камсамольскіх арганізацый у справе выхавання актыву. Аб праблемах і цяжкасцях у дзіцячым, падлеткавым, юнацкім асяроддзі гаварыць услых было не прынята. Вакол нас панавала атмасфера паўпраўды-паўхлусні. І калі адбыліся грамадска-палітычныя зрухі, прыйшла перабудова і ўсё астатняе, мы твар у твар сутыкнуліся з сур'ёзнейшымі праблемамі. Да нас прыйшла статыстыка злачыннасці ў дзіцячым асяроддзі. Не стала забароненых тэм. І мы пачалі разумець, якое бездапаможнае дзіця ў гэтым свеце... Мы і самі адчулі сябе бездапаможнымі, бо не валодаем методыкай работы з "цяжкім дзіцем", у якога нелады ў сям'і, парушаны ўзаемаадносіны з сябрамі. Да ўсяго гэтага дадаўся чарнобыльскі стрэс... Так што сёння мала навучыць дзіця іграць, спяваць і танцаваць.

**— Але ж тыя праблемы (прынамсі, большасць з іх), пра якія вы сказалі, свет даўно ведае і неяк вырашае.**

— Так, мы не забыліся пра сусветны вопыт пазашкольнага выхавання. Тым больш, што з'явіліся магчымасці для абмену і міжнародных кантактаў. У 1993 годзе пад Мінскам адбылася І Міжнародная канферэнцыя па праблемах сацыялізацыі дзяцей і падлеткаў. На яе прыехалі педагогі з Германіі, Турцыі, Ірландыі, Расіі, Украіны, Эстоніі.

Другая такая ж канферэнцыя адбылася ў Берліне, дзе група дырэктараў былых Палацаў піянераў вывучала сістэму падрыхтоўкі сацыяльных педагогаў. Гэта ж нам толькі ўнушалі, што пазашкольныя выхаваўчыя ўстановы — выключна заваёва сацыялізму. У Берліне, у адным толькі яго раёне, дзе 250 тысяч насельніцтва, працуе 29 такіх устаноў, якія дапамагаюць дзецям адаптавацца ў жыцці. Што яшчэ было новым для нас: у Германіі педагогаў для школ і для пазашкольнай работы рыхтуюць у розных тыпах навучальных устаноў. Гэта, аказваецца, розныя прафесіі! У выпадку, калі дзіця парушыла закон, сацыяльны педагог выступае як адвакат, ён сцяной становіцца паміж законам і маленькім чалавекам, які не падрыхтаваны да дарослага жыцця і не застрахаваны ад памылак.

**— І як вашы адкрыцці адлюстраваны ў структуры?**

— У нас з'явіліся два новыя аддзелы — сацыяльна-педагагічнай работы і дзіцячых арганізацый і рухаў. Апошніх у Беларусі — колькі б вы думалі? 47! Сярод іх і піянеры тыя ж, і скаўты, і скарынічы, і экалагічныя, і па інтарэсах... Мы жывём у дэмакратычным свеце і павінны ўлічваць яго разнастайнасць. Хачу падкрэсліць, што ва ўсе часы, нават пры жорсткіх ідэалагічных установках, мы не былі абмежаваны рамкамі праграм. Наш палац быў у многім творчым клубам, адкуль і унікальныя аўтарскія школы, праекты. Сярод іх — праект для асабліва адораных дзяцей, конкурс "Міс-каса" і многія іншыя. Завязаліся ў нас творчыя кантакты з немцамі. Нямецкая моладзь напісала п'есу і музыку да яе. Кампазітар Златкоўскі зрабіў аранжыроўку. Іх пастаноўшчык, наш аркестр. У галоўнай ролі рэжысёр Н. Рачкоўская. Прэм'ерныя спектаклі адбыліся ў Берліне і ў Гомелі. Так што канцэпцыя цэнтра ў стадыі асэнсавання.

**— Такім чынам, свой юбілей Палац піянераў і школьнікаў адзначыць не паспеў...**

— Чаму? Восенню мы адзначым не проста юбілей — 60 год палаца (між іншым, гэта помнік архітэктуры), мы адначасова правядзём прэзентацыю новага цэнтра. Так што кароль памёр — няхай жыве кароль! Як казалі мудрыя, усё праходзіць і ўсё застаецца. Мы захаваем лепшае.

**— Дзякую, Алена Дзмітрыеўна, за гутарку. І ўсё ж, каб не зблудзіць паміж старых савецкіх і новых расійскіх традыцый, час ад часу пазірайце на новую шыльду (а яна хутка з'явіцца): *"Нацыянальны цэнтр..."* і далей па тэксце.**

**Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Пошта

# ПОДЫХ ВЕЧНАСЦІ

Паважаная рэдакцыя!

Дазвольце ад імя маскоўскіх беларусаў — сяброў Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны — праз вашу газету выказаць шчырую падзяку тэатру "Вольная сцэна", чый прамень высокага мастацтва ў такі сумны час асвяціў нашы душы тут, у Маскве.

11 траўня нам пашчасціла паглядзець знакаміты спектакль — лаўрэат міжнароднага конкурсу ў Шатландыі "Рычард". Асабіста я шмат чула пра гэты спектакль і ад англійскіх беларусаў, якія паглядзелі яго падчас фестывалю ў Шатландыі, чытала станоўчыя водгукі ў друку, але тое, што ўбачыла, пераўзышло мае спадзяванні.

Рэч у тым, што раней я ўжо бачыла гэты несмяротны шэкспіраўскі сюжэт у маскоўскім тэатры імя Вахтангава з таленавітым М. Ульянавым у галоўнай ролі. Вахтангаўскі спектакль у свой час карыстаўся поспехам: усе хадзілі "на М. Ульянава". Але потым, калі прыгадвалі з сябрамі спектакль, высвятлілася, што ў нашай памяці, апрача акцёрскага тэмпераменту М. Ульянава, нічога не засталося. Склалася ўражанне, што мы наведалі тэатр аднаго акцёра.

Іншая справа — пастаноўка "Вольнай сцэны". Тут была трупа, калектыў, цэласнае дзейства, у якім кожны акцёр адчувае другога і кожны на сваім месцы. Безумоўна, выдатна іграў Алег Гарбуз. З дапамогай "Вольнай сцэны" спектакль набывае новае філасофскае, агульначалавечае гучанне. Пачынаеш разумець, што Шэкспір сучасны! Так, напэўна, і павінна быць, калі спалучаецца геній пісьменніка з талентам і душой акцёраў і пастаноўшчыкаў. Быццам увайшоў у наш свет праз іх душы, вялікі Шэкспір і з дакорам пытаецца: "Людзі, хіба за 400 год вы так і не навучыліся распазнаваць зло, не пазбавіліся тых ганебных і заганных рысаў, што паказаў я вам у сваім творы? Калі вы не здолееце сваім розумам і адзінствам пераадолець злы дух Рычарда — ён знішчыць вас".

Спектакль вельмі ўражвае. Застаешся з нейкім пачуццём вечнасці: вечнасці нашых праблем, вечнасці Шэкспіра, вечнасці Яго Вялікасці Тэатра. Ад шчырага сэрца жадаем "Вольнай сцэне" далейшых творчых поспехаў і знаходак, жадаем удзячных гледачоў, як за межамі краіны, так і дома...

Таіса МІШЧАНКА

Адгалоскі

# НА ДАДЗЕНАЙ БОГАМ МОВЕ!

Уважліва прачытаў артыкул В. Дышыневіч "Пра "Евангелле ад Васіля" ("ЛіМ", N 11, 15.03.96). Хацеў знайсці ў ім адказ на пытанне: чаму ўладыка Філарэт не даў дазволу на царкоўнае выданне "Евангелле ад Васіля", якое зрабіў В. Сёмуха ў беларускай мове. Але такога адказу не знайшоў. В. Дышыневіч шмат піша аб калектыўных перакладах, перасцерагае ад скажэнняў духоўных каштоўнасцяў Евангелля. З гэтым можна пагадзіцца. Боская мудрасць павінна быць давездена да вернікаў такой, якой яна пададзена ў першакрыніцах. Але ж яны выдадзены на мовах, якія зразумеюць абмежаваныя колы спецыялістаў. Пераважная колькасць вернікаў не ведае гэтых моў. Вернікі, як гэтага патрабуе Евангелле, абавязаны звярнуцца да Бога дадзенай ім самім мовай. Гэтага і не адмаўляе і аўтар у сваім артыкуле. Але ж дзе недакладнасці перакладу ці скажэнні тэкстаў, зробленыя сп. Сёмухам? На жаль, гэта ў артыкуле не паказана. Ёсць адзін спасыл на тое, што ён замест Пасхі ўжыў слова Вялікдзень. Я не тэолаг, не навуковец, не даследчык Біблейскіх тэкстаў. Апошнім часам шмат чытаю рэлігійнай літаратуры, тлумачэнняў да яе. Таму пакідаю за сабою права выказаць свае меркаванні па некаторых пытаннях. У прыватнасці, па ўжыванні Пасхі і Вялікадня. У гістарычным маштабе яны маюць супадзенне, але падзеі за імі стаяць розныя. Пасха — гэта свята, якое адзначаюць габрэі ў памяць іх зыходу з Егіпта, а Вялікдзень — гэта дзень уваскрашэння нашага збаўцы Ісуса Хрыста, які ў часе супадае са святам Пасхі. Так што гэтыя паняцці не адназначныя ў сваёй прыродзе. Пасха — свята толькі габрэяў, а Вялікдзень — свята хрысціян усяго свету. Таму ён і Вялікдзень.

У сваім артыкуле В. Дышыневіч робіць націск галоўным чынам на тое, што сп. Сёмуха скардзіцца на прыніжэнне яго як аўтара перакладу. Нічога дрэннага ў гэтым няма. Я думаю, кожны творца мае права на павагу да яго і адпаведным чынам адказваць іншым. Тым больш, аўтар сцвярджае, што "праца біблейскіх камісій не замінае стварэнню аўтарскіх перакладаў Св. Пісання. Цяпер у свеце іх шмат". Дык у чым справа? Да таго ж, В. Дышыневіч сведчыць, што яму дапамагалі, і трэба меркаваць — людзі паважаныя, прадстаўнікі іншых цэркваў (праваслаўнай, пратэстанцкай, баптысцкай, пяцідзесятніцкай, каталіцкай, уніяцкай).

І ўжо зусім здзіўляе сцвярджэнне аўтара артыкула, "што сапраўднае духоўнае адраджэнне — гэта ўзнаўленне сувязі чалавека з Богам праз Хрыста — справа глыбейшая, чым адраджэнне мовы ці культуры..." Тут паўстае пытанне, як звязацца з Богам? На гэтае пытанне вельмі геніяльна і вельмі коратка дае адказ Евангелле. Там гаворыцца, што мова лічыцца найвялікшым боскім дарам, сэнс якога: да Бога трэба звяртацца на той мове, якую Ён даў людзям. Беларусам Ён даў беларускую мову і толькі на ёй мы абавязаны звяртацца да Яго. Здаецца, зразумела. Праўда, ёсць у артыкуле спасылка на тое, што да Праваслаўнай Царквы прыходзяць людзі розных нацыянальнасцей. Гэта праўда. Але праўда і тое, што сярод прыхаджан беларусаў — пераважная большасць. Вось гэтую большасць Праваслаўная Царква пазбаўляе магчымасці звярнуцца да Бога на дадзенай ім мове.

В. Дышыневіч сцвярджае, што ўладыка Філарэт і БПЦ робяць шмат для адраджэння беларускай мовы. Хацелася, каб гэта было так. Але ж факты гавораць аб іншым. Вось прыклад. Папскі нунцый на Беларусі пражыў на нашай зямлі крыху больш за год. Але паспеў вывучыць нашу мову і развітаўся з беларускімі вернікамі на нашай мове. Ад уладыкі Філарэта мы чулі па-беларуску колькі слоў падзякі. І ўсё. Тое, што ўладыка Мікалай правёў набажэнства ў Мінску на беларускай мове, аб чым піша аўтарка, не ёсць заслуга БПЦ. У якой Праваслаўнай Царкве Мінска вядзецца набажэнства на беларускай мове? Падкажыце. Я мінчук, прыйду абавязкова паслухаць.

Зрэшты, магу зазначыць, што беларуская мова ў храмах на Беларусі гучыць. Яна гаспадыня ва уніяцкіх храмах (у Мінску два прыходы). Беларускія спевы і казанні можна чуць ва ўсіх беларускіх касцёлах. Чаго не скажаш пра БПЦ. Умовы для ўсіх аднолькавыя, толькі падыходы розныя.

Галоўнае ж — няма ў артыкуле сп. Дышыневіч адказу на пытанне, чаму ўладыка Філарэт не даў дазволу на царкоўнае выданне Евангелля ў беларускай мове. Пэўна, усё ж вельмі не хочацца "пушчаць" беларускую мову ў Праваслаўную Царкву.

Але ж ёсць Божая міласць да беларусаў. З ласкі яе ўладыка Мікалай блаславіў у свет беларускае Евангелле. Мы маем магчымасць чытаць Божае слова ў беларускай мове. За гэта — наш сардэчны дзякуй Богу.

**Іван АНТАНЮК**

*г. Мінск*

# НА ЯКОЙ МОВЕ МОЛЯЦЦА Ў ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ?

## КАМЕНТАРЫЙ ДА КАМЕНТАРЫЯ

У каментарыі да майго артыкула ў "ЛіМе" ад 15 сакавіка 1996 г. ёсць, на жаль, сцвярджэнне, што не адпавядае ні сучаснай рэчаіснасці царкоўнага жыцця, ні гісторыі. Сцвярджэнне такое распаўсюджваецца ў апошнія гады: пішуць, што праваслаўныя беларусы мусяць маліцца на чужой, рускай мове; што нібыта іх вучыць ці то прымушае да гэтага Руская Праваслаўная Царква. Між тым ад часоў хрышчэння Русі да нашых дзён у Праваслаўнай Царкве богаслужэнне адбываецца на царкоўнаславянскай мове, а не па-руску. У Расіі таксама. І ніхто там не абураецца за нейкую знявагу рускай мовы, наадварот, акадэмік Ліхачоў адзначыў вялікую ролю Праваслаўнай Царквы ў захаванні культурнага скарбу — царкоўнаславянскай мовы, а гэта ж і наш агульны скарб. Царкоўнаславянская мова створана св. Кірылам і Мяфодзіем спецыяльна для богаслужэння, малітвы. Яна кніжная і ніколі не была побытавай, на ёй не размаўлялі. Мова сакральная і асаблівасць яе — высокі малітоўны дух, урачыстасць, глыбіня пакаяння і ўслаўлення Бога. Яна лёгка ўспрымаецца ў Царкве, дзе іконы, духоўныя спевы, дзе Дух Божы і чалавек цягнецца душою да Хрыста. А вось калі так сабе, дзеля цікавасці, чытаць старажытныя тэксты з "Молитвослова" ("Малітоўніка") ды яшчэ пасля сучасных тэлеперадач, ды яшчэ з цыгарэтаю або кавай, дык і не зразумееш нічога, нават калі і філалагічную адукацыю маеш. Усё залежыць ад стану душы, ад веры і малітоўнасці. Таму і любяць праваслаўныя вернікі традыцыйную мову Царквы. Да таго ж кожны вернік карыстаецца не толькі традыцыйнымі малітвамі, складзенымі святымі, што надрукаваныя ў "Молитвослове", але і звяртаецца да Бога са сваімі словамі на сваёй роднай мове, і ніхто ніколі гэтага не забараняў, наадварот — святары вучаць такой шчырай малітве-размове з Богам. Гэта больш хатняя, келейная малітва, якая спалучаецца з так званым "правілам". Да таго ж асобныя малебны і акафісты ў Царкве па жаданні прыхаджан чытаюцца таксама па-беларуску.

Неяк няправільна, скажона ўспрымаецца ў нас часам назва Руская Праваслаўная Царква, у складзе якой Праваслаўная Царква Беларусі. Нібыта назва ідзе ад рускай мовы, або ад прыналежнасці сучаснай Расіі. Між тым назва старажытная, ад той Русі, дзе княствы Кіеўскае, Полацкае, Наўгародскае ўспрымаліся летапісцам як "земля Руская, светло украшеная", дзе Кірыла Тураўскі быў "златоустом земли руской" і нават пазней доктар Скарына назваў сваю неўміручую кнігу "Біблія Руская". Вядома, князі на Русі моцна ваявалі між сабою, але менавіта Царква Праваслаўная яднала народ духам веры, несла мір Хрыстоў. Гэта факты нашай даўніны. Тое, што падалося каментатару газеты "небеларускім духам РПЦ" у Беларускай Праваслаўнай Царкве, гэта і ёсць дух праваслаўнай даўніны, шматвяковай традыцыі ад часоў апостальскіх, праз Візантыю, Кіеўскую Русь, праз святыні Кіева-Пячорскай, Троіца-Сергіевай, Пачаеўскай лаўр, Пскова-Пячорскага манастыра, Опцінай пустыні, Валаама... Усё гэта для праваслаўных вернікаў Беларусі роднае, як і святыні Вільні, Смаленска, Полацка, Жыровіч. Туды ездзілі і ездзяць духоўна ўмацавацца нават зараз, калі гэта вельмі нялёгка. У нас жа адзіныя праваслаўныя святыні і святыя, незалежна ад сучасных палітычных і моўных межаў. Вялікай радасцю для праваслаўных вернікаў было ўвядзенне ў 1984 г. па блаславенні патрыярха Пімена, стараннямі мітрапаліта Філарэта, у святцы ўсёй Рускай Праваслаўнай Царквы асобнага свята "Сабор беларускіх святых", раней было толькі мясцовае іх ушанаванне. І скрушна на сэрцы, што ў гэты святы для беларусаў дзень ніколі не бачна ў Царкве тых, што так моцна хварэюць у друку за праваслаўных беларусаў, якіх зневажае "РПЦ". Даруй ім, Божа, гэтую блытаніну і дай па-сапраўднаму стаць вернікамі, а не проста шукаць у Царкве нейкае падмацаванне сваім нацыянальным, культурным ці палітычным пошукам. Не дзеля гэтага заснаваў Хрыстос Сваю Царкву.

Што тычыцца мовы нашай беларускай, то не загіне яна, калі мы з дабром і любоўю (а не асуджэннем) панясём яе людзям, перш за ўсё дзецям, моладзі. Гэта ж якая сіла, калі кожны, хто добра валодае моваю, пойдзе з нейкім цікавым, патрэбным словам у дзіцячыя садочкі, школы, інтэрнаты... Толькі адну гадзіну ў тыдзень! Ішлі ж у 20-я гады студэнты, інтэлігенцыя ў народ, каб вучыць грамаце, мове. Не за грошы, часам галодныя, дрэнна апранутыя, але не судзілі непісьменных, а любілі, дапамагалі. Вось і зараз патрэбна людзям моўная дапамога. І ўжо досыць, пэўна, нам лямантаваць, што мову нашу лічаць "мужыцкай", бо спарахнелі даўно ўжо косці тых паноў, што так казалі, а мы маем развітую літаратурную мову, што маем свой статус у сусветнай славістыцы, маем добрую мастацкую літаратуру, навуковыя працы на роднай мове. Іншая справа, што літаратурная мова наша развівалася ў атэістычныя часы, таму і не развіты яе багаслоўскі слоўнік, ды і ў філасофскім шмат яшчэ працы. Таму і перакладаць багаслоўскія і богаслужбовыя тэксты вельмі складана. Мне здаецца, што годнасць наша нацыянальная якраз у тым, каб сцвярджаць практычна моц і багацці сваёй мовы, а не аднаўляць стогадовыя крыўды беларусаў, што хацелі "людзьмі звацца". Мы ж амаль у XXI ст. жывём і маем суверэнную дзяржаву, што прынята ў ААН, ЮНЕСКА. Чаго плакацца? Проста трэба вялікая культуралагічная праца ў галіне мовы. І гэта вялікая адказнасць інтэлігенцыі. Ніва вялікая, і патрэбны сейбіты, а не плакальшчыкі.

Думаецца, зараз зусім не справа інтэлігенцыі вырашаць нешта моўнае ў богаслужэнні за царкоўны народ. Досыць таго, што старанна вучылі матэрыялізму і атэізму, а цяпер бачым маральны плён гэтага. Мяркую, што карысней было б разам з народам шчыра ісці ў Дом Божы, такі, які ён існуе па волі Божай. Дарэчы, і ў лёсе мовы таксама воля Божая, а не толькі чалавечая. Ну глядзіце на мову яўрэйскую: колькі стагоддзяў быў народ гэты ў рассеянні, карыстаўся чужымі мовамі, культурай, а вось адраджаецца мова ягоная. І наша не загіне. Толькі б шчыра прыхіліліся мы да Бога, пакаяліся ў грахах, тады і справа моўная будзе на карысць душы народа, а так ніякія абвінавачванні не дапамогуць, бо "не судзіце да не судимы будете" — гэта ж сказана для ўсіх і на ўсе часы.

**Валянціна ДЫШЫНЕВІЧ**

**Ад рэдакцыі.** Спадарыня Дышыневіч гэтым разам адгукнулася на наш каментарый да яе каментарыя адносна інтэрв'ю В. Сёмухі газеце "Имя". Не згаджаецца яна, што беларусы не маюць магчымасці гаварыць з Богам на роднай мове, што Беларуская праваслаўная царква — беларуская толькі фармальна, назваю сваёю, што дух у ёй пануе зусім не беларускі. Не згаджаецца — што ж, Бог з ёю, як кажуць. Толькі ж малітва — гэта адно, а штодзённая дзейнасць царквы, самыя розныя жыццёвыя стасункі святароў з вернікамі, прыхаджанамі ўсіх узростаў — гэта другое. Паслухаць малітву можна і на царкоўнаславянскай мове. Ну а чаму ж усё іншае — і ў царкве, і па-за межам яе — па-руску? Сп. Дышыневіч піша, што "ніхто ніколі не забараняў звяртацца да Бога са сваімі словамі на сваёй роднай мове, наадварот — святары вучаць такой шчырай малітве-размове з Богам". Што на гэта сказаць? Не забаранялі, бо — нельга забараніць, чалавек і дома можа памаліцца. А вось на якой мове вучаць святары вернікаў "шчырай малітве-размове з Богам"? На рускай, сп. Дышыневіч, на рускай! Па-беларуску — хіба, як вельмі рэдкае выключэнне.

Але найбольш засмуціла ў "каментарыі да каментарыя" іншае. Засмуцілі папрокі ў адрас тых, "якіх зневажае "РПЦ", пажаданне ім не "шукаць у Царкве нейкае падмацаванне сваім нацыянальным, культурным ці палітычным пошукам". Ніхто не шукае, сп. Дышыневіч! Аднак жа памятаем: царква і школа ствараюць нацыю. Беларуская праваслаўная царква, на жаль, не спрыяе гэтаму.

Ну, а напрыканцы сп. Дышыневіч увогуле, як кажуць, дагаварылася і параіла ўсім абаронцам роднай мовы не "лямантаваць", што мову нашу лічаць "мужыцкай", а ісці ў народ і несці мову людзям, перш за ўсё дзецям і моладзі, як ішлі ў 20-я гады студэнты, інтэлігенцыя, каб вучыць грамаце". У сваёй суверэннай дзяржаве ратаваць мову грамадскімі высілкамі? Маўляў, дазвольце, дзядзечка, пераначаваць мне ў сваёй хатцы, хоць пад лаўкай?!

Зрэшты, пэўны адказ сп. Дышыневіч ёсць і ў лісце мінчука І. Антанюка...




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП —** *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4400
Нумар падпісаны 22.8.1996 г.
Заказ 4738/Г

П 123456789101112
М 123456789101112